—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
29
МАЯ
1992 г.
№ 22 (3640)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)


## УКРАДЗЕНАЕ НЕБА, ЗНЯВЕЧАНАЯ ЗЯМЛЯ...



Гутарка рэдактара аддзела публіцыстыкі «ЛіМа» Міхася ЗАМСКАГА з членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, прэзідэнтам Беларускага экалагічнага саюза Барысам САВІЦКІМ.

СТАРОНКІ 5, 12

## ПАСТАВІМСЯ ДА ВОПЫТУ КРЫТЫЧНА

Завочны «круглы стол» «ЛіМа».

СТАРОНКІ 6—7

## ХАОС

З новых апавяданняў Георгія МАРЧУКА.

СТАРОНКІ 8—9

## КАМУ НАЛЕЖЫЦЬ ХРАМ

Нататкі Святланы БЕРАСЦЕНЬ з музычнага фестывалю ў Полацку.

СТАРОНКІ 10—11

## ВАРЫЯНТ ВОСТРЫХ ВУГЛОЎ



Алесь МАРАЧКІН: «Бальшавікам заўжды былі патрэбныя таленавітыя мастакі, кампазітары, паэты, якія б стваралі прывабныя аблічча таталітарнага рэжыму. І рэжым дзеля такіх мастакоў не скупіўся на пахвалу і ўзнагароды. Не абмінуў ён і Міколу Пашкевіча: ён адным з першых на Беларусі быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Яго ўзнагароджвалі, ад яго і патрабавалі».

СТАРОНКІ 14—15

## АКРЫЛЕНАЯ ЛЮБОЎЮ

Алесь БЯЛЯЦКІ: адзін дзень з Верай РЫЧ.

СТАРОНКА 16




Ява нашага сяла: восем дзевак — адзін я...

Фота А. КЛЕШЧУКА.

ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

# Пазіцыя Ватыкана вызначана?

23 мая інфармацыйныя агенцтвы паведамілі, што Ватыкан устанавіў дыпламатычныя адносіны з Малдовай, Грузіяй, Арменіяй і нават з Азербайджанам, дзе пераважае мусульманскае насельніцтва. Агенцтвы нагадалі, што раней Апостальская Сталіца ўстанавіла дыпламатычныя адносіны з Расіяй, Украінай, Латвіяй, Літвой і Эстоніяй.

Не трэба глядзець на карту, каб канстатаваць відавочны факт: з усіх еўрапейскіх дзяржаў СНД Ватыкан абмінуў сваёю ўвагаю толькі Беларусь. І гэта пасля сустрэчы прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча з Папам Янам Паўлам II у час нядаўняга візіту ў Італію...

Ватыканская дыпламатыя мае вельмі даўнія традыцыі. Знешнюю палітыку гэтай дзяржавы распрацоўваюць дыпламаты высокай кваліфікацыі. Яны не маглі не ведаць, што гэткі жэст Ватыкана можа абразіць нашу нацыянальную годнасць. Не верыцца, што гэта пазіцыя дыпламатычнага ведамства Апостальскай Сталіцы. Хутчэй за ўсё выявіўся ўплыў на ватыканскую палітыку лэўных сіл, якія бачаць на Беларусі свае «ўсходнія крэсы», а ўсіх католікаў у нашай краіне гатовыя залічыць у палякі. Дастаткова нагадаць пра перадачу Варшаўскага тэлебачання, героем якой быў мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі Казімір Свёнтак. Дастойны архібіскуп выступаў не як пастыр католікаў лацінскага абраду незалежна ад іх нацыянальнасці, а як дзеяч польскага руху. Перадача, якая трансліравалася 18—19 красавіка, скончылася словамі а. Казіміра: «Я —паляк!» З другога боку, у ватыканскай курыі моцнае польскае лобі, якое мае істотны ўплыў на выпрацоўку палітычнай лініі Апостальскай Сталіцы.

Раней ці пазней Ватыкану трэба будзе паразумецца з урадам Беларусі. Час імперыі, здаецца, прайшоў, і ўсе царкоўныя пытанні цяпер не вырашыш праз Маскву. Думаецца, не ў інтарэсах Ватыкана абражаць дзесяцімільённы народ, у якім пераважаюць некатолікі і шмат атэістаў.

С. А.

# «Гадзюка, якая можа ўкусіць...»

## З прэс-канферэнцыі Беларускага згуртавання вайскоўцаў

Здавалася б, чаго грашыць? У падтрымку дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь створана ўласнае войска. Ёсць і міністр абароны Рэспублікі Беларусь. Сваімі вачыма бачыў і праект пячаткі міністэрства на беларускай мове. Таму мо і занадта радыкальна-незразумелымі выглядаюць высновы кандыдата тэхнічных навук падпалкоўніка Міколы Статкевіча, зробленыя на пачатку прэс-канферэнцыі Беларускага згуртавання вайскоўцаў? Вось што, у прыватнасці, старшыня БЗВ зазначыў:

— Наш рух пачынае працаваць у новых умовах. Фармальна створана беларускае войска. Так, гэта крок уперад. Але ў якой ступені яно надзейнае, ці адданае рэспубліцы і народу?.. На мой погляд, сітуацыя нагадвае наступнае. Чалавек трымае ў кватэры гадзюку, якая можа і ўкусіць... Трэба дбаць пра тое, каб беларускім стала войска па духу. Пакуль жа атрымліваецца нешта накшталт добрай дамоўленасці, некаторых палавінчатых абавязацельстваў з боку ваенных: «Хай народ нас утрымлівае, хай корміць, а мы паглядзім, ці варта гэты народ бараніць...»

І якімі б вострымі ні здаліся некаму словы Міколы Статкевіча, усё ж, ведаючы сітуацыю ў вайсковых калектывах рэфармаванай Беларускай ваеннай акругі, не пагадзіцца з ім нельга. А найперш вось чаму. Вайскоўцы Беларусі (за выключэннем салдат тэрміновай службы мінулага асенняга прызыву) не прымаюць прысягі на вернасць сваёй дзяржаве. І гэта тлумачыцца імкненнем не абвастраць сітуацыю і г. д. Вось табе і першая згадка пра боязь (каго—народа? парламента?) абудзіць гадзюку.

Па-другое, надта нерашучымі выглядаюць меры па вырашэнні праблемы вяртання на Беларусь землякоў-афіцэраў. Зразумела, што ў сённяшняй (найперш — эканамічнай, сацыяльнай) сітуацыі гэта вельмі і вельмі няпроста. І тым не менш, не вырашыўшы пытання з афіцэрамі-беларусамі, што служаць за межамі Рэспублікі Беларусь, нельга ўсур'ёз гаварыць пра ваенную палітыку суверэннай дзяржавы. Калі мы ствараем новую Беларусь на вякі, то давайце не будзем нараджаць новую хвалю эміграцыі.

І старшыня БЗВ, і астатнія ўдзельнікі прэс-канферэнцыі шмат гаварылі пра нізкі ўзровень, а часам і зусім пра адсутнасць патрыятычнага выхавання ў войску. Грамадска-патрыятычны рух беларускіх вайскоўцаў шукае ў гэтым плане шляхоў супрацоўніцтва з новымі структурамі Міністэрства абароны. У прыватнасці, сябрамі БЗВ распрацаваны праекты праблематыкі гуманітарнай падрыхтоўкі. Пакуль жа падчас веснавой праверкі замест пытанняў пра У. І. Леніна і ролю КПСС ва ўсіх нашых перамогах вайскоўцы адказвалі на пытанні, прысвечаныя слаўнай расійскай ваеннай гісторыі, постацям А. Суворава і Пятра І. Словам, і тут мы ўсё яшчэ пад уражаннем ад маскоўскіх прывідаў. Ці мо ў чаканні сваіх — беларускіх — загадаў, арыентацый? Але ж хто іх аддасць, калі не мы самі?..

Вялікая роля патрыятычнага выхавання ў войску. І, відаць, пэўны грамадскі ўплыў на разуменне гэтага кіраўніцтвам Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь магла б аказаць і грамадскасць.

Размова на прэс-канферэнцыі ішла і пра іншыя праблемы вайсковай рэчаіснасці. Намеснік старшыні БЗВ палкоўнік Уладзімір Савянок звярнуў увагу журналістаў на тое, што ў шэрагу воінскіх калектываў працягваецца крадзеж маёмасці:

— Калі хто з вас зацікавіцца, то магу прапанаваць цэлы стос папер, якія аргументавана засведчаць пра існаванне ў войску карупцыі, пра крадзеж, які вызначаецца вялікімі грашовымі сумамі... Пракуратура ж, як ні дзіўна, на гэтыя факты не рэагуе.

Няпростая сёння сітуацыя ў войску, як і ва ўсім, між іншым, грамадстве. І выпраўленне ўчарашніх хібаў, імкненне не дапусціць новыя ў аднолькавай ступені ляжаць на плячах усіх — і кіраўніцтва Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, і грамадска-патрыятычнага руху Беларускага згуртавання вайскоўцаў, і парламента, і беларускага ўрада гэтаксама.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# КРЫЎДНА БЫЛО...

Ах, прыгожа выступалі 25 сакавіка, у Дзень Волі, на сцэне Дома літаратара вайскоўцы! І таму, пабачыўшы афішу пра іхняе выступленне 15 траўня ў філармоніі, я без роздуму пабегла туды. І плакалі мае грошыкі, і настрой быў сапсаваны так, што наўрад ці хутка пайду я наступным разам у філармонію...

Бо беларускіх песень амаль не было, а з беларускіх танцаў збольшага прыгожа і праўдападобна былі выкананы толькі «Паланез» Агінскага і «Падэспань».

Замест таго, каб танцаваць аб'яўленую «Лявоніху», вайскоўцы ліха адплясвалі нейкае папуры па матывах расійскіх пераплясаў, прытым упрысядку. Гэты апошні элемент зусім неўласцівы беларускаму танцу. Незразумела, навошта ж было называць беларускімі танцамі рускія перапляссы? Навошта хлусіць? Ці гэта жаданне давесці, што беларуская культура не мае свайго адметнага твару?

Зважаючы на вялікую колькасць рускіх элементаў і танцаў у канцэрце, мяркую, што па сваёй задуме канцэрт быў канцэртам рускага мастацтва.

Але чаму гэтая акалічнасць аніяк не была адлюстравана ні ў афішах, ні ў праграмках? Навошта было ўводзіць у зман, абяцаючы шмат беларускіх твораў?

**Марыя АПЕЙКА,**
бібліятэкарка.

г. Мінск.

# ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАВАНАЕ ЖЫЦЦЁ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЛІТАРАТУРА

## З пасяджэння рады СП Беларусі

Прайшло пашыранае пасяджэнне рады Саюза пісьменнікаў Беларусі, асноўным пытаннем на парадку дня якога стаяла: «Нацыянальнае Адраджэнне і сучасны літаратурны працэс». Як і планавалася, былі заслуханы тры даклады. З аглядам прозы выступіў Уладзімір Конан, паэзію аналізаваў Алег Лойка, літаратура беларускай эміграцыі была ў цэнтры выступлення Барыса Сачанкі.

У. Конан у сваім дакладзе (мяркуе прапанаваць яго аднаму з выданняў, мо «ЛіМу») падрабязна прааналізаваў апошнія публікацыі ў часопісах «Маладосць», «Полымя», іншых перыядычных выданнях, звярнуў увагу на шэраг кніг, у прыватнасці, У. Арлова, В. Іпатавай, А. Жалязоўскага і іншых. На яго думку, у прозе пераважае рэтраспектыўнае асэнсаванне жыцця. Калі ж глядзець шырэй, дык у нас па-ранейшаму дэнацыяналізаванае жыццё як бы сутыкаецца з нацыянальнай літаратурай, якая вымушана паказваць тое, што павінна быць, а не тое, што назіраецца ў сапраўднасці. Гаварыў У. Конан пра дэвальвацыю грамадскіх каштоўнасцей, засілле ў літаратуры мастакоўскага аматарства. Істотнаму паніжэнню ўзроўню творчай працы аўтараў садзейнічае і тое, што яны абавязкова павінны недзе працаваць, каб зарабіць сабе на хлеб надзённы. У выніку і з'яўляюцца слабыя творы, узрастае і паток камерцыйных кніг, разлічаных на непатрабавальнага чытача.

Як вынікала з даклада У. Конана, а таксама з выступленняў іншых прамоўцаў, пэўнае раскняволенне творчай асобы, што наступіла ў выніку дэмакратызацыі жыцця, не прынесла таго творчага плёну, на які б хацелася разлічваць. Канкрэтна гэтыя высновы сфармуляваў А. Лойка. Калі існавала цэнзура ў выглядзе «галоўліта» ці чыноўнікаў ад літаратуры, сказаў ён, сумленныя аўтары імкнуліся гаварыць больш таго, што дазвалялася, нават не прыслухоўваючыся да так званага ўнутранага цэнзара. І гэта давала жаданы плён. Цяпер, здавалася б, усе абмежаванні зняты, але ці з'явіліся творы, якія б адразу ўразілі, усхвалявалі, ускалыхнулі душу? Публіцыстычнасць, канешне, добра, але толькі тады, калі яна суседнічае з паэзіяй. Як тут не прыгадаць традыцыі «Узвышша». Узвышацца неабходна, над абставінамі, над буднямі. У дачыненні да паэзіі, як ніякага іншага жанру, неабходна, каб яна ішла да шырокага чытача. Больш і лепш павінна прапагандаваць яе радыё, тэлебачанне, не кажучы ўжо пра перыядычны друк.

Як даўні даследчык (і прапагандыст) літаратуры беларускага замежжа, Б. Сачанка і на гэты раз намаляваў яе праўдзівую карціну, спыніўся на творчасці найбольш значных прадстаўнікоў — паэтаў, празаікаў, крытыкаў. Прамоўца нагадаў аб неабходнасці лепш прапагандаваць літаратуру замежжа, больш друкаваць яе твораў. Шмат у гэтым сэнсе робяць часопісы «Полымя», «Маладосць», «Спадчына», штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», выдавецтва «Мастацкая літаратура». Выказаў Б. Сачанка і такую думку: пісьменнікі часам павінны ахвяраваць сваім месцам у тым жа часопісе, каб можна было прадставіць своечасова аўтара замежжа.

У абмеркаванні дакладаў прынялі ўдзел Віктар Каваленка, Іван Чыгрынаў, Янка Брыль, Пятрусь Макаль, Міхась Мушынскі, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Дамашэвіч, Лявон Баршчэўскі і іншыя. Ахоплівалася самае шырокае кола праблем, у тым ліку і тых, што нібы і выходзілі ў нечым за межы зместу дакладаў, ды, калі задумацца, самым непасрэдным чынам звязаных з ім. Інакш і не магло быць. Наколькі паспяхова будзе працягвацца нацыянальнае адраджэнне, наколькі хутка дасць

# У слыннай Смольні

Трэці Рэспубліканскі фестываль юных талентаў прайшоў на радзіме Якуба Коласа. Напачатку адбор лепшых выканаўцаў адбываўся на сцэне Стаўбцоўскага РДК. Назаўтра некаторыя калектывы паказвалі сваё майстэрства на «травяной» сцэне пад сонечным небам у слыннай Смольні. Гэтая мясціна — цэнтр Коласаўскіх святаў. Тут, у Смольні, пасля вяртання з мінскага астрогу жыў паэт, тут у 1912 годзе ён упершыню сустрэўся з Янкам Купалам. У Смольні Колас абдумваў і пачынаў пісаць паэму «Сымон-музыка». Такое найменне мае і фестываль.

25 гадоў назад у Смольні адкрыўся першы філіял Літаратурнага музея народнага песняра. Цяпер іх — тры (яшчэ ў Акінчыцах і Альбуці). Юбілею філіяла і прысвячаўся сёлетні фестываль. На гэты раз быў ён больш прадстаўнічы. На свята прыехалі юныя артысты з г. Светлагорска Калінінградскай вобласці і з г. Уладзіміра.

Да святкоўцаў прыехалі госці з Мінска — радня Якуба Коласа, навукоўцы, пісьменнікі, дзеячы мастацтва... Пра дзейнасць філіяла расказала дырэктар Літаратурнага музея народнага песняра З. Камароўская. Сын Якуба Коласа Д. Міцкевіч запыніў увагу слухачоў на незвычайнасці гэтых мясцін, на ўшанаванні памяці паэта на яго радзіме.

Перад юнымі артыстамі выступіў міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка. Ён, у прыватнасці, зазначыў: «Мы павінны рабіць усё магчымае, каб слава пра такіх людзей, як Колас, разыходзілася па ўсім свеце».



На пачатку Коласавага шляху



Лепшыя выступалі ў Смольні.

Народны артыст рэспублікі кампазітар А. Багатыроў прыгадаў свае сустрэчы з Якубам Коласам, расказаў, як ён пісаў оперу «У пушчах Палесся» паводле аповесці «Дрыгва».

Юных выканаўцаў віталі, гаварылі цёплае слова пра незабыўнага песняра М. Лужанін, А. Вярцінскі, У. Паўлаў, Б. Сачанка, работнікі мінскіх музеяў, загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкома А. В. Грэкаў.

Заключным канцэртам у Доме культуры калгаса «Нёман» закончыўся трэці дзень фестывалю. Пераможцам былі ўручаны дыпломы, памятныя знакі. А дзіцячы фальклорны ансамбль «Хажавянка» з калгаса імя Дзяржынскага Маладзечанскага раёна, які заняў 1-е месца, апрача дыплома лаўрэата атрымаў і прэмію Літаратурнага музея Якуба Коласа.

**К. СЦЕПАНЮК.**
Фота В. САВІЧА.

яно жаданыя вынікі — залежыць ад нас саміх, ад усіх разам і ад кожнага паасобку. Бо Адраджэнне — гэта не чарговая кампанія, а духоўны і душэўны ўздым народа, разняволенне нацыянальных сіл, якія дзесяцігоддзямі не маглі вызваліцца з-пад уціску гора-інтэрнацыяналістаў.

Сёння адбываецца пераацэнка шмат якіх з'яў, фактаў, імён. Ды толькі, як пацвердзілі асобныя прамоўцы, нельга кідацца ў крайнасці. Ніхто не адмаўляе набыткаў пісьменнікаў замежжа. Але да кожнага аўтара і да іх твораў трэба падыходзіць канкрэтна, улічваючы перш-наперш мастацкую вартасць.

Спрачаліся прамоўцы і наконт таго, як падаваць літаратуру эміграцыі ў гісторыі беларускай літаратуры — асобна ці як частку агульнага творчага працэсу пэўнага перыяду. Тым больш, што навукоўцы запланавалі чатырохтомную гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя.

Гучалі нараканні на радыё і тэлебачанне, дзе цяпер «цэнзура» працуе па-свойму: вострыя выступленні і перадачы ставяцца ў праграму так, каб з імі не кожны мог пазнаёміцца.

Як і на папярэднім пасяджэнні, кідаліся папрокі «ЛіМу» за празмерную палітызаванасць, што нібыта замінае асвятленню сучаснага літаратурнага працэсу.

На пасяджэнні разгледжаны пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай да 110-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Зацверджана рэдкалегія часопіса «Маладосць». Закрануты пытанні, звязаныя з работай «Кнігарні пісьменніка» ў Мінску.

## АДРАДЖЭННЕ І МАСТАЦКІ ПЕРАКЛАД

**Кафедра беларускай мовы і нацыянальнай культуры Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў апошнім часам правяла некалькі «круглых сталоў», прысвечаных надзённым праблемам нацыянальнага Адраджэння, ролі ў гэтым працэсе мастацкага перакладу, далейшых творчых кантактаў і ўзаемасувязяў. Працягам ранейшых гаворак стаў і чарговы «стол», які праходзіў пад назвай «Мастацкі пераклад на сучасным этапе нацыянальнага Адраджэння».**

**Тон размове задаў дацэнт БДУ, старшыня секцыі мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў Беларусі І. Чарота. У сваім выступленні ён закрануў не толькі пытанні тэарэтычнага плана, а і, так сказаць, практычнага, бо, як вядома, І. Чарота і сам займаецца мастацкім перакладам. Шлях да рынку пакуль што перакладчыкам нічога добрага не даў: цяжэй стала з выпускам перакладных кніг, нізкія ганарары адштурхоўваюць многіх перакладчыкаў, якія гатовы супрацоўнічаць з прыватнымі выдавецтвамі, рознымі газетамі і часопісамі, якія прапагандуюць і друкуюць нізкапробныя творы. У сувязі з гэтым І. Чарота таму і гаварыў аб тым, што неабходна парупіцца пра напісанне гісторыі беларускага перакладу.**

**І І. Чарота, і прарэктар МДІЗМа па навуковай рабоце А. Міхневіч, намеснік дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны В. Рагойша, дацэнт кафедры беларускай мовы і нацыянальнай культуры М. Навіцкі (ён быў свайго роду вядучым «круглага стала») і іншыя гаварылі таксама аб тым, што неабходна лепш рыхтаваць перакладчыцкія кадры ў рэспубліцы, каб яны маглі перакладаць не толькі з замежных моў, а і пераўвасабляць лепшыя творы беларускай літаратуры на іншых мовах. Гэта тым больш неабходна сёння, калі былыя сувязі парваліся, беларуская кніга перастала прыходзіць да замежнага чытача праз рускую мову.**

**За «круглым сталом» закранаўся і такі аспект праблемы, як творчае спаборніцтва перакладчыкаў. Тут шмат чаму можна павучыцца ў калег з замежных краін, дзе ўжо ёсць некалькі варыянтаў перакладаў найбольш вядомых твораў.**

**НАШ КАР.**

# Як жывеш, Беларусь?

**15 мая адбылася рэспубліканская канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь». У ёй бралі ўдзел дэлегаты з усіх рэгіёнаў рэспублікі. Уступным словам канферэнцыю адкрыў Н. Гілевіч. З дакладам аб сучасным стане беларускай мовы ў беларускай дзяржаве выступіў сябра сакратарыята таварыства Л. Лыч.**

**З ліку афіцыйных асоб на канферэнцыі прысутнічалі і выступалі намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Дзямчук, міністр інфармацыі А. Бутэвіч, міністр культуры Я. Вайтовіч, намеснік міністра народнай адукацыі Л. Сухнат.**

**Увогуле прамовы афіцыйных асоб не пакінулі надзей на хуткую змену ў лепшы бок дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да беларускай мовы. Між тым як адными высілкамі энтузіястаў у справе Адраджэння Беларусі не абысціся.**

**Усяго ў спрэчках і з дакладамі выступілі больш як трыццаць сяброў таварыства.**

**Прапануем увазе чытачоў фрагменты стэнаграм выступленняў паасобных удзельнікаў канферэнцыі.**

**Друкуем таксама прынятую на канферэнцыі пастанову.**

### «ДЗЯРЖАЎНАЯ ПАЛІТЫКА ЁСЦЬ АБАРОНА СВАІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ІНТАРЭСАЎ...»

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, галоўны рэдактар часопіса «Полымя»:

— У тым канцлагеры, у якім мы жылі ўсе гэтыя гады, некаторыя з нас яшчэ выжылі. У эканамічным канцлагеры, у якім знаходзімся сёння, не за калючым дротам, не за жалезнай заслонаю, але зноў жа ў лагеры, у гэтым канцлагеры, можа быць пахавана і культура, і мова, і адукацыя, і ўсё астатняе.

За апошні час сродкі масавай інфармацыі перасталі быць нацыянальнымі за выключэннем тых, якія дагэтуль працавалі на роднай мове. Але многія з іх, асабліва на ўзроўні вобласці або раёна, перайшлі часткова або поўнасцю на расійскую мову. Таму, калі ёсць зрух, то ён ідзе ў адваротным кірунку.

Я хацеў бы звярнуцца да аўдыторыі, дзе ёсць прадстаўнікі сярэдняй школы і вышэйшых навучальных устаноў. Сёння часопісы «Спадчына», «Полымя» даюць столькі матэрыялаў для выкарыстання ў навучальным працэсе, што жаліцца на недахоп, на маю думку, не трэба. Я сам вырас у сям'і настаўніка і ніколі не чакаў, што настаўніцтва так мала чытае і ў тым ліку нашы часопісы, я не чакаў ад настаўнікаў такой страшнай кансерватыўнасці. А што датычыцца дырэктароў школ, то пры сустрэчы з імі я адчуў раптам, што знаходжуся не сярод інтэлігентаў, а дзесьці на пасяджэнні камітэта ГКЧП. Дальбог!

Цяпер пра тэлебачанне. Мая думка такая, што ў нас ніякага нацыянальнага тэлебачання няма. Пасля Бураўкіна, які паклаў шмат працы і крыху вывеў тэлебачанне ў людзі,— цяпер усе тыя набыткі загубленыя. І я не ўяўляю нават, у якой краіне можа быць такое, калі дзяржаўнае тэлебачанне ваюе са сваёю моваю; дзе, у якой краіне тэлебачанне ваюе са сваім суверэнітэтам? Наша тэлебачанне пастаянна ваюе. Тут прыгадваліся праграмы «Крок». Я таксама глядзеў іх. Людцы родныя! Дзе ж гэта мы жывём і што гэта за ўрад такі, калі можна так абразліва гаварыць па нацыянальным тэлебачанні пра сваю мову, пра свой суверэнітэт, смяяцца з гэтага!

Калі коратка казаць, то нашы дзяржаўныя органы нічога не робяць, каб абараніць нацыянальнае, што тычыцца і культуры, і адукацыі, і эканомікі ў тым ліку. Ствараецца ўражанне, што гэта поўны параліч дзяржаўнай улады. А праблемы кадравыя? Алег Трусаў казаў тут пра дыпламатаў. Гэта праўда. Калі будуць прызначаць такіх паслоў, з якім я аднойчы меўся быць у Францыі, то з намі не толькі перастануць будаваць эканамічныя стасункі, а і наогул забудуцца, што ёсць на свеце такая краіна Беларусь. Справа, аднак, не толькі ў паслах. Я пазнаёміўся са статыстыкай, якая нядаўна яшчэ была засакрэчаная. Скажам, па нашай сталіцы горадзе Мінску. Кіруючы апарат, пачынаючы з Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў і заканчваючы дырэктарамі навучальных устаноў, прадпрыемстваў, выглядае так, што беларусы знаходзяцца на самым апошнім месцы. Сярод рабочага класа сітуацыя адваротная — беларусы ў абсалютнай большасці. Па Мінску сярод кіруючых кадраў амаль паўсюдна пераважае руская нацыянальнасць разам з некаторымі іншымі. Звесткі пра гэта ёсць у гарвыканкоме. Так атрымліваецца, што дзяржаўная ўлада не займаецца палітыкай абароны нашых нацыянальных інтарэсаў ні ў галіне мовы, ні ў астатніх галінах. Я думаю, такіх «дзяржаўцаў» трэба змушаць пакідаць свае пасады.

### «У НАС АПАЛЯЧВАННЕ ІДЗЕ ПОЎНЫМ ХОДАМ І ЯМУ ДАДЗЕНА ЗЯЛЁНАЕ СВЯТЛО...»

**Алесь БЕЛАКОЗ**, настаўнік (в. Гудзевічы Іўеўскага раёна):

— Ужо не раз намагаюся атрымаць адказ на пытанне пра нацыянальны склад фермераў Гарадзеншчыны. Нягледзячы нават на дэпутацкі запыт — адказ застаецца таямніцай. Выканаўчыя ўлады перапытваюць: «А для чего это вам?» Ну, як жа? Я пакуль што ніводнага беларуса-фермера не сустракаў. Можа так здарыцца, што мы, беларусы, на сваёй зямлі станем парабкамі. Напэўна, таму і ўсе аб'явы для вёскі таксама даюцца на рускай мове...

У гэтай зале Вячаслаў Францавіч Кебіч, Старшыня Савета Міністраў, даў аднойчы абяцанне выступаць і гутарыць па-беларуску. Тут было тады каля тысячы людзей. Як атрымалася, ён нас ашукаў, бо мы паехалі тады і расказалі людзям па ўсёй Беларусі і апынуліся ў няёмкім становішчы. Я думаю, што Кебіч нанёс велізарную маральную шкоду Таварыству беларускай мовы. Дык я прапаную: ці не варта было б пачаць судовую справу, каб Кебіч кампенсаваў Таварыству гэтыя маральныя страты? Ну нельга ж так безадказна кідацца абяцанкамі! Тым больш, што Кебіч у Польшчы падчас гутаркі з прэм'ер - міністрам заявіў, што польскую мову ведае ад бацькоў і суседзяў і гаварыць папольску яму лёгка. Дык, можа, пераехаць яму ў Польшчу?

Не ведаю, як у вас тут, а ў нас на Гарадзеншчыне гандаль, медыцына, суд, улада ў большай ступені ў руках «палякаў». У нас там ідзе апалячванне поўным ходам і яму дадзена зялёная святло. Я ўжо шкадую, што ў маладосці зрабіў памылку: трэба было пайсці ў святары. Можа, удалося б больш зрабіць са святарскага амбону, чым з гэтай трыбуны. Трэба прапагандаваць сярод моладзі ідэю ісці ў святары, каб выхоўвалі нацыянальна свядомых людзей. Бо апалячванне ідзе найперш праз касцёл, праз польскіх ксяндзоў...

### «КЕБІЧ І ШУШКЕВІЧ ПАВІННЫ ДАЦЬ АДКАЗ...»

**Васіль ДУБЕЙКА**, сябра раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны (г. Баранавічы):

— Тут неаднаразова закранался пытанне наступу паланізатараў на нашы землі, і я таксама хачу спытаць прадстаўнікоў улады: на падставе якіх законаў у наш Баранавіцкі раён і горад Баранавічы панаехала столькі місіянераў, манахаў, ксяндзоў? Прадстаўнікі Польшчы, яны вядуць сваю работу. Адукаваныя місіянеры, падрыхтаваныя людзі вядуць паспяховую паланізацыю. Супраць іх мы нічога не можам зрабіць. Я вам прывяду прыклад. Місіянеры дзейнічаюць у вёсцы Новая Мыш адзін год. За гэты час дзеткі пачалі ставіць канцэрты, спяваць, складаць вершы на польскай мове, яны прасякаюцца польскім патрыятызмам. Мы ж насуперак нічога не можам зрабіць, бо настаўніцтва наша — гэта пасіўная маса, яны абыякавыя да дзяцей.

Зноў я паўтару пытанне да ўрада: чаму ў касцёлах развешваюць польскія дзяржаўныя сцягі, хто дапусціў у нашы вёскі місіянераў? Кебіч, Шушкевіч павінны даць адказ, але яны маўчаць і, мусіць, мы гэта бачым, не збіраюцца даваць адказы. Вось што самае крыўднае для нас, беларусаў,— што мы церпім абразу.

І не магу не паўтарыцца, не сказаць пра тэлебачанне, якое беспакарана зневажае беларускую мову. Давайце ўявім сабе, што было б, калі б Астанкінскае тэлебачанне абразіла рускую мову? Што б тады паднялося? Мы не маем права маўчаць...

### «УРАД, ЯКІ НЕ ПАДТРЫМЛІВАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ, — ГЭТА ЎРАД КАЛАНІЯЛЬНЫ!»

**Генадзь ПЯТКЕВІЧ**, старшыня раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны (г. Стоўбцы):

— Наша выдатная пісьменніца Ларыса Геніюш казала, што мала любіць родную мову, яе трэба абараняць. Павінен быць урадавы ўзровень беларусізацыі, інакш сіламі энтузіястаў вялікіх вынікаў не дасягнем. Даклад намесніка Старшыні Савета Міністраў Міхася Дземчука на нашай канферэнцыі мяне не задавальняе. На маю думку, прадстаўнік урада павінен быў азнаёміць нас з урадавым планам беларусізацыі. Аднак, здаецца, такой праграмы ўрад не мае і не збіраецца яе распрацоўваць, для яго, магчыма, не патрэбную. Што ж атрымліваецца? Урад, які не падтрымлівае нацыянальнай ідэі,— гэта ўрад каланіяльны!..

Трэба быць самакрытычнымі і сказаць, што мы ў раёнах не адчуваем сапраўднай лучнасці з цэнтральнымі органамі тавары-

(Працяг на стар. 4).



Гэта вітрына кіёска «Беларускага таварыства «Кніга» на вуліцы Казлова, паблізу ад праспекта Ф. Скарыны. Хай наш чытач паспрабуе знайсці сярод стракатых вокладак хаця б адну кнігу на беларускай мове. Вось такая «беларусізацыя»...

# Як жывеш, Беларусь?

(Пачатак на стар. 3).

ства, з рэспубліканскай радай. Таму прапаную ў бліжэйшы час правесці «круглы стол» з удзелам рэгіянальных радаў нашага таварыства, з тым, каб зрабіць яго работу больш эфектыўнай.

### «ГОМЕЛЬ — ГОРАД БЕЛАРУСКІ...»

**Алесь МІТКАВЕЦ,** метадыст гарадскога аддзела народнай адукацыі, сябра рады ТБМ імя Ф. Скарыны (г. Гомель):

— Урэшце, калі мы, беларусы, захацелі сесці на сваю покуць у хаце (а не так, як раней: дазволь, нам, дзядзечка, пасядзець ва ўласнай хаце), некаторыя хочуць нам перашкодзіць. Колішняя партыйная газетка «Вечерний Гомель» цяпер змяніла назву, але па-ранейшаму выдаецца на рускай мове, распачала шалёную атаку на свядомасць чытачоў, даказваючы, што Гомель — горад не беларускі, што беларусаў у ім няма, што нібыта бальшавікі прышчапілі яго да Беларусі толькі ў дваццаць шостым годзе. Усе тыя асобы, якія жылі ў ранейшым СССР, уяўляючы яго як вялікую Расею, не прымаюць нашу беларускую дзяржаўнасць, нашу мову. Яны правакацыйна крычаць пра нейкі новы Карабах і, пэўна, хацелі б, каб гэты Карабах сапраўды быў.

Нягледзячы на нашы цяжкія ўмовы, я ўсё ж кажу вам: Жыве Беларусь!

### «ПОЛЬСКІЯ СЦЯГІ СТАЛІ НЕАД'ЕМНАЙ ЧАСТКАЙ КАСЦЁЛАЎ»

**Алесь КАСЦЕНЬ,** старшыня раённай рады ТБМ імя Ф. Скарыны (г. Паставы):

— Я прадстаўляю тут заходнія раёны нашай Беларусі і буду гаварыць пра заганнае ўздзеянне на наш рух польскага каталіцкага касцёла і рускай праваслаўнай царквы. Я ведаю, што ёсць прыклады, калі каталіцкія святары вядуць набажэнства па-беларуску і прэса наіўна раздзьмувае гэтыя прыклады, але я жыву ў глыбінцы заходняй Беларусі, там, дзе жыццё бруіць, і бачу, што польскі каталіцкі касцёл, як і руская праваслаўная царква, — ворагі ўсялякай беларускасці. Я вам прывяду невялікі прыклад. Пастаўскі раён не такі і вялікі — усяго пяцьдзесят тысяч насельніцтва, але ў нас ужо дзейнічае шэсць касцёлаў і шэсць цэркваў. У старажытным, маляўнічым мястэчку Дунілавічы з'явіўся паляк-ксёндз. З'явіўся з адным хатулёчкам, бедны малады чалавек. Разам з дзядулямі і бабулямі аднаўляў касцёл, працаваў нароўні з імі, заваяваў павагу. Але ж разам з тым сёння гэты ксёндз мала таго, што польскую мову ў касцёле ўвёў, — ён нясе яе ў школу. І вельмі мэтанакіравана нясе: ужо дзейнічаюць курсы па навучанні дзетак польскай мове. Больш таго, польскія сцягі сталі неад'емнай часткай гэтага касцёла. Калі я паспрабаваў у артыкуле праз раённую газету паказаць сваім землякам, не зневажаючы іх як вернікаў, ролю гэтага касцёла, то, відаць, па загадзе ксяндза рэдакцыя нашай газеты тыдзень была літаральна атакавана вернікамі з месцаў. І ведаеце, гэта былі па ўзросце мае бацькі, і мы ўжо сутыкнуліся з такім непаразуменнем паміж людзьмі, якія жывуць побач. А задумайцеся, што адбываецца: шэсць касцёлаў толькі на зямлі Пастаўшчыны. Калі шэсць ксяндзоў запатрабуюць ад сваіх вернікаў, каб яны выступілі за ўвядзенне польскай мовы на зямлі Беларусі, то гэта будуць ужо тысячы людзей. Усе гэтыя людзі, з якімі я гутарыў і спрабаваў пераканаць, але безвынікова, выдатна размаўляюць па-беларуску, называюць сябе палякамі. У час размовы я чуў ад іх: мы былі крэсамі ўсходнімі і хочам імі быць. Гэта людзі шчырыя: як іх падвучылі, як іх пераконваюць, так яны і выказваюцца. Так што роля каталіцкага касцёла ў Беларусі, як вы бачыце, зусім адназначная. Ксяндзы прыязджаюць не адны, яны вязуць з сабой манахаў, манашак, гэта ўжо цэлы рух, асабліва ў заходніх раёнах, за аднаўленне «крэсаў усходніх». Можна гаварыць і пра ролю рускай праваслаўнай царквы, нездарма яна называецца рускай, але я хацеў бы засяродзіць увагу дзяржаўнай улады менавіта на дзеяннях польскага касцёла, прыняць законы або пастановы, каб спыніць гэтую экспансію.

### «ТАКАЯ «ТАЛЕРАНТНАСЦЬ» ПРЫДУМАНА «МІСІЯНЕРАМІ»

**Яраслаў КЛІМУЦЬ,** старшыня гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны (г. Магілёў):

— Калі бачыш, у які наступ ідуць, каб адабраць наш яшчэ неўмацаваны суверэнітэт, робіцца сапраўды балюча і трывожна. Сапраўды, на Магілёўшчыне руская праваслаўная царква спрабуе даказаць, што гэта землі «исконно русские», з захаду мы бачым тую самую паланізатарскую экспансію каталіцкага касцёла.

Мне здаецца, што ў нашай гісторыі некаторыя хацелі б трактаваць талерантнасць беларусаў як згодлівасць з усімі тымі гвалтоўнымі дзеяннямі ў палітыцы і канфесійнымі інтрыгамі, якія сёння праводзяцца. Мне думаецца, такая «талерантнасць» якраз прыдумана «місіянерамі», як заходнімі, так і ўсходнімі. І калі мы дамагаемся нацыянальнага Адраджэння, то паняцце цярпімасці ў дачыненні да разбуральнікаў нашага адзінства мы павінны з нашага лексікона проста выкінуць.

**Публікацыю падрыхтаваў Л. АЛЕЛЬКАВІЧ.**

# ПАСТАНОВА

**Зыходзячы з асноватворнага права чалавека на дастойнае нацыянальна-культурнае жыццё, грунтуючыся на аснове тысячагадовых гістарычных традыцый народа Беларусі і ў адпаведнасці з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце, Канстытуцыяй і дзейным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь» пастанаўляе:**

**1. Адзначаючы, што нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі не знаходзіць па вялікім рахунку належнай падтрымкі з боку органаў дзяржаўнай улады і кіравання, міністэрстваў і ведамстваў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, установ і арганізацый, настойліва патрабаваць ад кіраўнікоў органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь няўхільнага выканання законаў аб мовах, аб адукацыі і аб культуры, рэальнага забеспячэння ўмоў для стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, інфармацыі, развіцця і ўзбагачэння беларускай культуры ў адпаведнасці з «Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь».**

**2. З мэтай умацавання нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь прапанаваць грамадскім арганізацыям рэспублікі настойліва праводзіць мэтанакіраваную работу па нацыянальна-культурным адраджэнні Бацькаўшчыны з апораю ў сваёй дзейнасці на моўна-культурнае заканадаўства Рэспублікі Беларусь.**

**3. Прызнаць, што Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, у аснову якога пакладзена дастаткова абгрунтаваная і прыдатная для грамадства канцэпцыя, патрабуе пэўных удакладненняў і дапаўненняў у напрамку больш дзейснага забеспячэння патрэб нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі і ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі.**

**4. Прасіць Савет Міністраў рэспублікі:**

**а) стварыць ІНСПЕКЦЫЮ ПА НАГЛЯДЗЕ ЗА ВЫКАРЫСТАННЕМ ДЗЯРЖАЎНАЙ І ІНШЫХ МОЎ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ, якая павінна мець падпарадкаваныя ёй структуры ў адміністрацыйных цэнтрах У МЕЖАХ ІСНУЮЧЫХ ШТАТНЫХ АДЗІНАК;**

**б) стварыць міжведамасныя камісіі з прадстаўніцтвам нацыянальна-патрыятычных грамадскіх арганізацый па правядзенні атэстацыі кіруючых кадраў у галіне адукацыі, інфармацыі і іншых сферах сацыяльна-культурнага комплексу з мэтай забеспячэння патрабаванняў Закона аб мовах аб пераводзе справаводства на дзяржаўную мову.**

**5. Звярнуцца ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь з прапановай унесці змены ў заканадаўства аб падатках, пашырыўшы льготы тым вытворча-прадпрымальніцкім структурам, якія сваёй дзейнасцю ўносяць рэальны ўклад у нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі і пашырэнне беларускай мовы пры адначасовым абкладанні спецыяльным падаткам выпуску перыёдыкі і літаратуры на рускай мове (акрамя падручнікаў для школ і ВНУ) і заходнееўрапейскіх мовах.**

**6. Звярнуць увагу сродкаў масавай інфармацыі на недапушчальнасць любых формаў зняважы дзяржаўнай беларускай мовы; у выпадку парушэння дадзенага патрабавання прыцягваць вінаватых да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам.**

**7. Прасіць рэспубліканскія газеты выдзяляць адзін раз у месяц старонку для выступленняў па праблеме нацыянальна-культурнага адраджэння, асвятлення вопыту работы ТБМ імя Ф. Скарыны і іншых нацыянальна-патрыятычных аб'яднанняў.**

**8. Прасіць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь арганізаваць сістэматычныя выступленні па радыё і тэлебачанні па праблемах нацыянальна - культурнага адраджэння, гісторыі Беларусі, сучаснага стану беларускай культуры і мовы.**

**9. У навучальным 1992—93 годзе істотна пашырыць выкладанне ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на падрыхтоўчых аддзяленнях на дзяржаўнай мове.**

**10. Правесці ў лістападзе 1992 г. сумесна з кіруючымі работнікамі абласных і раённых (гарадскіх) выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў нараду па праблемах вяртання беларускай мовы ў сферы дзяржаўнага, грамадска-палітычнага і духоўнага жыцця.**

**11. Абмеркаваць у канцы жніўня 1992 г. з кіраўнікамі і прафесарска-выкладчыцкім складам ВНУ і тэхнікумаў стан беларусізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу.**

**12. Патрабаваць ад Вярхоўнага Савета Беларусі, органаў дзяржаўнага кіравання і праваахоўных органаў рэспублікі прыняць канкрэтныя захады ў дачыненні да тых святароў праваслаўнай і каталіцкай канфесій, чыя дзейнасць скіравана на русіфікацыю і паланізацыю беларускага насельніцтва і якая па сутнасці з'яўляецца антыдзяржаўнай.**

ЧЫТАЧ ПРЫЙШОЎ У РЭДАКЦЫЮ

# Ці будзе «Надежда»?

— У нашага весніка юбілей, тры гады спаўняецца,— сказала невысокая ладная жанчына (што рухі ёй даваліся з намаганнем, я заўважыла не адразу).

Высветлілася, што гаворка ідзе пра «Надежду», друкаваны орган інвалідаў. Праўда, я выказала сумненне: для юбілею гадочкаў малавата, ды і дата не круглая, але В. Г. Янчанка запэўніла мяне, што юбілей, ды яшчэ які і што хутка я зразумею — чаму.

Далей мы пачулі дзіўную гісторыю «дзіцяці, у якога ні бацькоў, ні дома, ні пялёнак».

А пачалося ўсё са студыі для непрафесіяналаў-літаратараў, за арганізацыю якой з энтузіязмам узялася Вольга Георгіеўна. Прыйшлі першыя спробы пяра — часам наіўныя, няўмелыя, але як важна для чалавека, прыкаванага да ложка, выяўляць сябе ў творчасці, адчуваць нечую ўвагу!

Так узнікла ідэя друкаванага выдання. Афіцыйнымі заснавальнікамі сталі Міністэрства сацыяльнага забеспячэння, Фонд міласэрнасці і здароўя і Таварыства інвалідаў. Так што «бацькі», па сутнасці, былі. Цікаўлюся, хто ж з іх фінансуе веснік.

— Хто заўгодна, толькі не заснавальнікі. Хаджу з працягнутай рукой,— расказвае Вольга Янчанка.— Першым дапамог генеральны дырэктар ВА «Гарызонт» А. Санчукоўскі, ахвяравалі пэўныя сумы Дзяржстрах, «Інтэграл», ЦК камсамола, Белсаўпроф, Міністэрства будаўніцтва...

У статуце «Надежды» запісана, што ўсе праблемы яе будзе вырашаць Савет Міністраў Беларусі. Маюцца адпаведныя пастановы, якія, аднак, не выконваюцца. У Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння, апавядае далей Янчанка, адбылася мая сустрэча з тагачаснымі кіраўнікамі Таварыства інвалідаў. Нічога ў выніку не змянілася, акрамя адносін да мяне. І я, і «Надежда» ім сталі ворагамі.

Што ў Вольгі Георгіеўны характар не з лёгкіх, зразумець было няцяжка. Незалежнасць — зусім не тая рыса, якая можа падабацца ўладу маючым. Зрэшты, далёка не ўсім Бог дае галубіныя норавы, як і далёка не ўсім — здольнасць з душой адносіцца да справы. Часцей за ўсё на першае месца выходзяць усё ж інтарэсы справы, у дадзеным выпадку — хворых людзей, але тут, мабыць, іншы выпадак. Такі факт прывяла Янчанка: калі Слонімская фабрыка падаравала для патрэб весніка тону высакаякаснай паперы, то Фонд міласэрнасці надумаўся цішком вырабіць з яе нейкія каляндарыкі. Пра былога міністра аховы здароўя, які ўзначальвае цяпер згаданы фонд, мы пачулі нямала «цёплых» слоў. Адчувалася, што рэдактарка весніка — жанчына не з палахлівых і здавацца не збіраецца. Дык жа не ёй адной патрэбен гэты невялічкі фарматам штоквартальнік! Інакш не пасылалі б грошы са сваіх сціплых пенсій чытачы і аўтары «Надежды», не ішлі б лісты з многіх рэспублік былога Саюза!

Выданне змяшчае медыцынскія і юрыдычныя кансультацыі, мае службу знаёмстваў, друкуе матэрыялы па дамаводстве і многае іншае. На яго старонках пабачылі свае вершы С. Міхайлоўскі (Слуцк), У. Шпадарук (Рагачоў), М. Мацкевіч (Гродна), М. Курыла (Валожын), Н. Прыступа (Пінск)...

У весніку, мы заўважылі, шмат цікавых лістоў. Вось што, напрыклад, піша Павел Сусло з Гомельскай вобласці: «Інваліды — не анёлы. У іх тыя ж хібы, што і ў здаровых людзей». Далей ён разважае пра неабходнасць стварэння цэнтра псіхалагічнай рэабілітацыі і тэлефоннай «службы даверу».

— Галоўная мэта «Надежды» — менавіта рэабілітацыя інвалідаў праз творчасць. (Дарэчы, «інвалід» у перакладзе з лацінскай — гэта чалавек, якому неабходна дапамога.) Наша задача — даць выказацца ўсім, хто мае ў тым патрэбу. Згаданы Павел Сусло — адзін з першых у нашай літаратурнай студыі. Самы слабы па здароўі і самы бескампрамісны, самы сумленны. У яго ёсць вялікая картатэка па медыцынскіх і юрыдычных парадах, ён падтрымлівае сувязь з многімі сябрамі па няшчасці і з'яўляецца па сутнасці нашым спецкарам па Гомельшчыне. Як і Уладзімір Шпадарук, і іншыя.

Рэдактар падкрэсліла, што «Надежда» — дабрачыннае, безганарарнае выданне, зарэгістраванае ў Дзяржкамвыдзе за нумарам 131. Яго можна выпісаць (нумар у каталогу — 74969) або набыць у кіёску. Штат — сама Янчанка плюс тэхрэд, бухгалтар, машыністка.

— Ну і што мы маем на сёння?

— Сродкаў усяго на тры месяцы. Цяпер вы разумееце, што тры гады для жабрака — вялікі юбілей?

Вольга Георгіеўна ўжо развітвалася, але я папрасіла яе затрымацца і трошкі расказаць пра сябе. У 1941 г. сямігадовай дзяўчынкай з бацькамі і цяжарнай маці яна ўлілася ў паток бежанцаў, што рухаўся па Маскоўскай шашы. (Сям'я кіравалася ў Горкі, на радзіму маці). Па дарозе іх падвезла вайсковая палутарка. Калі пачаўся авіяналёт і загрымелі выбухі, дзяўчынка спалохалася і скочыла з кузава — проста на брук. Зламала руку, а самае горшае — пашкодзіла хрыбетнік. Нягледзячы ні на што, здолела закончыць тры вышэйшыя навучальныя ўстановы. Свой першы допіс яна паслала ў «Зорьку» ў 1945 годзе...

І вось — «Надежда». Акрамя надзеі, нічога і няма...

**НАШ КАР.**

РЭПЛІКА

## НЕДАГЛЯД ЦІ НАКІРУНАК?

Паведамляючы пра выхад другога нумара часопіса «Пачатковая школа», мы заўважылі, што чамусьці на старонках яго адсутнічаюць матэрыялы, якія б знаёмілі чытачоў з творчасцю беларускіх пісьменнікаў. Кажучы тое, мы меркавалі, што гэта — вынік недагляду, выдаткі станаўлення новага выдання.

І вось выйшаў з друку трэці нумар «Пачатковай школы». Ёсць у ім «Азбука ў загадках», парады, як праводзіць інтэграваныя ўрокі па роднай мове ў першым класе школ з беларускай мовай навучання, расказваецца пра брацкія (праваслаўныя) школы на Беларусі ў мінулыя часы, пра народныя гульні.

Адзначаецца ў нумары 400-годдзе з дня нараджэння выдатнага педагога Яна Амоса Каменскага, змешчаны артыкул настаўніцы СШ № 178 г. Мінска І. Дабрушкінай «Чытаем Платонава».

Як бачым, малюнак знаёмы. Беларуская літаратура, калі не забыта зусім, дык абыдзена. Вядома, варта памятаць традыцыі Я. Каменскага. Вядома ж, нашы дзеці павінны ведаць і творчасць А. Платонава. Але ж, пэўна, перш-наперш іх трэба далучаць усё ж да літаратуры беларускай. У рэшце рэшт і з'яўленне часопіса «Пачатковая школа» — адзін з крокаў суверэннай дзяржавы, накіраваных на выкананне Закона аб мовах.

Дык як разумець тое, што заўважаецца на старонках «Пачатковай школы»? Як звычайны рэдакцыйны недагляд ці сведчанне пэўнага накірунку навукова - метадычнага выдання?

Н. К.

ПРЫРОДА І МЫ

# УКРАДЗЕНАЕ НЕБА, ЗНЯВЕЧАНАЯ ЗЯМЛЯ...

**Гутараць член Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі, старшыня пастаяннай Камісіі па экалогіі і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў, прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюза Барыс САВІЦКІ і рэдактар аддзела публіцыстыкі «ЛіМа» Міхась ЗАМСКІ.**

**М. ЗАМСКІ:—Барыс Парфёнавіч, тэму нашай гутаркі я б акрэсліў двума словамі—Беларусь і экалогія, хоць разумею невычэрпнасць гэтых паняццяў. Хацелася б з вашай дапамогай намацаць найбольш балючыя кропкі вельмі няпростай, у многім нават катастрафічнай экалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы, якая, думаю, з'яўляецца вынікам не толькі чарнобыльскай бяды, а наогул усяго нашага сацыялістычнага спосабу гаспадарання. Дэкларуючы ад пачатку савецкіх гадоў беражлівае стаўленне да прыроды—«галоўнага багацця краіны», камуністычная дзяржава трымалася гэтага заклiку, як гаворыцца, з дакладнасцю наадварот. Менавіта ў нетрах нашай бюракратычна-каманднай сістэмы нарадзіліся словы, прыпісаныя Мічурыну: «Калі прырода не аддае нам сваіх багаццяў, нам трэба іх узяць самім». Узялі стольні, што мала чаго ад яе засталося...**

Б. САВІЦКІ: — Я не зусім згодны з тым, што ўсё ў нас у гэтым плане рабілася дрэнна, горш, чым у многіх замежных краінах. Літаральна перад вашым прыходам у мяне была сустрэча з прадстаўніком Міжнароднага банка развіцця, які збіраецца фінансаваць некаторыя нашы прыродаахоўныя праекты. Дык вось, мы гаварылі пра тое, што экалагічная сітуацыя на Беларусі лепшая, чым у некаторых Еўрапейскіх рэгіёнах, скажам, у той жа Сілезіі.

**М. З.—Сілезія—гэта Польшча, дзе на працягу больш чым сарака пасляваенных гадоў правілі баль камуністы, якія ва ўсім бралі прыклад з КПСС. Але не буду спрачацца, я ў Еўропах-Амерыках не быў і пра тое, як там ставяцца да прыроднага асяроддзя, магу меркаваць толькі са сведчанняў друку. Сведчанні гэтыя, даруйце, разыходзяцца з вашымі. Ну, ды Бог з імі. Нам бы са сваім разабрацца...**

Б. С.— Сапраўды, сваіх экалагічных праблем у нас процьма. Адна з іх, на маю думку, мо найгалоўнейшая,— адсутнасць у нас прыродаахоўнага заканадаўства. Вы скажаце,— у рэспубліцы даўно прыняты Закон аб ахове прыроды. Так, але ён, па-першае, вельмі недасканалы, па-другое, яму бракуе належнага механізму рэалізацыі і таго, што ёсць у ім слушнага, карыснага. На апошняй сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі быў прыняты амаль аднагалосна «Закон аб ахове навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь», падрыхтаваны нашай камісіяй і ўрадам. Такога закона, заўважу, пакуль што не мае ніводная краіна СНД. Ён уключае ў сябе ахову атмасферы, нетраў, азонавага пласта, падземных вод і г. д. Гэта першы з 16 законаў «Экалагічнага кодэксу», які ахопіць літаральна ўсе сферы прырода- і рэсурсаахоўнай дзейнасці. У гэтым дакуменце ўпершыню замацоўваюцца правы грамадзян на здаровае і спрыяльнае для жыцця навакольнае асяроддзе. Таксама ўпершыню ў заканадаўчай практыцы прадугледжана крымінальная і іншая адказнасць службовых асоб, якія наўмысна скажаюць або ўтойваюць інфармацыю аб стане прыроднага асяроддзя.

**М. З.—Нашы партыйныя і дзяржаўныя наменклатуршчыкі з нейкай маньяцкай падазронасцю ўспрымалі кожны абнародаваны прэсай факт пагаршэння экалагічнага становішча ў рэспубліцы. У «Народнай газеце» быў змешчаны артыкул народнага дэпутата рэспублікі Сяргея Навумчыка «Вазьму ўсё, што пажадаю...», у якім апавядалася пра некаторыя архіўныя дакументы былога ЦК КПБ, якія трапілі ў рукі аўтара. Адзін з дакументаў за подпісам сакратара ЦК па ідэалогіі В. Пячэннікава, як можна зразумець з яго зместу, з'явіўся на свет пасля публікацыі ў друку артыкула «Нітраты на стале». «Это не что иное, как бессовестная ложь и провокация,— кладзе рэзалюцыю партыйны бонза.—Внесите предложения по мерам воздействия». Які стыль, га, Барыс Парфёнавіч? А з другога боку, якой пісьменнасці можна было патрабаваць ад сакратара ЦК па ідэалогіі!**

**Што датычыць прадугледжанай законам адказнасці службовых асоб, пра якую вы кажаце, дык я ў яе слаба веру. Выкруцяцца!**

Б. С.—Дазвольце з вамі не пагадзіцца. Зараз, пасля прыняцця закона, у Крымінальны кодэкс рэспублікі будзе ўнесены адпаведны артыкул, які вызначыць пакаранне за парушэнне закона.

І ў прэсе, і ў нашым парламенце неаднойчы ўзнімалася пытанне аб прыцягненні да адказнасці службовых асоб — і ў нашай рэспубліцы, і ў Цэнтры, за ўтойванне праўды аб сапраўдных памерах, сапраўднай небяспецы для насельніцтва чарнобыльскай аварыі.

**М. З.—Яны вырашылі ўзняць яго дух і настрой, вывеўшы людзей на першамайскую дэманстрацыю ў Гомелі, Магілёве, Кіеве, Мінску...**

Б. С.— Але да адказнасці іх прыцягнуць нельга, бо Крымінальны кодэкс гэтага не прадугледжваў.

**М. З.—Вы хочаце сказаць, што закон зваротнай сілы не мае?**

Б. С.— Так, вядома, не мае.

**М. З.—Тады іх трэба было судзіць па законах маралі. Але ж яны стараннямі сваіх абаронцаў, у тым ліку і ў нашым Вярхоўным Савеце, пазбегнулі і гэтага суда... Што да пакарання службовых асоб за ўтойванне экалагічнай інфармацыі, дык утойваюць яны яе і сёння. Зусім нядаўна ў газетах прамільгнула інфармацыя аб лясных пажарах на заражаных радыяцыяй тэрыторыях Гомельшчыны. Зразумець з тых інфармацый (а пісаліся яны безумоўна з падачы службовых асоб) маштаб пажараў, якія не маглі патушыць некалькі дзён, немагчыма. Тыя ж абрыдлыя ўжо аптымістычныя ноткі: «На думку спецыялістаў, самае горшае—гэта перанос ветрам радыёактыўнага попелу, але паведамленні з Гомеля дазваляюць спадзявацца, што такога варыянту ўдалося пазбегнуць». Або яшчэ: «Як лічаць улады, настрой у Гомелі нічым не адрозніваецца ад звычайнага...»**

Б. С.— Я толькі што вярнуўся з Хойніцкага раёна, дзе таксама бушаваў лясны пажар. Ці небяспечна гэта? Вельмі. Калі гарыць паражоны радыяцыяй лес, адбываецца вазгонка радыёактыўных рэчываў, якія могуць разносіцца ветрам на вялікія адлегласці. Куды паветраныя патокі занеслі радыёактыўны попел гэтым разам, мы яшчэ не ведаем. Магчыма, на тэрыторыю іншых абласцей рэспублікі, магчыма, на Украіну, у Польшчу, а, можа, у Францыю.

**М. З.—Як папярэдзіць такія пажары?**



Фота А. КЛЕШЧУКА.

Б. С. — Яны вельмі небяспечныя, бо, акрамя ўсяго іншага, пашыраюць зону радыёактыўнага забруджвання. А ім і так ахоплена чвэрць тэрыторыі рэспублікі. Гараць лясы на Гомельшчыне і Магілёўшчыне штогод. У значнай ступені гэта тлумачыцца тым, што яны тут у асноўным хвойныя, лёгка ўспыхваюць. Я лічу, што ў забруджаных радыенуклідамі раёнах, некалі глабальна асушаных, трэба праводзіць паўторнае забалочванне і, натуральна, дэмантаж меліярацыйных сістэм. Каб тут вырас алешнік, іншыя дрэвы, якія вызначаюцца пажарастойкасцю. Але гэтая ідэя не ва ўсіх сустракае разуменне. Актыўна выступае супраць яе, напрыклад, Міністэрства лясной гаспадаркі рэспублікі, якое плануе аблясенне пацярпелых раёнаў менавіта сасной. Зыходзяць тут, вядома ж, з ведамасных інтарэсаў. Ёсць вялікі запас насення гэтай пароды дрэў, адпрацавана тэхналогія вырошчвання сасны. Да таго ж, хвоя дае дзелавую драўніну...

**М. З.—Пры нашым вялікім мэблевым дэфіцыце, я ведаю, людзі неахвотна купляюць мэблю, якая выраблена ў пацярпелых ад Чарнобыля раёнах. Лічыцца, што на яе выраб ідзе заражоная драўніна. Не разыходзяцца ў крамах і кансерваваныя прадукты, калі на этыкетках стаяць магілёўскія ці гомельскія адрасы. Я схільны тлумачыць гэтую боязь радыефобіяй, якая апошнім часам пасялілася ў многіх з нас.**

Б. С.— Я б не мог даць гарантыі, што ўся без выключэння гомельская ці магілёўская мэбля, рэалізаваная насельніцтву, не мае патрэбы ў дадатковым дазіметрычным кантролі... Што да тамашніх прадуктаў харчавання, дык тут сітуацыя яшчэ больш небяспечная. Нашы газеты любяць пісаць, ледзь не з замілаваннем, пра людзей, пераважна старых, якія, не вытрымаўшы на адсяленні ростані з роднымі мясцінамі, вяртаюцца назад, каб «памерці» ў сваёй хаце. Іх, вядома, можна зразумець — невыносна цяжка пачынаць недзе жыццё нанава, ды яшчэ пажыламу чалавеку. Але, але... Вярнуўшыся ў сваю хату, людзі, вядома, не паміраюць, а пачынаюць араць і сеяць, заводзіць свіней, кароў, авечак. Адным словам, жывуць, як прывыклі жыць. Натуральна, частку атрыманай прадукцыі яны прадаюць. Так і распаўсюджваюцца далёка за межамі хаты «возвращенца» радыеактыўная бульба, гародніна і садавіна, малако і свініна. Праўда, на нашых мясамалочных перапрацоўчых прадпрыемствах, на тых жа рынках ёсць дазіметрычны кантроль, ды за ўсім не ўсочыш...

**М. З.—Летась я паспрабаваў высветліць трываласць дазіметрычнага кантролю над прадуктамі харчавання ў Мінску. Пабыў на некалькіх малочных заводах, мясакамбінаце, халадзільніку, на Камароўскім рынку. Тое, што ўбачыў, выклікала немалую трывогу. Я б не сказаў, што тут не было дазіметрычнай службы,—яна існавала і на прадпрыемствах, і на рынках, але якой дапатопнай апаратурай тут вымушаны былі карыстацца! Помню, на малочным заводзе лабаранткі, вызначаючы колькасць радыенуклідаў у малацэ, праводзілі досыць складаны матэматычны разлік алоўкам на кавалку паперы. Як на школьным уроку. А калі ўлічыць, што чаргі на праверку чакала некалькі малакавозаў з калгасаў і іх вадзіцелі літаральна стаялі над душой у лабарантак, патрабуючы хутчэй аформіць ім дакументы, можна ўявіць дакладнасць тых аналізаў.**

**Яшчэ горшую карціну ў гэтым плане мне давялося наглядаць на Камароўскім рынку. Праца дазіметрычнай лабараторыі тут арганізавана так, што на рынку, пад атрыманы сертыфікат якасці, можна прадаць што хочаш і адкуль хочаш. Дарэчы, што мяне здзівіла—лабараторыя гэтая падначалена ветэрынарнай службе горада.**

Б. С.— Уся бяда ў тым, што ў рэспубліцы пытаннямі аховы прыроднага асяроддзя, радыёактыўнай небяспекі займаюцца ўсе і ніхто. Гэта аддзел аховы прыроды пры Савеце Міністраў, Дзяржкамэкалогія, Міністэрства лясной гаспадаркі, санэпідэмслужба Міністэрства аховы здароўя, Дзяржгідрамет і іншыя ведамствы. Усюды свае лабараторыі, навуковыя сілы, якія займаюцца вывучэннем экалагічных праблем, выпрацоўваюць свае рэкамендацыі, а ўвогуле, больш дбаюць пра тое, каб схаваць ад грамадскасці сапраўдную экалагічную сітуацыю ў рэспубліцы.

Усе гэтыя рознакаліберныя арганізацыі, вядома ж, трэба аб'яднаць у адно незалежнае ўпраўленне аховы прыроднага асяроддзя.

**М. З.—Што азначае—незалежнае? Ад каго незалежнае?**

Б. С.— Ёсць два варыянты. Першы — падначаліць яго Вярхоўнаму Савету. Другі — каб гэтае ўпраўленне знаходзілася ў структуры Савета Міністраў. Усё-такі эколагі павінны працаваць у цесным кантакце з выканаўчай уладай. На маю думку, чалавек, які ўзначаліць такое ўпраўленне, павінен быць намеснікам старшыні ўрада і валодаць да таго правам вета.

**М. З.—Вета? У якім сэнсе?**

Б. С.—Скажам, нейкае міністэрства хадайнічае аб будаўніцтве ў пэўным месцы свайго завода. Усе могуць яго падтрымаць, але прапанова не пройдзе, калі старшыня ўпраўлення аховы прыроднага асяроддзя, папярэдне, вядома, вывучыўшы справу, скажа сваё «не».

(Працяг на стар. 12).

# ПАСТАВІМСЯ ДА ВОПЫТУ КРЫТЫЧНА

**Заканчваем публікацыю завочнага «круглага стала», прысвечанага стану сучаснага літаратуразнаўства (пачатак — у мінулым нумары). Нагадаем пытанні, з якімі «ЛіМ» звярнуўся да навукоўцаў і крытыкаў:**

Якімі бачацца вам стан і перспектывы развіцця сучаснай літаратуразнаўчай навукі? Што вас не задавальняе ў ёй сёння, якія з набыткаў, на вашу думку, варта захоўваць і памнажаць?

**А паколькі ў рэдакцыйным партфелі ёсць яшчэ артыкулы на гэтую тэму, то гаворка будзе прадоўжана.**

Уладзімір КАЗБЯРУК

## АСПІРАНТЫ НЕ ВІНАВАТЫЯ

Добрую падставу для разважанняў пра сучасны стан і перспектывы нашага літаратуразнаўства даюць артыкулы Алега Лойкі «З настальгіяй па тэорыі» і Юркі Лявончыка «Правінцыя» («ЛіМ» за 20 сакавіка 1992 г.). Нягледзячы на, здавалася б, розны падыход да некаторых рэчаў, на выкарыстанне адметных гісторыка-літаратурных з'яў і працэсаў, іх разважанні заснаваны на адным і тым самым падмурку: мы — усяго толькі правінцыя ў літаратуразнаўчым і філасофскім кантэксце — і сусветным і еўрапейскім. Адкрыта пра гэта гаворыць Юрка Лявончык. Але з гэтага зыходзіць і Алег Лойка, калі выказвае запаветную мару пра засваенне вопыту «школ і кірункаў Еўропы і Амерыкі XX стагоддзя». Або: «Кірункі, метады, спосабы даследавання, іх сапраўды даволі набралася ў пасляваеннай Еўропе і Амерыцы. Мы сёння перад набыткамі іх і канцэпцыямі — як неафіты, як непрыадзетыя».

А цікава было б, калі б у святле «магутных тэарэтычных вучэнняў, такіх, як герменеўтыка, фемінізм, марксізм (ну, гэта яшчэ можна было б! — **У. К.**), дэканструкцыянізм, новы гістарызм, тэорыя чытацкага ўспрымання, канцэпцыі Лакана, Фуко і г. д.» (з артыкула А. Лойкі) паспрабаваць прааналізаваць такія творы, як «Святло над Ліпскам», «Пяюць жаваранкі», «Слова да Аб'яднаных нацый»! Ці можам мы забываць, што наша партыя з бацькоўскім клопатам гадавала літаратуру, пільна дбаючы, каб не разводзіліся ў ёй такія творы, як «Мілы чалавек», «На Быстранцы», «Дабрасельцы»? Да той літаратуры добра прыстасоўвалася літаратуразнаўства. А каб яно не збочыла куды не трэба, шлях яму паказвалі і даклады Жданава, і адпаведныя пастановы партыі.

Новыя літаратуразнаўчыя і крытычныя меркі ў нас спатрэбіліся толькі пасля таго, як з'явіліся прынцыпова новыя творы — скажам, у Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава ці Віктара Казько.

У гэтай сувязі мне хочацца сказаць пра Алеся Разанава. Я ніколі не быў прыхільнікам ягонай паэзіі, што засведчыў у друку — і для шырокага і для больш абмежаванага кола чытачоў. Але...

Аднойчы ў бібліятэцы імя Леніна ў Маскве я заказаў зборнік Т. С. Эліота, апублікаваны неяк за год ці за два перад гэтым. І мне яго давалі ў рукі так, як давалі б выданні якога-небудзь XVII стагоддзя — з асобнай шафы і з усімі мерамі перасцярогі. І калі я чытаў гэтага лаўрэата Нобелеўскай прэміі (тады і пазней, толькі што ў рускіх і польскіх перакладах), то я выразна бачыў, што з улікам патрабаванняў той паэтыкі творы Алеся Разанава ўспрымаюцца як больш арыгінальныя. У іх больш паэтычнай вынаходлівасці і мастацка-вобразных сюрпрызаў. Інакш кажучы, калі падыходзіць да іх з тымі меркамі, то ўзровень іх не менш, а можа, і больш высокі, чым у таго ж Томаса С. Эліота або Эзры Паунда, якога Эліот называў сваім настаўнікам.

Настане пара — і Захад адкрые для сябе Алеся Разанава і моцна здзівіцца. Вядома, калі з'явяцца адпаведнага ўзроўню пераклады і не здарыцца такая гісторыя, як са зборнікам паэтычных твораў нашых вядучых паэтаў, выдадзеным па лініі ЮНЕСКА на французскай мове. Замежнаму чытачу быў прадстаўлены звычайны пасрэдны падрадкоўнік, зацверджаны, аднак, да друку Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Можна сабе ўявіць, якое ўражанне рабіла такое выданне.

Аднак вернемся да пытання: правінцыя мы ці не правінцыя? Як мне ўяўляецца, Юрка Лявончык даказаў, што — правінцыя. Вазьміце ягоны артыкул. З якім веданнем справы ён дакарае аспіранта Лявона Юрэвіча за тое, што ён не раскрыў ва ўсёй шырыні і маштабнасці значэнне і ролю Віцьбіча ў нашай літаратуры. Прафесараў (сталічных і перыферыйных), дактароў і акадэмікаў ён не чапае. Мабыць, ім пры іх званнях і пасадах можна ўжо не пісаць? Аспіранты, аказваецца, вінаваты ў тым, што наша літаратуразнаўства чагосьці не зрабіла...

Юрка Лявончык зусім правільна абвінавачвае і правільна патрабуе: «Праўда, поўная, горкая, нават у дачыненні да сваіх герояў, творцаў — вось яшчэ адна ўмова, пры якой не будзе правінцыялізму ў душах, у літаратуры, у навуцы». І шкада, што аўтар артыкула самому сабе не паверыў. Яму не спадабалася, што ў «Спадчыне» перадрукавалі артыкул Цішкі Гартнага. Бо гэта — «кампрамат» на пісьменніка. Дык што? Можа, зноў створым спецыяльныя органы для падзелу праўды на патрэбную і шкодную? Вопыт — і надзвычай багаты — ёсць.

Важным дасягненнем навукі я лічу вяртанне ў літаратуру забароненых і забытых імёнаў. І дарэмна Юрка Лявончык глядзіць на гэтую справу з высакамернай паблажлівасцю, прычыны якой расплумачыць цяжка. Як і тое, што ён не разумее значэнне архіўных пошукаў. А між тым кнігі Генадзя Кісялёва, заснаваныя на архіўных матэрыялах, з кожным дзесяцігоддзем будуць станавіцца ўсё больш каштоўнымі, у той час, як многія салідныя манаграфіі (у тым ліку і тыя, што забяспечылі аўтарам доктарскія ступені) пасля нейкага перыяду безнадзейна старэюць. Найбольшым дасягненнем беларускага літаратуразнаўства я лічу кнігу Вацлава Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» (1926) таму, што ў ёй выкарыстаны найбагацейшы фактычны матэрыял, які ніколі не страціць сваёй каштоўнасці.

У свой час мы па чарзе засвойвалі прынцыпы вульгарнага і поствульгарнага сацыялагізму, што заўсёды іменаваўся марксісцка-ленінскай метадалогіяй. Ды не мелі права не думаць, што гэта — найвышэйшае дасягненне літаратуразнаўчай навукі. Нашы тэарэтыкі і практыкі абавязаны былі беспамылкова адрозніваць матэрыялістычныя прынцыпы тэорыі пазнання ад ідэалістычных. А таксама дашуквацца ўсюды класавага зместу ў святле вучэння аб дзвюх культурах (і забывалі пра гэты змест, калі справа датычыла рускай гісторыі — скажам, пры ацэнцы дзейнасці Суворава). Пры такім падыходзе для нейкіх там гуманістычных каштоўнасцей агульначалавечага парадку, ідэалістычных па сваёй сутнасці, а гэта значыць, варожых пралетарскай ідэалогіі — не магло быць і мовы. Бо так можна было скаціцца на ідэалістычныя пазіцыі, адарвацца ад жыватворчых прынцыпаў дыялектычнага метаду пазнання.

Сёння нам прапануецца нешта тыпалагічна блізкае, толькі пафарбаванае не ў адзін чырвоны колер, а размаляванае па законах абстрактнага жывапісу. А між тым нам не хапае не бясплённых (у нашых умовах) разважанняў пра нейкія там герменеўтыкі, фемінізмы, дэканструкцыянізмы ці канцэпцыі Лакана, Фуко, Тойнбі, Шпенглера, Ясперса, Хайдэгера, а звычайнага ўмення аналізаваць канкрэтны мастацкі твор — адзін верш, паэму, апавяданне, раман, п'есу, публіцыстычны артыкул. Калі навучымся рабіць гэта, то дамо рады рабіць і патрэбныя нам абагульненні і вывады, знойдзем дарогу да агульных разважанняў, прыдумаем і адпаведныя тэрміны.

Зоя МЕЛЬНІКАВА

## НАМ БРАКУЕ САМАПАВАГІ

Сапраўды, стан сучаснага беларускага літаратуразнаўства, асабліва яго састаўной часткі — гісторыі нацыянальнай літаратуры, даволі драматычны. Новы час разняволіў нас, гуманітарыяў, ад палітыка-ідэалагічных наручнікаў мінулага. Але вызваленыя рукі разгублена апусціліся, бо мы выхаваны і адукаваны эпохай тых жа наручнікаў. Мы хочам напісаць сапраўды аб'ектыўную і навуковую гісторыю роднай літаратуры, але пры гэтым востра адчуваем, як не хапае і тэорыі, і практыкі, і мудрасці, каб зрабіць гэта на прыстойным, адпаведным нацыянальнай літаратуры ўзроўні. І ўсё ж рабіць гэта трэба. Інакш стрыманасць нашага літаратуразнаўства можа расцаніцца як сапраўды яго некампетэнтнасць і банкруцтва.

Мне сённяшні дзень нашай літаратуразнаўчай навукі ўяўляецца часам удумлівага і пакутлівага пераасэнсавання спадчыны, часам назапашвання новых і аднаўленых імён, твораў і крыніц, урэшце — патэнцыяльных магчымасцяў.

Відавочна, што сёння нам не пазбегнуць палітызацыі. Гэта, на маю думку, будзе аб'ектыўным працэсам, або першай прыступкай у выпрацоўцы канцэпцый і тэорыі сапраўднага, дэідэалагізаванага літаратуразнаўства. І дзеля гэтага варта «ламаць коп'і» на старонках друку.

Самае актуальнае і першаступеннае — звярнуцца да гісторыі літаратуры папярэдніх перыядаў, асэнсаваць і прааналізаваць яе з агульначалавечых гуманістычных пазіцый, убачыць набыткі і выдаткі, рашуча скінуўшы ідэалагічныя шоры «класавасці, партыйнасці, народнасці».

Вяртанне да спадчыны павінна быць выключна сумленным і аб'ектыўным. Важнейшымі крытэрыямі пры гэтым павінны быць гістарычная праўда і эстэтычная вартасць твораў пісьменніка. Ахаіць, абвінаваціць у апалагетыцы — нескладана; куды цяжэй зразумець мастака, драматызм эпохі і чалавечых лёсаў у мінулым.

Цалкам непрымальнымі з'яўляюцца папрокі маладых навукоўцаў старэйшым: вы, маўляў, ніверліравалі, спрашчалі літаратурны працэс, былі залішне абачлівымі... Трэба разумець драматызм самога літаратуразнаўства і яго стваральнікаў у мінулыя часы, магчымасці якіх былі абмежаваны палітыка-ідэалагічнай унармаванасцю. Без вопыту, дасведчанасці, прафесійнасці старэйшых калег нам не абысціся.

Другой, перспектыўна неабходнай задачай сучаснага літаратуразнаўства будзе асэнсаванне і аналіз твораў нацыянальнай літаратуры ў кантэксце літаратур суседніх народаў. Сапраўды, наша навука павінна рашуча пазбавіцца сарамлівай правінцыйнасці, традыцыйнай інертнасці з тым, каб набыткі сваёй літаратуры ацэньваць у параўнанні з еўрапейскімі. Дзеля гэтага нам сёння яшчэ бракуе здаровай амбітнасці, самапавагі, смеласці і дасведчанасці. Гэту аб'ектыўна абумоўленую адсталасць давядзецца пераадольваць.

Аднак арыентацыя толькі на іншыя, больш тэарэтычна развітыя хоць і суседнія, але чужыя мацерыкі — занятак спажыўны і плённы толькі ў пэўнай ступені. Не стрымала б, не абмежавала б гэта пошукі і спасціжэнне нашай нацыянальнай адметнасці і вызначанасці, не абярнулася б штучнасцю...

У стварэнні сучаснай літаратуразнаўчай навукі вялікую ролю будзе адыгрываць асоба даследчыка, яго эрудыцыя, адукаванасць, густ... Мы маем даследаванні, якія можна лічыць узорамі для сённяшняга і заўтрашняга літаратуразнаўства. Дзеля прыкладу спашлюся на кнігу У. Калесніка «Янка Брыль», у якой засведчана філасофскае заглыбленне ў свет мастацкага твора, філіграннае, высока прафесійнае майстэрства адчуць, зразумець і прааналізаваць сюжэт, вобраз, дэталь, каб яны засвяціліся дыяментамі, уменне ўбачыць значнасць творчасці беларускага пісьменніка ў кантэксце твораў вялікіх польскай і рускай літаратур і доказна паказаць, што наша нацыянальная літаратура і змястоўная, і эстэтычна багатая, і таленавітая... Метадалагічнымі арыенцірамі для сучаснага беларускага літаратуразнаўства, мяркую, могуць з'яўляцца артыкулы і працы апошняга часу А. Лойкі, Д. Бугаёва, В. Каваленкі, У. Калесніка, М. Мушынскага, А. Рагулі, Р. Шкрабы...

Важкім і неацэнным здабыткам сённяшняга літаратуразнаўства будуць заставацца гісторыка-тэарэтычныя артыкулы М. Багдановіча, літаратуразнаўчая спадчына М. Гарэцкага, напрацоўкі адраджэнцаў пач. XX ст., прыхільнікаў беларусізацыі, тэарэтыкаў беларускай літаратуры 20-ых гадоў. У многіх адносінах нам трэба вярнуцца да іх, каб пачаць стваральны рух наперад.

Сёння існуе не толькі настальгія, а адчуваецца вострая патрэба ў тэорыі нацыянальнага літаратуразнаўства. Тут нельга не пагадзіцца з Ю. Лявончыкам, што манаграфій па тэарэтычных праблемах у нас мала. Без засваення сусветнага вопыту па гэтых праблемах (я цалкам згодна з А. Лойкам) мы застанёмся бездапаможнай правінцыяй. Відавочна, што гэта справа перш за ўсё акадэмічнага літаратуразнаўства.

Аднак катэгарычна не згаджуся з Ю. Лявончыкам, «што ў нас пакуль што няма мастацка і філасофска значных твораў у сучаснай літаратуры — на ўзроўні сусветнай». Ёсць. І хіба гэта не той жа правінцыялізм — адмаўляць сабе і нацыянальнай літаратуры ў значнасці і вартасці?.. Багдановіч, Гарэцкі, Купала, Колас, Караткевіч, Мележ, Быкаў, Казько, Пташнікаў... Іх творчасць з выключнай годнасцю ўпішацца ў еўрапейскі, у сусветны літаратурны кантэкст. Зрабіць гэта, прыклаўшы ўсе намаганні для пераадолення крызіснасці і адсталасці сучаснага літаратуразнаўства, — наш грамадзянскі і прафесійны абавязак.

г. Брэст.

Міхась ТЫЧЫНА

## НАЙЛЕПШЫЯ ВЫНІКІ ДАЕ ЭВАЛЮЦЫЯ

Вынікі няшчаднай эксплуатацыі за сем дзесяцігоддзяў у нашым літаратуразнаўстве адно толькі марксісцкага метаду — навідавоку. Міма нашай увагі прайшлі цэлыя літаратурныя перыяды, мноства пісьменніцкіх імёнаў і твораў. Але і тое, што носіць назву «класіка», мы па-сапраўднаму не прачыталі, задаволіўшыся верхнім пластам ідэалагічнай матываванасці. Наша шчасце, што масавы чытач не вельмі зважаў на шматлікія крытычныя інтэрпрэтацыі тэкстаў і вышукваў у іх тое, што ішло ад жывога жыцця, ад яго паэзіі. Гэта разыходжанне паміж літаратурнай гісторыяй і аб'ектыўна існуючымі мастацкімі творамі ў апошнія гады дасягнула крайніх пунктаў. Усё часцей і ўсё гучней чуецца пытанне: а як было на самай справе? Ці магчыма наогул дакладнае веданне гісторыі літаратуры? Калі нарэшце наша літаратурная тэорыя адшукае «залаты ключык» і здолее адамкнуць патаемны пакой са скарбамі нашага прыгожага пісьменства?

Самае парадаксальнае, што марксісцкі метад за ўвесь час так і не выявіў сваіх навуковых пераваг, якія ён, несумненна, мае, калі яго прымяняць у пэўных сферах грамадскага жыцця і не выдаваць за адмычку ад усіх дзвярэй. Па сутнасці, гэты метад выкарыстоўваўся дасюль толькі дзеля апраўдання дабрабыту асобных грамадскіх груповак з іх абмежаваным ідэалагічным пунктам погляду на свет, і літаратуразнаўства, на жаль, санкцыяніравала гэты вузкакласавы і просталінейны партыйны падыход да «літаратурнай справы» як часткі справы партыйнай». Самае большае, чаго дасягнула наша літаратурная навука з дапамогай марксісцкага сацыялагічнага метаду, гэта ўменне ставіць мастацкі твор у пэўны гісторыка-культурны кантэкст і выяўляць яго сувязь з эканамічным базісам, зменай грамадскіх фармацый, барацьбой класаў. Што ж датычыць уласна літаратуры як мастацтва слова, то тут гэты метад быў абсалютна бездапаможны: спрашчаючы, вульгарызуючы, дэфармуючы працэс творчасці, ён зводзіў яго да механічнай вытворчасці «тавараў масавага ўжытку», а пісьменніка ператвараў у «памочніка партыі».

Засілле аднаго навуковага метаду, імкненне выдаць лакальныя вывады за ўсеагульныя, як бачым, да дабра не вядзе. Але ці гарантуе навуковую аб'ектыўнасць наяўнасць мноства школ, метадаў, напрамкаў, стыляў? Нават авалодаўшы герменеўтыкай, дэканструкцыянізмам, неапрагматызмам, постструктуралізмам, рэцэптыўнай эстэтыкай і іншымі навамоднымі школамі заходняга літаратуразнаўства, мы не зможам быць з сусветнай навукай «на роўных»: вопыт сямідзесяцігадовага «р-р-рэвалюцыйнага выхавання» пераступіць цяжка. А можа, і не трэба. Не пераступаем жа мы адразу некалькі ступенек, калі нават і вельмі спяшаемся. У культуры, якую льга параўноўваць толькі з жывым арганізмам, найлепшыя вынікі дае эвалюцыя, а не рэвалюцыя, паступовае, паслядоўнае нарошчванне «гумусу». Хто можа даць гарантыю, што чарговы «навуковы»

эксперымент не знішчыць гэты тонենькі пласт чарназёму на зямной цвердзі ў адзін міг? Так званае акадэмічнае літаратуразнаўства, якое многім здаецца адарваным ад жыцця і нават мёртванароджаным, у гэтых адносінах яшчэ не сказала свайго важкага слова.

Пад «акадэмізмам» я разумею любоў да навукі, аб'ектыўных і дакладных ведаў, строгай і суровай ісціны. Любоў адну на ўсё жыццё. У 20-я гады, калі ўласна і ўзнікла паняцце «літаратуразнаўства», у нас ствараліся школы: біяграфічная, псіхалагічная, культурна-гістарычная, параўнаўча - гістарычная, фармалістычная і, вядома ж, марксісцкая. Аднак відавочна, што найбольшага поспеху дасягнула менавіта акадэмічная, якая імкнулася спалучыць усе перавагі вышэйназваных школ. Высокая паэзія «сухога» акадэмічнага выкладання зместу «Новай зямлі» Якуба Коласа ў даследаванні І. Замоціна і сёння здольна захапіць чытача. Не кажучы ўжо аб «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, дзе любоў да навуковай ісціны спалучылася з глыбокім пранікненнем у паэтычны змест многіх беларускіх мастацкіх тэкстаў. У той жа час гэта не эсэ, дзе нярэдка адсутнасць грунтоўнасці падмяняецца перабольшаным пафасам «самавыяўлення», больш падобнага на «самараспрананне», чым грашаць сучасныя празаікі і паэты.

Літаратурная навука павінна вярнуцца да прадмета свайго даследавання — да мастацкіх тэкстаў. Гэта адзіная аб'ектыўная матэрыя, якая не змяняецца з часам, са зменай палітычнай кан'юнктуры. Змяняецца толькі глыбіня іх прачытання, павялічваецца колькасць інтэрпрэтацый. Такое ўважлівае чытанне не адмаўляе літаратурнай тэорыі, наадварот, адкідваючы момант няісціннасці і недакладнасці, абгрунтоўвае яе пільную неабходнасць. Літаратурная навука павінна павярнуцца да літаратуры, як гэта ні парадаксальна гучыць, і адшукаць у мастацкіх творах тыя схаваныя сэнсы, якія маюць не толькі нацыянальнае, але і агульначалавечае значэнне і здольныя быць сацыяльна эфектыўнымі ў новых умовах жыцця. Толькі ў такім выпадку мы будзем патрэбнымі грамадству.

**Іван ЧАРОТА**

# ДА НОВАЙ КАНЦЭПЦЫІ

Уступаю ў размову, спадзеючыся, што яна не перарасце ні ў моташную псеўдадыскусію, накшталт гаманы глухіх, ні ў бессэнсоўную перапалку загадзя размежаваных «байцоў крытычнага фронту».

Дарэчы, надзею падмацоўваюць «штуршковыя» артыкулы. Яны ж, пры пэўных адрозненнях, выяўляюць адзін клопат і прыцягваюць увагу да той самай актуальнай задачы. Як і добра вядомы Алег Лойка, і замаскаваны ці містыфікаваны Юрка Лявончык, і калі не ўсе, дык большасць з патэнцыяльных суразмоўнікаў, я таксама лічу: апошнім часам асабліва ўсведамляецца недастатковасць назапашаных ведаў і складзеных уяўленняў пра мінулае, цяперашні стан дый перспектывы нашай літаратуры.

А тое, што кожны ідзе з бліжэйшага яму канца і хоча прапанаваць сваё бачанне пройдзенага і пажаданага шляхоў развіцця літаратуразнаўства, можа прынесці значнейшы плён. Каб толькі было жаданне шукаць агульную мову і блізкія пазіцыі.

Так, па-мойму, з любога пункту гледжання заўважаецца, кажучы мякка, няпоўная прыдатнасць таго навуковага апірышча, якое сфармавалася ў дачыненні да зусім іншага па генетычнай і функцыянальнай існасці матэрыялу. Усё відавочней, што эвалюцыйныя асаблівасці сцвярджэння беларускага мастацтва слова ў розныя эпохі немагчыма вытлумачыць ні арыентацыяй на грэчаскія альбо лацінскія ўзоры, ні збліжэннем з уплывовымі накірункамі Рэнесансу, Асветніцтва і г. д. у краінах Заходняй Еўропы, ні пазнейшай залежнасцю ад падманна-інтэрнацыяналістычных ды нарматыўна-сацрэалістычных тэндэнцый.

Усё гэта было, аднак не яно вызначала асноўнае.

На сённяшні дзень нам важна спаразумецца ў выбары галоўных — актуальных і перспектыўных — накірункаў развіцця тэорыі, метадалогіі сапраўднай навукі. А тут не прыдумаеш нічога лепшага, як, уважліва агледзеўшыся, вызначыць, што найбольш замінала дагэтуль.

Я б пералік вёў такім чынам: стэрэатып, у адпаведнасці з якім развіццё нацыянальнай культуры вызначалася пераважна ўзроўнем літаратуры толькі на сваёй мове; недастатковасць самаідэнтыфікацыі з пункту гледжання таго, што завецца «духоўным генатыпам»; павярхоўнае тлумачэнне міфа-паэтычнай традыцыі; чужамадэльная трактоўка стадый літаратурнага працэсу; ігнараванне феномену сумежнасці, пераходнасці, у тым ліку і шматстайных праяў двухмоўя; абыякавасць да комплексу праблем унутры- і міжлітаратурных стасункаў; збянтэжанасць перад рознаскіраванымі чыннікамі этна-канфесійнай прыроды...

Справа тут не ў паўнаце рэестра і не ў пошуку вінаватых. Галоўнае — не пакінуць надалей відавочных агрэхаў, не паўтарыць усвядомленых памылак. А яшчэ — не спяшацца перакрэсліваць усё, што набылі, адным махам. Плён, які мы, беларусы, маем у факталогіі ды тэксталогіі фальклорных і пісьмова-літаратурных матэрыялаў, дае падставы не толькі не саромецца, але і ганарыцца.

Бадай, нельга прызнаваць фактаграфію як належны ўзровень навукі, як мэту, і мусова скідаць палітыка-ідэалагічныя шоры. Памятаючы, што вывернутыя, пачэпленыя другім бокам, яны засцяць не меней. Асабліва ў цяперашніх акалічнасцях, калі асабліва складана весці патрэбныя параўнальныя і сістэмныя даследаванні — якраз тое, чаго нам прыкметна не хапала.

Пытанне пра «школы», «платформы», канкрэтныя методыкі я не закранаю таму, што яны самі па сабе складаюць ужо другі парадак. На першым плане задача — стварыць новую агульную канцэпцыю. Якой яна бачыцца мне?

Сур'ёзна выверанай перш за ўсё ў генетычным, тыпалагічным, кантакталагічным і агульна-сістэмным аспектах. Тады, між іншым, лягчэй будзе пазбаўляцца і ад комплексу правінцыяльнасці, і ад сімптаматычнага захаплення ўмоўна-еўрапейскімі арыенцірамі. Не варта забывацца, што літаратура можа ацэньвацца толькі па сваіх (якія ўжо наканаваны) радаводзе, умовах сцвярджэння, кантэксце функцыянавання. Апроч таго, ніхто не выкасуе з агульнапрынятага досведу элементарных паняццяў пра мікра- і макрасістэмы, прынцыпы іх утварэння і ўзаемадзеяння. У дачыненні да літаратуры яны, зноў-такі, завязваюцца на агульнасць вытокаў, суаднесенасць гістарычных перспектыў, падабенства эвалюцыйных працэсаў, наяўнасць трывалых сувязей.

Усё гэта не можа не быць улічана. А таму ёсць патрэба азначыць важнейшыя класіфікацыйныя абсягі, не прамінаючы ніводзін. Адпаведна: беларускі— усходнеславянскі — агульнаславянскі — усходнееўрапейскі — агульнаеўрапейскі — сусветны. Падкрэслім, што гаворка вядзецца не пра ступені — ад ніжэйшай да вышэйшай. А пра **канцэнтрычную сістэму,** кругі якой у паслядоўнасці маюць сэнс і «арбіт», і ўзроўняў кантакту з наступным, шырэйшым колам. Прычым, тут не будзе запраграмаваных скажэнняў пры пунктах гледжання і з сярэдзіны, і звонку, і зверху.

Натуральна, што гэтая, як любая іншая схема, нешта спрашчае. Але ў дадзеным выпадку мадэль канцэпцыі не парушаецца.

**Таццяна ШАМЯКІНА**

# СПАДЗЯЮСЯ НА ПРАРЫВЫ ДУХУ

Я лічу, што беларускае літаратуразнаўства адэкватна тлумачыла беларускую літаратуру на ўсіх этапах яе развіцця. А якая была беларуская літаратура? Погляд на яе як на правінцыйную даўно знаёмы. Але гэта погляд збоку, зверху, погляд элітарны, які таксама неабходны. Часам жа варта паглядзець і знутры, як бы вачыма простага чалавека, абстрагуючыся ад заходніх традыцый, ад пошукаў суседзяў. Тое, што ў XX ст. быў бурны ўзлёт беларускай літаратуры, што яна развівалася імкліва і плённа, хаця і са стратамі, што менавіта яна і толькі яна садзейнічала станаўленню беларускай нацыянальнай свядомасці, кансалідавала нацыю,—гэта бясспрэчна. Ёсць мастацтва, якое раз'ядноўвае грамадства,— элітарнае, афіцыёзнае, дысідэнцкае, а ёсць мастацтва, якое аб'ядноўвае. Беларуская літаратура заўсёды аб'ядноўвала народ і інтэлігенцыю, была ў аснове сваёй глыбока дэмакратычная. Вось тое, пра што неабходна памятаць. А пасля ўжо пачынаюцца «але»...

Мой настаўнік А. Лойка піша пра трагізм становішча народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта так. Але якраз тут варта агледзецца навокал. Трагічным быў шлях большасці мастакоў першай паловы XX ст.: ці гэта зломленасць бальшавізмам, ці эміграцыя, ці згубленасць пасляваеннага пакалення ў заходняй літаратуры. Сапраўдныя мастакі ўсе хваравіта перажывалі сацыяльныя катаклізмы і ўсе мелі ілюзіі. Хіба славутыя Р. Ралан і Л. Фейхтвангер не ўслаўлялі Сталіна? Варта, відаць, гаварыць пра агульную трагедыю духу: крушэнне прынцыпу гуманізму ў яго нехрысціянскім варыянце. Такі гуманізм разглядае дабро і зло як паняцці адносныя. Толькі рэлігія дае дакладнасць у гэтай квінтэсенцыі ўсіх чалавечых праблем. Натуральна, што секулярызаваная свядомасць XX ст. не дапамагала чалавеку змагацца са злом — і ў грамадстве, і ва ўласнай душы. Вось у чым «без віны вінаватасць — слепата, аберацыя зроку, самападман, падман народа і чалавека» нашай літаратуры. На гэта накладваецца, безумоўна, існаванне ва ўмовах таталітарнай дзяржавы. Пафас грунтоўнага артыкула А. Лойкі «З настальгіяй па тэорыі» — і ёсць прага вызвалення ад самападману, самагіпнозу, імкненне да аб'ектыўнасці і паўнаты погляду на ўсю сацыяльна-палітычную і культурную сітуацыю XX ст.

Хвалюе і другое, што вынікае з папярэдняга,— страта даверу народа да выратавальнай сутнасці слова, страта веры ў пісьменнікаў як сумленне нацыі. Па вялікім рахунку ў беларускага народа няма сёння сапраўдных, прызнаных **большасцю,** нацыянальных лідэраў. Вось у чым бачыцца сапраўдная драма, а не ў тым, што мы не займаемся праблемамі міфу. Будзем займацца, і вельмі хутка! Студэнты нашага філалагічнага факультэта апошнім часам жыва цікавяцца міфам, міфалагічнай свядомасцю, этнапсіхалогіяй і знаёмы з навейшымі навуковымі публікацыямі па гэтых пытаннях. Вывучаюць у нас і Весялоўскага, і Пропа, і Леві-Строса, і Бахціна, і М. Эліадэ, названых Ананімам. А яшчэ і Дж. Фрэзера, і К. Юнга, і Б. Крочэ, і Г. Гачава. Тое, што пра што зусім слушна піша наш паважаны Ананім, вельмі добра ўсведамляюць на філфаку, які нават структурна апошнім часам перабудоўваецца ў напрамку, указаным Юркам Лявончыкам,— «сумежжа навук, моў, краін». Дарэчы, ажыццяўляе гэту перабудову, адкрывае новыя кафедры і аддзяленні дэкан факультэта А. Лойка, імя якога гаворыць само за сябе, і, ведаючы, што ў нас ёсць вялікая група сапраўды дапытлівых, цікаўных, таленавітых, працалюбівых хлопцаў і дзяўчат, я аптымістычна гляджу на будучы стан беларускага літаратуразнаўства.

А стан сённяшні? Ёсць думка, што гаварыць сёння пра эстэтычныя якасці прозы і паэзіі, — справа безнадзейная і нават амаральная. Тут абы выжыць... Але я спадзяюся якраз на прарывы духу ў наш галодны час. Ды і зроблена было нямала. Лепшыя беларускія літаратуразнаўцы па сваёй адукаванасці, шырыні поглядаў стаялі і стаяць на еўрапейскім узроўні. Аднак пра эпоху каментатарства гаворыць не толькі паважаны Ананім (ён называе гэта канстатацыяй), але і навукоўцы небеларускія. Што ж зробіш? Сапраўды, такая эпоха. Акрамя таго, грунтоўны падмурак — гістарычнае літаратуразнаўства, крыніцазнаўства, тэксталогія — пад тэорыю літаратуры абавязковы і неабходны.

Так, у нас няма многіх напрамкаў сучаснага літаратуразнаўства, якія даўно развіліся, зацвердзіліся на Захадзе. Але не таму, што беларускія літаратуразнаўцы не ведаюць пра іх, не ўсведамляюць іх неабходнасць ці не ўмеюць, а таму, што элементарна не хапае кадраў. Дзіўны парадокс: філолагаў у нас многа, а тэарэтыкаў літаратуры недаравальна мала. Ва універсітэтах і педінстытутах звычайна працуюць над прыкладнымі праблемамі. Вучонымі акадэмічнага інстытута зроблена вельмі многа, але не могуць яны быць «на ўсе рукі». Неабходны новыя, маладыя сілы, якія аб'ядноўваюцца вакол аўтарытэтных вучоных, бо сітуацыя такая: цікавыя і вельмі моцныя літаратуразнаўцы ёсць, а школ няма. Неабходны свой тэарэтычны часопіс, але ў наш час гэта, бясспрэчна, утопія.

Развіццё беларускага літаратуразнаўства я бачу на скрыжаванні, перасячэнні традыцыйных метадаў з наватарскім падыходам. Браць усё новае, цікавае, быць адкрытымі свету, але не цурацца і свайго, не выкрэсліваць папярэднія здабыткі, усё больш паглыбляцца ў нацыянальную глебу.

# ЯШЧЭ ДВА СЛОВЫ ПРА ПЕРЫЯДЫЗАЦЫЮ

Сёння агульнымі намаганнямі літаратуразнаўцаў ствараецца новая перыядызацыя літаратуры. У артыкулах А. Лойкі, М. Мішчанчука, І. Шпакоўскага выказваецца патрэба адарвацца ад спрошчана-вульгарызатарскай канцэпцыі літаратуры як рэакцыі на грамадска-палітычныя падзеі. Аднак падзеі так ці інакш звязаны з нацыянальным адраджэннем, ідэі якога і павінны ляжаць у новай перыядызацыі. Паспрабую праілюстраваць сказанае на развіцці гістарычнай прозы.

Спецыфіка нацыянальнага развіцця (а, значыць, і нацыянальнай думкі) кожнай нацыі ўплывала на лёс літаратуры, у прыватнасці — на гістарычную прозу. Падставы актуалізацыі мінулага трэба шукаць у адметнасцях сучаснага моманту адпаведнага часу. Гэта бачна на прыкладзе літаратуры пачатку стагоддзя, на ўзорах сучасных твораў: новае разуменне гісторыі нараджаецца ў нацыі, якая знаходзіцца на ўздыме.

Зыходзячы з гэтага, нельга пагадзіцца з прапановамі не ўлічваць гады вайны (1941—1945 гг.) як асобны этап літаратуры. Менавіта ў гэты час напісана большасць гістарычных твораў Я. Дылы, раман «Адвечнае» Б. Мікуліча, набыла новы — якасна — узровень творчасць Ю. Віцьбіча. Паўстае пытанне — чаму?

А таму, што ў ваенныя гады ўраду СССР было палітычна выгадна вярнуць народам гістарычных дзеячаў, нацыянальных герояў.

Такім чынам, падчас вайны 1941 — 1945 гг. у беларускай літаратуры адбыўся паварот да новых тэм і новага іх адлюстравання. Гістарычныя творы апасродкавана ўплывалі на ідэі нацыянальнага адраджэння. Таму, мяркую, варта захаваць перыяд вайны як асобны этап у новай перыядызацыі літаратуры. І, можа, пры падрыхтоўцы такой перыядызацыі варта прыслухацца і да голасу дыяспары. Напрыклад, У. Глыбінны ў кнізе «Доля беларускай культуры пад Саветамі. Даследванні і матэрыялы» (серыя 2-ая, выпуск 68. Мюнхэн, 1958 г., с. 9) прапанаваў наступныя этапы развіцця:

1. Перыяд адноснага рэнесансу 1920—1929 гг.

2. Трагічны перыяд змагання партыі з беларускім нацыянал-дэмакратызмам 1930—1940 гг.

3. Перыяд вымушаных уступак нацыянальнай культуры ў часе вайны 1941—1945 гг.

4. Жданаўская рэакцыя і сталінская кананізацыя 1946—1952 гг.

5. Перыяд замены сталінскай кананізацыі г. зв. калектыўным кіраўніцтвам партыі з 1953 г.

І астатнія, акрамя вайны 1941—1945 гг., перыяды таксама прагледжваюцца пры разглядзе гістарычнай прозы. Вялікі пералом 1929 г. — і застаецца нясконччаным раман М. Зарэцкага «Крывічы», пазбаўляюць волі Я. Дылу. У 30-х гг. — спачатку няўвага, а потым гвалтаванне апавяданняў Ю. Віцьбіча, адсутнасць сапраўдных мастацкіх твораў на гістарычную тэму. У пасляваенныя гады гістарычная проза захавала толькі апратку, не болей. Апошні перыяд даў з 1955 г. У. Караткевіча, бацьку новай беларускай гістарычнай прозы.

**Лявон ЮРЭВІЧ.**

**Таіса МЕЛЬЧАНКА**



## Дрэва славянства

Наша дрэва славянства чарнобыльскім дротам абвіта.
І атрута-змяюка паўзе да яго каранёў.
Зорка лёсаў людскіх ледзьве-ледзьве сарвецца з арбіты —
Перапоўнена болем да самых, да самых краёў.
І згінаецца дрэва пад грузам і слёз, і праклёнаў.
І ад сэрца з крывёй адрывае штодзённа лісты.
Ды над кожнай душой галасіць будзе, мабыць, да скону,
Зазіраючы ў двор адзічэла, здзічэла пусты.

Стогне дрэва славян — адчувае, як корань слабее.
Ды ўчэпіста ўсё ж шчэ трымаецца ён за зямлю.
— Прыйдзе, прыйдзе вясна! — зноў лістота шапоча з надзеяй.
— Я чарнобыльскі дрот на шматкі, на шматкі разарву.

Маё дрэва славян! Пад табою зноў вырылі яму.
І асколкі рэнтгенаў з-за свету вязуць, каб згрузіць.
Зноў трашчыць саркафаг нечай подлай душы і падману.
Корань твой, быццам шнур, быццам шнур дынамітны гарыць.

Чуеш, дрэва славян! Хтось адкажа за боль твой і мукі!
Бо гудзе Беларусь, як на дзікіх дварах чарнабыль.
Глянь жа! Здані сціскаюць, сціскаюць змярцвелыя рукі,
Каб паменшала ў нас гэтых свежа-жвіровых магіл.

## Смяюцца цэны

Ад вольных цэн на лоб палезлі вочы.
Стаў бізнесмен, нібыта воўк, мацёр.
Ды мулка спіць ён на пярыне ноччу,
Каб на кручок не хлопнуў рэкецёр.

І я не сплю, хоць і няма запасаў —
Зайчыная у мацеры душа:
Што новы дзень падкіне дзецям нашым,
Калі так расхадзілася іржа!

Ім хочацца прыстойна апранацца.
Губа — не дура. Тонкая кішэнь,
Бо кожна рэч навучылася кусацца,
Штурхае ўсіх няўгодных у каршэнь.

Сцвярджаюць: «Па апратцы сустракаюць,
Па розуму ўсё ж людзі правядуць!»
...Тым часам бабка пояс заціскае,
Бо пенсія — як месяц працягнуць!

Смяюцца цэны з дурасці законаў,
Бо возьмеш што сягоння з жабрака!
Забіты ён, зусім безабаронны.
Багацце ўсё — мазольная рука.

●

Стаў свет увесь азлоблена-ваўчыны.
У людскіх вачах — нянавісці агонь.
Абразіць могуць нат без дай прычыны
І плюнуць у жабрачую далонь.

Згубілі душы пачуццё святое,
Іх не разжаліш воклічам бяды.
Хтось мацюкнецца смачна, непрыстойна:
— Зарэзалі!... І маць яго туды...

Хамулы ўсе нахабства дэманструюць —
Ашчэраць зубы і наперад пруць.
Скажы ім слова, дык пудову дулю
Без сораму любому паднясуць.

Вунь у чарзе цяжарная раджае.
Без жалю пераступяць і яе:
— Сядзіць хай дома, пузам не шмуляе,
А ходзіць муж, што ў падваротнях п'е.

Стаў свет такі азлоблена-ваўчыны.
Са свечкаю не знойдзеш дабрыні.
...Удушшам захлынаецца Айчына.
Ці ёсць яшчэ, хто здольны бараніць!!!

*Георгій Марчук*



# ХАОС

**Пад такой назваю, калі Бог пашле натхненне, хачу скласці кніжку апавяданняў, над якімі працую ў час асаблівага душэўнага настрою. Чаму менавіта такая назва?**

**Апынуўшыся паміж смуткам і адчаем і разумеючы непатрэбнасць духоўнасці, нацыянальнага адраджэння, царквы, літаратуры, кожны свядомы чалавек міжволі прыйдзе да трагічнага светаўспрымання абвінавачваючы найперш Бога і недасканаласць чалавечай прыроды. На раздарожжы палітычных, эканамічных, сацыяльных змен і я апынуўся, як усе, у духоўнай ізаляцыі, калі ўсвядоміў, што беларуская кніжка зараз нікому непатрэбна, што стаяць на паліцах без патрэбы нават шэдэўры геніяў свету.**

**Дзень і ноч, жыццё і смерць, гармонія і калапс — усё гэта дзеці вялікага Хаосу, якога і я да апошняга часу лічыў злой воляю. Незразумелае слова гэта заўсёды наводзіла жах, пазбаўляла волі, надзеі, апірышча. Захацелася, няхай па-свойму, спасцігнуць хоць частку сакрэту і мудрасці Хаосу. Дазваляючы самому сабе права зменьвацца, сталець, старэць, мы як бы адмаўляем у праве на рух усяму, што вакол нас. Ілюзорны спакой прытупляе нас, робіць бязвольнымі ахвярамі абставін, гульняў палітыкаў, багацеяў, з'яў прыроды. Хаос выкрышталізоўвае з нас чалавека, робіць нас цярплівымі, мужнымі, не дазваляе нам заснуць у сытасці (і ў голадзе), у эгаізме і міласэрнасці. Бо не можа бясконца цягнуцца гора, як не можа доўжыцца працяглы час радасць. Успомнім. Што жыццё? Мітусня ў мітусні. Дык гэта ж добра. Мітусня — палатно, на якім чалавек страсцямі, звычкамі, учынкамі, выбарамі і абавязкам вышывае малюнак свайго лёсу. Вечны рух, непрадказальная тайна наступнага дня, чаканне дзіва, якое, на жаль, мы з гадамі губляем, цяжкасці, пераадольванне іх, страты, перамогі, пакуты, асалода... Ці ж без гэтых прыкмет мітусні будзе наша жыццё паўнаводным?**

**Што ж застаецца? Калі нічога не можа быць тваім — ні багацце, ні ўлада, ні здароўе, ні адносны спакой. Трэба ўзяць у настаўнікі Бога, настроіць сваё сэрца на лад дабрыні, вялікадушнасці і рушыць насустрач Хаосу з пастаяннай любоўю ў душах да ўсяго жывога. Пакутаў і смерцяў на гэтым шляху будзе меней у таго, хто добры. Бессэнсоўна кіраваць жыццём. Трэба толькі назаўсёды ўсвядоміць, што ты сам з'яўляешся прычынаю гора і смерці і прычынаю радасці ды шчасця іншага. Царква, літаратура, мастацтва дапамагаюць арыентавацца ў руху, каб не згубіць боскі пачатак. Не панікуй, чалавеча, ад уласнага бяссілля, адчай — таксама грэх, ты патрэбны ўсім і ўсяму, бо і без цябе не абысціся Хаосу, які нічога не знішчае, а пераводзіць у іншы стан існавання.**

## Словы

Кожную раніцу ў нядзелю дзед сядаў да акна і пачынаў чытаць Біблію. «Напачатку было слова, і слова было ў Бога, і слова было Бог». Пасля першага ж сказа дзед надоўга задумваўся, глядзеў на мяне, непаслушэнца, і мякка павучаў:

— Неба, дрэва, зерне, зоры, чалавек — усё цуд, усё тайна. За адно тое, што Бог даў чалавеку слова, я гатовы пакланяцца яму. Цуд з цудаў. Усяму дадзена не толькі дыханне, назначэнне, але і голас, каму песня, гук, слова. Поле без крумкача і яго кар-кар — голае поле. Што лес без зязюлінай песні? Пусты, няпоўны. А чалавек? Вось я апавядаю, шукаю ў галаве патрэбнае слова, каб выказаць сардэчны настрой, а ты слухаеш... Ты пачнеш гаварыць, я слухаю, не перапыняю цябе, забіраю твае словы добраахвотна, хвалююся, перажываю. Мы шчаслівыя з табой, што бачым гэты свет, можам уславіць яго словам. Сэнсу ў войнах аніякага. Вайна не можа знішчыць слова. І Жэня Мэко няшчасны, бо глуханямы.

— Дык ён жа трохі чуе і такія-сякія словы ведае.

— А, госпадзі, воля твая, што ён там чуе? Што ён там гавора? — з жалем адказваў дзед і вяртаўся да святога пісання.

Жэня жыў разам з маці, якую па-вулічнаму ўсе звалі Бесарабіха і якая ці не адзіная на ўсё мястэчка пякла да праваслаўных святаў пернікі ды абаранкі.

«Калі ўжо ў Бесарабіхі не будзе мукі, то лічы, што вярнуўся сапраўдны голад», — казалі нашы бацькі тады, у пачатку шасцідзесятых. А мы, падлеткі (нам яшчэ не было, што ўспамінаць, яшчэ не нажыліся), проста чакалі свята, беглі насустрач Жэню, які шчаслівы і горда нёс да царквы на сваіх плячах вялізную карзіну, накрытую белым рушніком. Пах ад гэтых свежаспечаных, жоўта-белых абаранкаў не забыць мне ніколі. Жэні ад гандлю перападала такая-сякая капейчына. Ён ішоў да чайной і ў складчыну з хлопцамі піў дзяшовае яблычнае віно. Дамоў ён вяртаўся ў цудоўным настроі, спяваў, калі гэта можна назваць спяваннем, на свой манер, як выходзіла. Усім было весела. І яму самому, і слухачам на ўсёй Аселіцы, дзе мы з ім жылі. Хто Жэню ведаў даўно, усё ж так-сяк мог разабраць некаторыя з цяжкасцю вымаўленыя ім словы. Але от дзіва! Тры словы ён гаварыў звязна і досыць выразна.

— Як жыццё, Жэня? — пыталіся мы ў яго.

Жэня выстаўляў вялікі палец і адказваў:

— Віно, дзеўка, грошы.

Мы рагаталі. Але не памятаю, каб ён абураўся, лез біцца — ён таксама смяяўся.

Памерла яго гаротніца-працаўніца маці. Частыя паездкі ў Мазыр, Пінск, Дубровіцу ў пошуках мукі падарвалі яе сэрца. Жэня не здолеў асвоіць прафесію хлебапёка, пайшоў у калгасную брыгаду вазіць гной. Быў ён дысцыплінаваны і рабацяшчы. Жыў, гараваў на зямлі, не ведаючы слоў рэвалюцыя, капіталізм, камунізм. Прайшоў час і паехалі мы ў свет, разбегліся, хто куды, шукаючы прафесію і лягчэйшае жыццё, а ён застаўся вазіць гной, капаць бульбу. Мы не бачыліся гадоў дваццаць пяць. Памерлі за гэты час генеральныя сакратары шмат якіх кампартый, змірыўся нарэшце з немажлівасцю і апошні генеральны, перадаў уладу іншым, якія стомленаму і расчараванаму люду прапанавалі гуртам і хуценька вяртацца назад у капіталізм, які цяпер таксама будзе з чалавечым тварам. Жэня пазнаў мяне адразу, доўга ціснуў маю руку сваімі шурпатымі, як наждачка, вялізнымі далонямі. Мы запрасілі яго да свайго стала, пачаставалі віном. Вочы ў Жэні павесялелі. Яго новы сусед сказаў мне, што Жэня цяпер жыве ў камунальнай калгаснай кватэры, атрымлівае невялічкую пенсію. Без злосці, з нейкай нават асалодаю (мо таму, што сярод людзей) стаіць у чарзе па хлеб, малако. Зрэдку купляе кавалак каўбасы, якую прывозяць у мястэчка з суседняй Украіны.

Жэня вельмі ўважліва слухае нашу гучную, блытаную гутарку-ўспамін пра дзяцінства, пра мінулае, пра такія блізкія і такія далёкія даўнія часы юнацтва, у знак згоды ківае галавою, усміхаецца разам з усімі.

— Як жыццё, Жэня? — бадзёра, як да старога сябра, звяртаюся да яго я.

Жэня глядзіць мне ў вочы, бязвольна махае рукой і раптам ашаламляльна адказвае, вытрымліваючы паўзу пасля кожнага слова.

— А... Грошы... віно, дзеўка!

Я не адразу асэнсоўваю сказанае, па звычцы ўсміхаюся яго вечнай трыядзе. Толькі крыху пасля ўсведамляю, што Жэня па-свойму асэнсаваў час, як той мудры Канфуцый, пераставіў словы месцамі. Цяпер ужо я доўга цісну яму руку, дзякую і як бы радуюся, што і Жэня жыве са мной у адной прасторы.

Вечарэе. З неахвотаю, але ж разыходзімся. Ад бочак патыхае перакісшым старым півам. Ніхто з нас, саракагадовых дзядзькоў, ужо не спяшаецца ў клуб на танцы, цягнемся кожны ў свой бок, дадому. Цяжкаю хадою (слабнуць ногі) кіруе за мост на другі край гарадка і Жэня. Ідзе моўчкі. Не пяе. Нечага не хапае. Нешта так сумна на душы, так адзінока...

Мне шкада, што Жэня ніколі не вучыўся грамаце і не зможа прачытаць маіх прачулых слоў аб ім. Не можа і ўчуць іх, бо слых ягоны з гадамі зусім аслабеў. Чамусьці вельмі выразна паўстае ў памяці нябожчык дзед, які бярэ ў рукі кнігу, як малое дзіця, і пачынае чытаць: «Напачатку было слова»...

## Слабое сэрца

Іван Чэх не ведаў, з якога боку ў яго сэрца і як яно баліць, да гадоў чатырнаццаці, да таго самага дня, пакуль сусед, электраманцёр з пошты, не запрасіў яго з сабою на паляванне.

— Хочаш пальнуць з двухстволкі?

— Хачу! — з ахвотаю і дзіцячай радасцю адказаў Іван.

— Тады сядай у люльку,— лагодна прапанаваў сусед і паказаў на матацыкл.

Іван, як кенгуру, скочыў у каляску і сеў у чаканні нечага незвычайнага. Сусед тым часам прывёў на ланцугу сваю старую аўчарку, пхнуў яе нагой і пасадзіў побач з Іванам.

— Зусім аслепла, старая падла, лезь, лезь, гніда!

Старая сучка, пакорліва слухаючыся гаспадара, якому аддана служыла дзесяць гадоў, не ведала, куды сябе дзець, усё не магла ўмасціцца. Ледзь не села Івану на калена.

— Ляжаць, падла, ляжаць! Каму сказаў! — гыркнуў сусед.

Сучка прыціснулася да Іванавых ног, апусціла галаву, аднак ехаць ёй было цяжка і яна з маўклівага дазволу хлопца паклала сваю галаву яму на калені. Іван не любіў катоў, сабак, нават не спачуваў іх горкай долі. Але глянуў ён ёй у вочы і жахнуўся: такіх смяротна-сумных вачэй ён зроду не бачыў.

Прыехалі на Камору. Рака, луг, далей поле кукурузы. «Дзе тут знойдзеш зайцоў? Хіба ў кукурузе?» — падумаў Іван.

Сусед выцягнуў сабаку з каляскі, адвёў яго да краю ямы і прывязаў ланцуг да кораня ліпы, што тырчэў з зямлі.

— Трымай, Іван, стрэльбу. Толькі асцярожна. Левую нагу трошкі выставі наперад, каб упор быў. Та-ак, малайчына! Прыклад — падпаху. О, правільна! Ты як запраўскі паляўнічы. Цэлься і цісні на курок. Толькі не на два адразу, а па чарзе.

— Куды цэліцца? — не ўцяміў Іван.

— У сучку, а куды ж! За што яе, старую падлу, карміць? Яшчэ тыдзень — усё адно здохне. Не хачу, каб дзеці бачылі. Давай, цэлься ў лоб.

Ногі ў Івана задрыжэлі і ён часта-часта замігаў векамі.

Сучка, здавалася, усё разумела, стаяла нерухома, глядзела сваімі сумнымі вачыма на Івана.

— Не. Не магу... У мяне, мамка кажа, слабое сэрца... Не магу.

— Страляй, тваю маць! Баба ты ці што?

— Не. Не магу...

— Ай, трус!.. Сказаў бы я, што ў цябе слабое. Я думаў, ты мужык! Дай сюды!

Сусед незадаволена, рэзка вырваў з Іванавых рук стрэльбу, заліхвацка ўскінуў яе і пальнуў з двух ствалоў. Сучка бязгучна ўпала ў яму.

Сусед зняў з яе шыі ашыйнік, кінуў ланцуг у люльку і падаў Івану рыдлёўку.

— Закапай, баязлівец!

Усю ноч Іван не спаў. Жахлівы гэты выпадак як прасвятліў яго душу. Ніколі ён больш не кінуў каменя ў чужога ката, бяздомнага сабаку. Узімку самаручна зрабіў тры кармушкі і прымацаваў іх на яблынях у садзе.

...У войску Іван вывучыўся на шафёра. Служыў у сталіцы, у ёй і застаўся пасля дэмабілізацыі, працаваў на хлебазаводзе. Вазіў хлеб. Вельмі ж быў задаволены сваёй работаю, хоць заробкі былі і не высокія. З дапамогай бацькоў займеў аднапакаёвую кааператыўную кватэру. Некалькі разоў правяраў сваё слабое сэрца. Дактары супакойвалі: «Нічога небяспечнага няма. Звычайны неўроз. Прырода, актыўны адпачынак, спакойнае сямейнае жыццё — і ўсе міне».

# ХАОС

(Пачатак на стар. 8—9).

змагла запомніць свой дзень смерці, калі прылятаў да яе анёл? Як толькі міне гэты дзень — гуляй аж чатыры гады, як бы ні выгіналася смерць, а не мае ўлады!

Ля магілы Вольгі Карлаўны стаіць жанчына сярэдняга ўзросту і мужчына з густымі сівымі бакенбардамі. У жанчыны паліто з дарагога сукна, норкавы каўнерык. Не бедна апрануты і мужчына. Твар у яго стомлены. Вочы маленькія, жывыя, насцярожаныя. Жанчына заўважыла, што я краем вока цікую за імі, адвярнулася. Мужчына азірнуўся, нібыта рыхтаваўся да абароны. Яна падала яму бутэльку з гарэлкаю. Ён зубамі дастаў папяровую пробку, наліў у тры чаркі, адну з якіх паставіў на сподачку на магілу. Яны, як бы баючыся чужога вока, выпілі. Так атрымалася, што рушылі мы да цэнтральнай брамы адначасова, параўняліся і пайшлі побач. У гэтай сітуацыі і ў такім месцы і замкнёныя людзі адкрываюць незнаёмым сваё, набалелае.

— У рэдкі дзень, трэба сказаць, памерла ваша Вольга Карлаўна,— сказаў я тое, аб чым думаў.

— І не кажыце. Бог пачуў яе малітвы. Мама, хоць і працавала ўсё жыццё настаўніцай, але ж падпольна верыла ў Бога. Да касцёла не хадзіла, а ўсе каталіцкія святы святкавала. Употай. Хіба што мы, дзеці яе, толькі і ведалі. Рэдкі быў чалавек, наша мама. І слова, бадай, такога няма, каб ахарактарызаваць яе,— мужчына на мінуту задумаўся, шукаючы патрэбнае слова. — Хіба — непрыкметны чалавек? Вось-вось.

Жанчына, сястра яго, маўчала.

— Нават не. Анёл. Паважала ўсіх. Ворагаў не мела. Страшылася да хваробы, да сардэчнага болю, калі чым-небудзь нязначна магла пакрыўдзіць каго-небудзь. Яна ніколі не замінала нам ні словам, ні сваёй прысутнасцю. Жыццёвы прынцып быў: не турбаваць, не надакучаць. Усе аддавала нам. Мы вывучыліся, пабудавалі кааператыўныя кватэры. Да апошняга хадзіла ў школу... У адной школе, на адным месцы сорак гадоў. Толькі год на пенсіі і пажыла. Анёл — адно слова. Ніхто ніколі не чуў ад яе благога слова, не бачыў нахабства, бестактоўнасці. Яна ўмела цаніць тое, што зроблена не яе рукамі. Рэдкі дар. Здаралася, гасцюе ў нас, ці ў сястры... больш, канешне, топчацца на кухні, як каля святочнага стала. Дык што вы думаеце? А дванаццатай гадзіне ідзе на апошні аўтобус і едзе дахаты. Кажу, заставайся, начуй у нас. Ай, адказвае, дзеткі, што вам тут буду назаляць, лішнія турботы. Мы яе не разумелі, не цанілі, лічылі, мякка кажучы, дзівакаватай. Яна, відаць, сястра казала неяк, прасіла ў Бога, каб смерць ёй паслаў менавіта 29 лютага. Сюды далёка дабірацца. Лішнія турботы, самі разумееце. Сястра мая каля Аэрапорта жыве, а я ў Кунцаўшчыне. Занёс чорт... Вы за рулём?

— За рулём.

— Можа, падкінеце сястру да Камароўкі? Там, каля рынку, яна перасядзе на маршрутнае таксі і спакойна даедзе. Я ж пазнюся, а па горадзе круціцца — бензін увесь перавяду. Зрабіце ласку.

— Не турбуйцеся, падвязу.

— Дзякуй вам! — ажывіўся мужчына, больш да ўспамінаў аб маці не вяртаючыся.

— Каця, людзі цябе падвязуць да Камароўкі. А я паеду дзела дзелаць. Калі падыдзе чарга на помнік, пазвані. Я сваю долю дам. Па гэтай часці будзь спакойна,— знарок казаў ён гучна, каб мы чулі.

І мужчына пабег да свайго «жыгуля».

Вецер нагнаў хмар, хмары, нібыта спяшаючыся, пачалі шчодра сыпаць снегам.

Мы маўкліва ехалі ўздоўж бясконцай жалезабетоннай агароджы могілак, на якіх засталася чакаць чатыры гады дзяціных адведак Вольга Карлаўна.

# КАМУ НАЛЕЖЫЦЬ ХРАМ

## Полацк, фестываль. І вакол яго...

### Апошні кліч

НЕ ТРЫВОГА — крык адчаю чуўся ў першых жа радках ліста, перададзенага мне за суткі да ад'езду. Ехала я ў Полацк, на традыцыйны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. Хоць тое пісьмо ў дарогу не брала, змест яго суправаджаў увогуле ўсцешныя, а то і ўзнёслыя ўражанні маіх камандзіровачных будняў.

А мо перабольшваю, мо хто іншы сказаў бы — «нічога страшнага»? Ліст адкрыты, ужо накіраваны па інстанцыях: спадарам Шушкевічу, Кебічу, Вайтовічу, Гілевічу, шэрагу іншых парламентарыяў, у абласны, гарадскі Саветы, яшчэ ў пяць, апроч «ЛіМа», газет... Ну, дык чытайце, мяркуйце. Цытую:

«Гэты ліст — апошні покліч аб дапамозе. Над унікальным для Беларусі Полацкім гісторыка-культурным запаведнікам навісла пагроза ліквідацыі шляхам паступовага разбурэння яго структуры. Да гэтага вядзе актыўная наступальная пазіцыя праваслаўнай царквы пры абыякавым — ці, можа, і свядомым? — патуранні ёй з боку мясцовых і вярхоўных улад. Складаецца ўражанне, што Руская Праваслаўная царква на Беларусі ўзводзіцца ў ранг дзяржаўнай, а яе падтрымка ўладамі робіцца дзяржаўнай палітыкай. Пры гэтым шматпакутны лёс нацыянальнай культуры, як і раней, у часы ваяўнічага атэізму, так і цяпер, пры ўсебаковай хрысціянізацыі грамадства, хвалюе толькі асобных энтузіястаў... Разбураецца тое, што створана шляхам найвялікшых намаганняў на мізэрныя сродкі, што выдзяляў на культуру дзяржаўны бюджэт. Полацкі гісторыка-культурны запаведнік аднаго за другім пазбаўляецца помнікаў, адрэстаўраваных сваімі сіламі, без кампенсацыі страт, матэрыяльных і маральных. ...Праваслаўнай царкве запаведнікам перададзена: 1) цалкам адрэстаўраваная цёплая Еўфрасіннеўская царква; 2) часткова адрэстаўраваная Крыжаўзвіжанская царква; 3) цалкам адрэстаўраваны Багаяўленскі сабор, у якім знаходзілася вядомая далёка за межамі рэспублікі карцінная галерэя. Новага памяшкання пад галерэю выдзелена не было, яна фактычна была выкінута на вуліцу, а моцны мастацка-культурны асяродак такім чынам разбураны, чым упершыню быў адкрыта парушаны Закон аб культуры...

Вось ужо больш за два гады на Сафію і Брацкую школу Праваслаўная царква вядзе масіраваны наступ, патрабуючы перадачы абодвух помнікаў ужо сёлета, да 1000-годдзя Полацкай епархіі, прычым абвяшчаючы гэтае свята вузкаправаслаўным, адмаўляючы яго агульнахрысціянскі характар (як вядома, падзел цэркваў на праваслаўную і каталіцкую адбыўся толькі ў 1054 г.)...

Праваслаўная царква не павінна ўмацоўваць свае пазіцыі за кошт інтарэсаў, па-першае, вернікаў іншых канфесій (ні каталікі, ні уніяты не маюць у Полацку храмаў пад набажэнствы); па-другое, культуры грамадзян горада і ўсёй Беларусі, якія зацікаўлены ў яе (культуры) развіцці і не належаць ні да адной з канфесій. А ўлады рэспублікі ў роўнай ступені павінны абараняць правы ўсіх жыхароў Беларусі, а не толькі праваслаўных...

Нягледзячы на тое, што запаведнік не раз прапаноўваў епархіі гатовую дакументацыю на рэстаўрацыю і аднаўленне на старых падмурках праваслаўных культавых пабудоў, царква не хоча выконваць у горадзе стваральныя функцыі. Ды й няма ўпэўненасці, што ў належным стане будуць захаваны перададзеныя ёй помнікі (дастаткова параўнаць, якім быў і якім стаў Багаяўленскі сабор)...

Калі ўрад Рэспублікі Беларусь не зацікаўлены ў зберажэнні спадчыны і развіцці Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, то хай ён падпіша загад аб яго зліквідаванні і адкрыта скажа пра гэта людзям. У адваротным выпадку супрацоўнікі запаведніка і грамадскасць горада прадпрымуць крайнія меры, каб захаваць музей горада. Мы за свае крэслы не трымаемся, знойдзем сабе працу па спецыяльнасці, але цікава, хто тады будзе выконваць пастанову Саўміна ад 10.10.1989 г. «Аб пераўтварэнні Полацка ў культурна-турыстычны цэнтр»? І як жа быць з пастановай СМ БССР № 158 ад 16.07.1990 г. «Аб Полацкім гісторыка-культурным запаведніку»?

Звяртаемся да Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі з патрабаваннямі: 1. Выказаць нарэшце прынцыповую дзяржаўную пазіцыю адносна ўзнятых праблем: чаму становішча Рускай Праваслаўнай Царквы (падкрэсліваем, царквы, а не вернікаў) узмацняецца ў суверэннай Беларусі шляхам разбурэння нацыянальнай культуры? 2. Захаваць Сафійскі сабор як агульнанацыянальную святыню і культурны цэнтр, пакуль сучаснікі не гатовыя зрабіць яго экуменічным храмам. 3. Перш чым руйнаваць — стварыць адпаведную базу для размяшчэння ўсіх цяперашніх і будучых структур Полацкага запаведніка (акрамя існуючых, зацверджаны гарвыканкомам план музеяфікацыі горада прадугледжвае стварэнне яшчэ 10 музеяў). 4. Афіцыйна абвясціць 1000-годдзе Полацкай епархіі агульнахрысціянскім, а не вузкаправаслаўным святам... Пры перадачы сёння культавых пабудоў трэба быць упэўненымі, што яны патрапяць у рукі сапраўдных гаспадароў, якія зберагуць і прымножаць здабыткі нашай гістарычнай спадчыны. У асобе праваслаўнай царквы такога гаспадара пакуль што не бачна. Калектыў Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка».

ПАСЛЯ такога пісьма, гнятлівае ўражанне ад якога ўзмацнілася яшчэ і нядаўняй лімаўскай публікацыяй А. Сідарэвіча з яго абгрунтавана-бязлітаснымі развагамі пра пазіцыю РПЦ на беларускіх землях, карціць памеркаваць і мне, грэшнай.



Фестывальны каравай — ансамблю «Кантабіле» (урачыстае адкрыццё свята).




Вакальны дуэт Карына ды Рузана ЛІСІЦЫЯН.

Пяты год прыязджаю ў Полацк на фестываль. Штораз, нягледзячы на свежасць, абноўленасць эмоцый, паўтараю са старонак «ЛіМа» ўдзячнасць гаспадарам Сафійскага сабора, які праз высокую культуру правядзення канцэртаў зрабіўся сусветна вядомай залай арганнай і камернай музыкі, цэнтрам духоўнага жыцця — у самым шырокім сэнсе. Тут — з надзеяй на духоўнае выратаванне, абнаўленне, росквіт — б'юцца ў суладдзі сэрцы соцень палачан ды іхніх гасцей. Падчас фестывалю Сафія ператвараецца ў сапраўдны ідэальны Храм, дзе наяве яднаюцца хрысціяне ўсіх канфесій, іудзеі, мусульмане дый тыя, хто не спазнаў дарогу да Бога. Бабуля-баптыстка, поп, яўрэйская сям'я — яны могуць слухаць музыку **побач, разам** і кожны **індывідуальна**, суадносячы яе з **уласным** духоўным светам. Перадайце гэты храм якойсьці адной канфесіі — і такога ўжо не будзе: чужаніцай зазірне ў царкву яўрэйская дзяўчынка, не пераступіць яе парог нашчадак мусульманскіх традыцый, і нават хрысціянін, змяшаўшыся з натоўпам адзінаверцаў, тужліва ўздыхне: як усё ж было хораша, усцешна, калі ладзіліся тут канцэрты.

Усяго — не толькі музыкі — наслухалася я за некалькі камандзіровачных дзён. Расказвалі, што мясцовыя царкоўныя дзеячы ходзяць у сабор ці не з рулеткай, мераюць-падлічваюць, мяркуюць, як бы закрыць «дзірку» (датычыць размешчанай пад падлогаю археалагічнай экспазіцыі), куды б прыбраць «касцельныя» лавы і нават... як бы з выгадай прадаць арган (!). Прадказвалі, што й пасля аднаго-адзінага набажэнства ў Сафіі давялося б паднаўляць інтэр'ер, бо людзі з «псіхалогіяй чаргі» і адпаведнай побытавай культурай памкнуцца сюды «паглядзець» і абавязкова што-небудзь зашмальцуюць, абдзяруць, адаб'юць... Казалі, што ў сваіх памкненнях «адваяваць» Сафійку мясцовыя клерыкалы кіруюцца воляю цэнтра, ну а цэнтр РПЦ, вядома,— за межамі суверэннай Беларусі...

Лозунг: «Вярнуць храмы царкве!» у гэтым выпадку, мне здаецца, страчвае сваю абсалютную слушнасць. Ведаючы гісторыю пабудовы, руйнаванняў і аднаўленняў Полацкай Сафіі, немагчыма адназначна адказаць: **чый** храм, **якой** царкве і чаму — **вярнуць!** Задумацца, дык і праўда не разабрацца, якая дзяржава ў якой царквы які храм адабрала і калі тое было.

І ўспала мне на думку парадаксальная выснова: **не адбірала** суверэнная Рэспубліка Беларусь у сучаснай РПЦ на чале з Патрыярхам Аляксіем ІІ Сафійскі сабор, адрэстаўраваны на аснове уніяцкага храма дзякуючы клопату БССР і намаганнямі свецкіх, дзяржаўных людзей, дзеячаў мастацтва ператвораны ў асяродак духоўнай культуры, у храм Музыкі. **Не адбірала!** Значыць, няма чаго й вяртаць. Дык ці не прэтэндуе РПЦ — даруй, Божа! — у нейкім сэнсе на чужое: хто не меў, той не страціў, а спроба вярнуць, чаго не губляў, нагадвае меркантыльнае жаданне проста займець, забраць сабе...



Літургія ў Крыжаўзвіжанскай царкве Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

# Музыка надзеі

І ЎСЁ-ТАКІ не верыцца, што царква хоча вырашыць свае матэрыяльныя праблемы за кошт духоўных інтарэсаў свецкага грамадства. Гэта супярэчыла б хрысціянскай ідэі. Залячыўшы (без дапамогі царквы) апошнія раны, Сафійка паўстала як храм Музыкі, ад якога Бог, па ўсім відаць, не адвярнуўся. Тут моцнае поле духоўнага прыцягнення, хараства, любові, чалавечнасці. У чысціні множыцца добрае. Дык няўжо ўзрадаваліся б душы людцаў праваслаўных, калі б увайшлі яны ў храм, у якім ніколі дасюль не маліліся, пагнаўшы адгэтуль братоў сваіх, чыімі намаганнямі таксама святая справа па ўратаванні душ чалавечых робіцца?

Ды што б там ні было, а Сафійка зноў прыняла фестываль. Яго арганізатары, і найперш ініцыятыўная гаспадыня, дырэктар запаведніка Т. Рудава, пацвердзілі свой высокі прафесіяналізм. Зроблена было, здаецца, немагчымае, каб выдаткі сёлетніх праблем засталіся за кулісамі свята. Праграму падабралі, дзякуючы клопату Т. Рудавай, як заўсёды на самы пераборлівы густ і ў адпаведнасці з жанравымі традыцыямі фестывалю: камерная музыка, старадаўняя і сучасная. Гасцям — максімум увагі, шчырасці.

**Зала, як і раней, уражвала аншлагамі. «Падаражэлі білеты?» — папытала я ў касіра. — «А як жа! Сем рублёў цяпер... Але ўявіце, — з крыўдаю дадала яна, — на канцэрты Кулікова 20 рублёў білет! Ну хіба ж можна яго параўнаць з тым, што адбываецца ў нас!»**

**На жаль, гэта і заканамерна для краіны, дзе фізічная праца цэніцца (і шануецца) у шматкроць вышэй за разумовую, дзе прывезеная з-за мяжы ануча каштуе непараўнальна болей за інтэлектуальную ўласнасць самабытнага педагога, таленавітага інжынера, нашага брата-журналіста. Кулікоў?.. Стадыённы кумір самаакупны, як тавар на прылаўку камерцыйнай крамы. А культура таму і культура, што яе ашчаджаюць, даглядаюць, песцяць. Кіньце культурную кветку на волю лёсу — калі не загіне, дык здзічэе, перародзіцца. Вось і для музыкі, каб не здзічэла на рынку, «сама сябе карміўшы», патрэбен заможны садоўнік. У Полацку такія садоўнікі, здаецца, ужо з'яўляюцца. Упершыню аргкамітэт фестывалю ўзначаліў намеснік старшыні гарвыканкома А. Камароў. Упершыню спонсарскую падтрымку (раней фестываль трымаўся на сродках «Союзконцерта») аказалі мясцовыя прадпрыемствы: камбінат будматэрыялаў, фабрыка мастацкіх вырабаў, камбінат хлебапрадуктаў і інш. Любы канцэрт мог пераканаць любога спонсара, асабліва калі ён горнецца да мастацтва, што грошы ўкладзены ў святую справу.**

У сёлетняй праграме даволі разнастайна было прадстаўлена выканаўчае мастацтва беларускіх музыкантаў. Распачаў фестываль знаны ансамбль «Кантабіле». Вельмі арганічна прагучалі ў гэтых сценах адроджаныя творы з нашага музычнага мінулага — «Полацкі сшытак» ды п'есы М. Радзівіла і М. К. Агінскага. У сувязі з хваробай саліста В. Скарабагатава, які разам з «Кантабіле» меўся адкрываць фестываль, выканаўцы перагледзелі рэпертуар і прапанавалі цікавую падборку вернутых з забыцця заходнееўрапейскіх твораў. Лебег, Штольцэль, Арн, даль Абака... (Незнаёмыя прозвішчы? Дзіва што: іх не ведае і большасць нашых спецыялістаў па замежнай музыцы). Тонкая нюансіроўка і штрыхавая культура выканаўцаў падкрэслілі абаяльнасць старадаўніх п'ес.

Музыку, выкрасленую з нашага духоўнага ўжытку, вяртаюць слухачам і энтузіясты мужчынскага хору «Унія», якім кіруе К. Нахаеў. Малады калектыў упершыню ўдзельнічаў у фестывалі; упершыню дзякуючы «Уніі» пачулі многія слухачы беларускую рэлігійную музыку, у тым ліку харавыя творы М. Куліковіча, Л. Равенскага; упершыню запісала пяянне «Уніі», прычым у спрыяльных акустычных умовах, Беларускае радыё.

Яшчэ адзін удзельнік з Мінска — «Класік-Авангард» пад кіраўніцтвам У. Байдава, ансамбль салістаў, без якога ў нас апошнім часам не абыходзіцца ніводны фестываль. Фантастычная працаздольнасць, рэпертуарная ненасытнасць гэтых музыкантаў даюць адпаведны плён: яны па-майстэрску іграюць усё, што адпавядае іх інструментальнаму складу, захапляючыся доўгімі, насычанымі эмоцыямі і складаным вобразным зместам праграмамі. Так, дарэчы, было і на «Мінскай вясне», дзе «Класік-Авангард» разам са сваёй чароўнай салісткай з Літвы Ю. Лейтайтэ адыграў вялікі канцэрт (малавядомыя творы Браўна, Анегера, Стравінскага, Віла-Лобаса, сярод іншага і незабыўнае трыо А. Копленда «Віцебск», якое ўпершыню прагучала летась на фестывалі памяці І. Салярцінскага, у выкананні фінскіх гасцей), а яшчэ прадставіў шэраг опусаў маладых кампазітараў.

Тое ж і ў Полацку: ансамбль цалкам апраўдаў сваё двайное імя, выканаўшы багата самай рознай музыкі, ад Глінкі да Дзешавова. Гэтае выступленне было апафеозам фестывалю. А цэнтральная кульмінацыя свята прыпала на канцэрт нязменнага (і незаменнага!) яго ўдзельніка — В. Палянскага.

Сёлета маэстра прыехаў у Полацк у новай якасці — мастацкага кіраўніка нядаўна ўтворанай Дзяржаўнай сімфанічнай капэлы Расіі. Яшчэ летась пагаворвалі, што Г. Раждзественскі збіраецца адсвяткаваць сваё 60-годдзе і пакінуць аркестр, прытым не проста пакінуць, а перадаць яго сваім таленавітаму вучню В. Палянскаму, які, дарэчы, на леташнім фестывалі ўжо стаяў за пультам знакамітага калектыву. Так і сталася. Праўда, хор Міністэрства культуры СССР (хор Палянскага) і аркестр з аналагічным статусам пад кіраўніцтвам Раждзественскага аб'ядналіся ў адзін арганізм — Дзяржаўную сімфанічную капэлу. Канцэрт яе ў Полацку быў варты і добрых, і прыгожых слоў.

Зрэшты, словам хіба перадасі паўнату ўражанняў? Як заўсёды, В. Палянскі паказаў уменне падабраць праграму: складаная, але не перагружаная, выклікае адчуванне эмацыянальнай напоўненасці, захаплення, душэўнага ўзлёту.

Матэты А. Брукнера, гэтае харавое дзіва, дзе пранікнёнасць акапэльнага гучання зрэдчас падтрымана высокім казаннем аргана (Л. Голуб)... Перад кожным нумарам вядучая канцэрта чытала пераклад малітоўных тэкстаў, і гэта, нібы ў кнізе эпіграфы, адыгрывала для нашага ўспрымання ролю камертона, дапамагаючы засяродзіцца на праграмным змесце і глыбей зразумець вобразы матэтаў. «Гэтае месца на зямлі створана Богам, у ім няма хібаў, гэта невытлумачальны сакрэт яго...» Неверагодна! Першы ж з твораў нібыта адрасаваўся той выспе духоўнасці, на якой знаходзіцца Полацкая Сафія. І ўжо з асаблівым даверам прымала сэрца таямніцу ўзвышаных спеваў хору.

Выкананне «Рэквіема» А. Шнітке з музыкі да драмы Ф. Шылера «Дон Карлас» было своеасаблівым акустычным эксперыментам. На камернай сцэне ледзь размясціліся хор ды інструментальная група: раяль, чэлеста, ансамбль ударных (у партытуры скарыстаны званы, тамбурын, гонг, вібрафон, флексатон...), трубач, трамбаніст, двое гітарыстаў. У кульмінацыйных момантах усе такія розныя па сваёй прыродзе гукі — мяккі вакал салістаў хору, вібрацыя напятых струн электрагітары, атака медзі, суровыя фартэпіянныя акорды, уладарная меладэкламацыя аргана, рытмічныя фразы ўдарных і г. д. — сыходзіліся. І хоць «акустычная цесната» (сканцэнтраванасць самога выканаўчага гурта на невялічкай пляцоўцы) замінала іх арганічнаму зліццю ў вольным палёце і ўтварэнню новага, нечуванага «музычнага субстрата», — узрушэнне было вялікае... Кананічная структура каталіцкай імшы з адпаведнымі тэкстамі, «ерэтычная» эмацыянальнасць, свежасць кампазітарскага «маўлення», кампактнасць формы і касмічнасць зместу — вось ён, «Рэквіем», сённяшні твор пра вечнае. І «пра сёння», вядома.

Арганіст і кампазітар А. Янчанка іграў музыку, якая таксама нібы лучыла мінулае і цяперашняе з вечным. Да прыкладу, прысвечанае германскаму арганабудаўніку Г. Маеру «Музычнае прынашэнне» для аргана, віяланчэлі, дзіцячага хору й трубы (тут асабліва ўразіла дуэтнае гранне А. Янчанкі з маладым віяланчэлістам А. Камінскім). Ці «Дом Цу Шпаер» — музыка для аргана і метранома. Ці на дзіва адпаведная сваёй назве «Медытацыя»... Мысленне кампазітара-сімфаніста, кампазітара-драматурга ў спалучэнні з рэдкасным веданнем аргана і дзівоснае абыходжанне з ім! Гэта ўжо не інструмент у руках майстра і створаная ім музыка, а ягоны язык і ягоная мова.

Гожы класічны струмень унеслі ў фестывальную плынь вакальныя вечары: два канцэрты Карыны ды Рузаны Лісіцыян і выступленне Т. Стэрлінг (партнёр спявачкі, вядомы арганіст А. Паршын выступіў і з сольнымі нумарамі).

АДНОЙЧЫ я паднялася па крутых цагляных прыступках на хоры, да аргана. Рэпеціраваў А. Янчанка. Магутныя сугуччы з жыццядайнаю сілай «ляпілі» музычны вобраз, быццам паўтараючы канфігурацыю высачэзных мураваных сцен ды капрызліва-мудрагелістых архітэктурных аздобаў. Позірк міжволі блукаў нібыта следам за гукам: па бялюткіх сценах, залацістых кудзерках ляпніны, па ўзнесеных высока фігурках анёлаў і загадкавым абрысе Спаса, па міготкіх крышталіках незапаленых люстраў і бязлюдных шэрагах светлых драўляных лавак... «Гаварыў» арган. Унізе, на ўтульным прасцэніуме стаялі прыцішаныя, зачахлёныя два раялі ды клавесін; цьмяна блішчэлі трубы аркестравых званоў. Музычныя інструменты — як жывыя істоты, неад'емныя ад быцця менавіта гэтага храма. Безабаронныя перад пагрозай змены яго гаспадароў, перад пагрозай здзеку, беспрытульнасці, а то і фізічнага знішчэння.

Ці не такая доля спасцігла Полацкую карцінную галерэю? Колькі разоў захапляліся людзі адмысловымі экспазіцыямі ў адрэстаўраваным Багаяўленскім саборы, дзе, дарэчы, таксама ладзіліся камерныя і харавыя канцэрты! А цяпер... Лепей бы не хадзіла я «ў адведкі» да былой галерэі, не бачыла вынікаў гаспадарання царквы ў сваім законным (праўда, узятым пад ахову і адрэстаўраваным дзяржавай) будынку. «З мясам» адарвана шыльда, што сведчыла пра знаходжанне тут выставачнай залы. На шэрых падкопчаных сценках інтэр'ера, які ці даўно ўражваў незвычайнай святлынню, матляюцца «жылы» паздыманых свяцільнікаў. Фанернай брамкай адгароджаны алтар. Ля ходу на лесвіцу, што вядзе на хоры, — далёка не храмавыя атрыбуты: газавая пліткa, нейкія мутнаватыя слоікі...

Няўжо не бянтэжыць духоўна паўнацэнных людзей, хрысціян, гэткая бесцырымонная «змена дэкарацый»: замест раяля — газоўка? Хто абароніць мастацтва ў храме, пакуль ён не «дарасце» да рэлігійнай святыні, здатнай прыняць музыку як арганічную частку Храма?

Разам са сваім мастацтвам пачуваюцца безабароннымі ў сённяшняй няпэўнай сітуацыі й самі музыканты. Дарэчы, як вядома, у асяроддзі музыкантаў, ды ўвогуле людзей творчых, не распаўсюджана атэістычная свядомасць. Таму да храмаў у іх асабліва трапяткое стаўленне. Таму асабліва шчыра і хваравіта перажываюць за лёс Сафіі менавіта яны, а не тыя актыўныя змагары, што і не маюць патрэбы наведвацца ў канцэртныя залы — ім бы толькі «куснуць» РПЦ...

**— Я прыхільніца таго, каб культавыя будынкі належалі царкве, — гаворыць заслужаная артыстка Расіі Таццяна Стэрлінг. — Але, улічваючы духоўны, маральны стан грамадства, з гэтым трэба пачакаць. Пакуль няма магчымасці будаваць сучасныя канцэртныя залы, не трэба спяшацца «вызваляць ад культуры» храмы.**

**— Стараюся захаваць сваю вернасць Полацку: я ж тут з першага фестывалю, — разважае мастацкі кіраўнік Дзяржаўнай сімфанічнай капэлы Расіі Валерый Палянскі. — Зараз вельмі цяжкі час, але планы вялікія, ёсць задумкі, якія хацелася б ажыццявіць, калі Сафійскі сабор захаваецца ў тым выглядзе, у якім ён цяпер. Я лічу, будзе вельмі вялікі грэх, калі раптам ён перастане існаваць як культурны цэнтр не толькі Полацка, але і Беларусі. Кажуць, няма вялікіх і малых гарадоў, ёсць вялікая і малая культура. Пра Полацк можна гаварыць як пра горад з вялікай культурай. Вартая ўсялякай падтрымкі ініцыятыва кіраўніцтва залы й гарадскіх улад па развіцці музычнага жыцця...**

**— Гэта адно з нямногіх месцаў у цяперашнім СНД, удзячных для арганіста, дзе спалучаецца добрая акустыка залы і добры інструмент, — мяркуе прафесар Алег Янчанка. — Я рады, што адкрываў гэты арган, што рабіў тут запіс сольных праграм на кампакт-дыск... У гэтай мясціны з аурай мастацтва — вялікая будучыня. Але высяляць музыку з храма?.. На Захадзе, напрыклад, кафедральнасць ці некафедральнасць сабора ніколі не замінала канцэртнаму жыццю ў ім, праявдзенню фестываляў. Я іграю за мяжой у дзеючых саборах і ведаю, якімі апалагетамі высокага мастацтва з'яўляюцца іх настаяцелі. І мне цяжка растлумачыць адваротнае, тое, што адбываецца ў былых савецкіх рэспубліках. У Калінінградзе прыхаджане перашкаджаюць слухаць канцэрт, наладжваючы ля сцен сабора дэманстрацыю! Рэлігія для мяне атаясамліваецца з тым узвышаным, чыстым, вакол чаго заўжды збіралася сапраўднае мастацтва, а не штосьці штучнае. Вакол храмаў збіралася ўсё лепшае, што ёсць у чалавеку. І раптам я чую, што ў Вінніцы прыхаджане разбілі, знявечылі арган: мяне абражаюць такія акцыі! І гэта называецца паства, якая хоча ўласны вандалізм пазначыць нейкай верай? Яны не маюць права звацца вернікамі, яны не маюць права на веру!**



З. а. Расіі Валерый ПАЛЯНСКІ.



Дырыжор хору «Унія» Кірыл НАХАЕЎ.

ПОЛАЦКІЯ знаёмцы суцешылі мяне на развітанне: маўляў, ужо не ўсё так змрочна, як падалося ў тым калектыўным пісьме. Маўляў, кіраўніцтва запаведніка мела перамовы з прадстаўнікамі ўрада, заручылася падтрымкай і абяцаннямі — на дзяржаўным узроўні, з дапамогаю заканадаўчых актаў, зрабіць так, каб Сафійскі храм не страціў сваю музычную ауру, захаваў статус канцэртнай залы, так патрэбнай для падтрымання духу горада, для адраджэння і развіцця традыцый высокай культуры.

Я вярталася ў Мінск з надзеямі: на мудрасць, цвярозасць мыслення і эстэтычную чуласць нашых дзяржаўных мужоў, на іх адказнасць перад народам і яго інтэлектуальнай элітай. Полацкі гісторыка-культурны запаведнік і сэрца яго, Сафійскі сабор, — агульнанацыянальная святыня і каштоўнасць Рэспублікі Беларусь, а не матэрыяльная ўласнасць РПЦ. Як жа можна не разумець гэтага?

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА і з архіва аўтара.

# УКРАДЗЕНАЕ НЕБА, ЗНЯВЕЧАНАЯ ЗЯМЛЯ...

(Пачатак на стар. 5).

Усё гэта будзе закладзена ў Законе аб дзяржаўным упраўленні аховы прыроднага асяроддзя, які будзе пастаўлены на разгляд парламента.

**М. З.—На маім вяку было столькі розных рэарганізацый, узбуйненняў і разузбуйненняў абласцей і раёнаў, міністэрстваў і калгасаў, розных партыйных і дзяржаўных органаў, што я слаба веру ў дзейнасць гэтага новага ўтварэння. Потым, ці не будзе яно надта груваcткім? Усё ж такі функцыі, скажам, Дзяржгідрамета адрозніваюцца ад функцый Міністэрства лясной гаспадаркі...**

Б. С.— Сферы гэтыя лёгка раздзяліць у складзе ўпраўлення пад адным агульным кіраўніцтвам.

**М. З.—І калі мы ўбачым новую арганізацыю ў дзеянні?**

Б. С.— Вы ж разумееце, што ва ўсіх нагаданых арганізацыях працуюць сотні людзей, частку якіх пры рэарганізацыі прыйдзецца скараціць. Гэта вельмі складаная праблема. Таму мы не рызыкнулі ўносіць закон на разгляд апошняй сесіі Вярхоўнага Савета. Мы спачатку павінны пераканаць усе ведамствы ў неабходнасці сканцэнтраваць намаганні ў справе аховы прыроды.

**М. З.—Хай вам Бог памагае! Сапраўды, сёння чыноўнікі здзекуюцца з прыроды як хочуць. На пратэсты грамадскасці, прэсы яны не звяртаюць увагі. Некалькі год назад мне давялося пісаць пра будаўніцтва гасцініцы ваеннага ведамства, якую «прышпілілі» да цудоўнага сасновага бору ў мікрараёне Зялёны Луг. Абышоў я тады нямала інстанцый, заручыўся падтрымкай Галоўнага архітэктурнапланіровачнага ўпраўлення пры Мінгарвыканкоме, некаторых вучоных, але марна—корпус гасцініцы ўзняўся. Мне тады сказалі дасведчаныя людзі, што тое вaеннае ведамства мае падтрымку ў Савеце Міністраў, і Мінгарвыканком не пасмеў пярэчыць высокаму начальству. Прайшло два ці тры гады, і побач з той гасцініцай узняўся яшчэ адзін гасцінічны корпус.**

**У адным з апошніх нумароў «ЛіМа» надрукаваны ліст кіраўнікоў Заслаўскага дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка, у якім яны пішуць пра рашэнне Мінгарвыканкома аб уключэнні прыгараднай зоны, у тым ліку Заслаўя і іншых гарадоў, у склад ствараемага мегаполіса «Вялікі Мінск». Аўтары пісьма, справядліва лічаць, што гэтая экспансія двухмільённага горада паставіць пад пагрозу само існаванне гістарычных помнікаў старажытнага Заслаўя, навакольнай прыроды.**

Б. С.— Мінскі гарвыканком ужо некалькі гадоў дамагаецца, каб яму перадалі ўсю прыгарадную зону. Так, горад павінен расці, але ж у гэтым павінна быць нейкая разумная мера. На жаль, захады мінскіх «градоначальников» знаходзілі падтрымку ва ўрадзе рэспублікі. Напрыклад, у 1991 годзе Мінску было адведзена зямель прыгараднай зоны больш, чым за пяць папярэдніх гадоў. На шчасце, гэтае ўрадавае рашэнне было адменена Вярхоўным Саветам, які пры гэтым зыходзіў з палажэнняў Зямельнага кодэкса Беларусі. Як член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, я буду выступаць супраць рашэння Мінгарвыканкома аб уключэнні Заслаўя і іншых гарадоў прыгараднай зоны ў склад Мінска.

**М. З.—Яшчэ аб чыноўным самаўпраўстве. Рэдакцыя валодае звесткамі аб тым, што ў раёне Масюкоўшчыны мае быць пабудаваны вялікі прамвузел. А гэта ж адзін з самых маляўнічых куткоў Мінска, адсюль рукой падаць да Ждановічаў, дзе размешчаны вядомыя на ўсю рэспубліку санаторыі і дамы адпачынку, акрамя таго, Масюкоўшчына—месца вадазбору пітной вады. Гэтыя звесткі маюць пад сабой грунт, Барыс Парфёнавіч?**

Б. С.— Як кажуць у такіх выпадках, «но каментар»... Дарэчы, экалагічнай камісіі Вярхоўнага Савета ўдалося дамагчыся згортвання здабывання пясчанагравійнай сумесі ў кар'еры ля Астрашыцкага Гарадка. Распрацоўка гэтага кар'ера вялася з парушэннем экалагічных нормаў і выклікала справядлівыя нараканні мясцовых жыхароў.

У паслячарнобыльскі перыяд Беларусь стала зонай экалагічнага бедства, абумоўленага тым, што радыяцыйнае забруджванне наклалася ў многіх месцах на забруджванне хімічнае. Летась у гарадах рэспублікі было зарэгістравана каля ста выпадкаў высокага ўзроўню забруджвання паветра таксічнымі рэчывамі, канцэнтрацыя якіх у пяць і больш разоў перавышала ГДК. Асноўнымі крыніцамі забруджвання атмасфернага паветра ў гарадах рэспублікі з'яўляюцца прадпрыемствы цеплаэнергетыкі, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці. У 1991 годзе па рэспубліцы было выкінута ў паветра стацыянарнымі крыніцамі 4 мільёны 939 тысяч тон атрутных рэчываў, у тым ліку без ачысткі — 1 мільён 19 тысяч тон. Па гарадах гэтая карціна выглядае так: летась у Мінску ў атмасфернае паветра было выкінута 274,5 тысячы тон таксічных газаў, Наваполацку — 248,3 тысячы тон, Гомелі — 141,6 тысячы, Магілёве — 139,9 тысячы тон.

**М. З.—Па адным пісьме ў рэдакцыю я выязджаў у Наваполацк, пабыў там на прадпрыемствах «вялікай хіміі». Калі праектавалі Наваполацкі прамвузел, не ўлічылі «ружы вятроў»—дым і адпрацаваныя газы вецер нясе на горад. Дыхаць тут цяжка. Пару гадоў назад у Мінск прыязджаў былы міністр аховы здароўя СССР акадэмік Чазаў, які ў час адной з сустрэч прывёў жахлівыя дадзеныя па росце анкалагічных захворванняў у тым жа Наваполацку. Яны, па яго словах, за апошнія гады павялічыліся ў пяць разоў. Помню сваю гаворку з галоўным урачом Наваполацкай гарадской бальніцы. «Як толькі вецер пачынае дзьмуць з боку завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў,—расказаў ён,—выклікі машын «хуткай дапамогі» павялічваюцца ўдвая».**

**Там я каторы раз упэўніўся, як цяжка змагацца з сістэмай. Па-першае, мясцовыя хімічныя прадпрыемствы належалі адразу тром саюзным міністэрствам, якім, вядома, не балела галава аб жыхарах Наваполацка. Айцы ж горада не маглі пярэчыць ім. Старшыня Наваполацкага гарвыканкома, не таячыся, гаварыў мне: «На канфлікт з прадпрыемствамі не пойдзеш, яны нам пабудавалі горад».**

**Прамысловасць рэспублікі, якой мы столькі гадоў спявалі гімны, украла ў нас неба,ператварыла рэкі ў сцёкавыя канавы...**

Б. С.—Я не даваў бы такіх катэгарычных характарыстык, але тое, што многія рэкі і вадаёмы ў нас забруджаны прамысловымі сцёкамі, — праўда. У Брэсце, напрыклад, выкід сцёкавых вод у раку Мухавец у выніку разбурэння ў мінулым годзе каналізацыйнага воданапорнага калектара на гарадскіх ачышчальных збудаваннях прывёў тут да масавай гібелі рыбы. Каля Наваполацка было зафіксавана 50 выпадкаў (гэта ўсё летась) выкідаў у рэкі Заходняя Дзвіна і Ушача азоту нітратнага, злучэнняў марганца, нафтапрадуктаў. Надзвычай забруджаны Свіслач у Мінску, Днепр у Магілёве, Уза ля Гомеля, Прыпяць каля Пінска, Заходняя Дзвіна ў Віцебску.

**М. З.—Некалькі гадоў назад у пасёлку Гатава пад Мінскам італьянцамі быў пабудаваны скураны завод, які пасля здачы ў эксплуатацыю атручвае ўсё наваколле. Я чуў такую версію—купляючы завод у італьянскай фірмы, наша міністэрства, каб сэканоміць валюту, вырашыла адмовіцца ад ачышчальных збудаванняў, якія прапанавалі пабудаваць італьянцы.**

Б. С.— Усё было крыху інакш. Італьянская фірма, якая пабудавала завод у Гатаве, ачышчальнымі збудаваннямі наогул не займаецца і прапанаваць іх нам не магла. Таму было вырашана наладзіць ачыстку сцёкавых вод па ўласнай тэхналогіі.

**М. З.—Калі тое будзе. А завод, значыць, пусцілі ў эксплуатацыю без ачышчальных збудаванняў?**

Б. С.— А ў нас так робіцца паўсюдна. Многія гады існавала такая канцэпцыя — прадпрыемства можна выкарыстоўваць без ачысткі сцёкавых вод, калі вынесці яго за горад. Так былі пабудаваны ў свой час Мінскі радыятарны завод, хімзавод у Гомелі, многія прадпрыемствы ў Віцебску, Магілёве, Оршы, Барысаве і г. д. Ішоў час, гарады пашыралі свае межы і заводы-«атручвальнікі» апынуліся ў цэнтры жылых масіваў. Цяпер нашымі планавымі і іншымі органамі авалодала абсурдная ідэя — такія прадпрыемствы вынесці зноў за межы гарадоў. Так, плануецца перавесці пад Чэрвень з Мінска завод ацяпляльнага абсталявання (радыятарны завод).

**М. З.—Згодна з законам, кожны будаўнічы праект павінен праходзіць экалагічную экспертызу...**

Б. С.— Вось тут і закапаны сабака. Справа ў тым, што павінен праходзіць такую экспертызу ўжо гатовы праект. Адчуваеце нюанс? Гатовы праект, бывае, каштуе мільёны рублёў і не ў кожнага эксперта хапае мужнасці падпісаць яму смяротны прысуд. Тым больш, у атмасферы псіхалагічнага ціску, выклікаў на «дыван», выкручвання рук, абвінавачванняў у тым, што табе, маўляў, абыякавыя інтарэсы дзяржавы і да т. п. Тут жа даюцца абяцанні тэрмінова выправіць у праекце недаробкі і... дакумент падпісваецца...

**М. З.—Дзе ж выйсце?**

Б. С.— Згодна з новым правілам, зараз будзе ажыццяўляцца спачатку перадпраектная экалагічная экспертыза, а затым ужо праекта ў цэлым.

**М. З.—Я чытаў, што палову таксічных газаў, якімі забруджана наша атмасфернае паветра, «дае» аўтатранспарт. У Мінску, напрыклад, такія выкіды складаюць 125 тысяч тон у год. Некалькі разоў разам з супрацоўнікамі рэспубліканскай службы аховы атмасфернага паветра я ўдзельнічаў у рэйдах праверкі аўтатранспарту на прадмет выкідаў імі адпрацаваных атрутных рэчываў, таго ж СО. Як мы высветлілі, у паловы правераных машын не былі адрэгуляваны карбюратары і іншыя вузлы матора і выкіды шкодных рэчываў у час язды перавышалі нарматывы ў паўтара-два разы. Таго-сяго штрафавалі, але станоўчых зрухаў гэта не прыносіла.**

Б. С.— Вы калі-небудзь цікавіліся «ўзростам» нашага аўтатранспарту? Дык вось, вялікая колькасць машын, што бегаюць па нашых дарогах і вуліцах, сышла з заводскага канвеера дзесяць, пятнаццаць, дваццаць гадоў назад. І ніякая рэгуліроўка матора тут не дапаможа. Яны будуць атручваць паветра, пакуль не спыніцца іх эксплуатацыя. Вы толькі зірніце на гэтыя «зілы», «газы» — яны састарэлі не толькі фізічна, а і маральна, тым не менш шырока выкарыстоўваюцца ў народнай гаспадарцы. Узровень нашай аўтамабільнай прамысловасці магу праілюстраваць на такім прыкладзе. Зараз у выніку канверсіі немалая колькасць аўтатэхнікі паступае з арміі, у тым ліку і армейскія грузавыя машыны «Урал» грузападымальнасцю 4 тоны. Ведаеце, колькі паліва ён расходуе на 100 кіламетраў? 50 кілаграмаў! Чэшскі ж грузавік грузападымальнасцю 3 тоны — усяго 9 літраў саляркі.

Мы, бывае, з захапленнем глядзім на шыкоўныя з выгляду легкавічкі розных інамарак, якіх расплодзілася ў Мінску. Але не падазраём, што гэтыя машыны, вабячы прыгожай абалонкай, таксама даўно маральна састарэлі і куплены за мяжой па дзяшоўцы. Да таго ж, іх выгадна перавозіць праз мяжу—чым больш старая машына, тым меншы падатак бярэ з яе мытня. Вось і сноўдаюць па нашых вуліцах «Мерседэсы» і «Форды», «Сітраены» і «БМВ» старых марак, атручваючы паветра.

Важная задача, над якой мы б'ёмся,— перавод аўтатранспарту на неэтыліраваныя гатункі паліва, якім карыстаюцца ва ўсім цывілізаваным свеце. Дарэчы, пастанова аб павелічэнні вытворчасці неэтыліраванага бензіну была прынята яшчэ «старым» Вярхоўным Саветам. Як эксперт-эколаг, я тады прымаў удзел у падрыхтоўцы гэтай пастановы. Справа гэтая і дасюль ідзе туга, таму што нафтаперапрацоўчым заводам выраблянь этыліраванае паліва выгадней — на выраб яго патрабуецца меней часу, а прадажная цана не намнога меншая, чым неэтыліраванага. А, дарэчы, тэхналогія вырабу неэтыліраванага бензіну ў рэспубліцы адпрацавана. Напрыклад, Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод адпраўляе на экспарт бензін толькі такога гатунку.

Ну і патрэбны, вядома, дзейсны экалагічны кантроль за працай аўтатранспарту. Парушальнікаў трэба караць, як караюць вінаватых у дарожна-транспартных здарэннях — пазбаўленнем вадзіцельскіх правоў, звальненнем з працы і г. д.

**М. З.—На ўсіх прамысловых прадпрыемствах (ва ўсякім разе—буйных) існуюць аддзелы аховы прыроды. Як яны там працуюць, але яны ёсць. Няма такой службы толькі ў нашых калгасах і саўгасах. Відаць, лічыцца, што той, хто працуе «на зямлі», ужо гэтым самым клапоціцца аб зберажэнні прыроды. Але ж не сакрэт, што наша сацыялістычная сельская гаспадарка наносіць шкоды прыроднаму асяроддзю не менш, чым тая ж прамысловасць з яе электролізнымі, ліцейнымі цэхамі. Толькі ў Прыпяць штогод трапляе да 800 тон мінеральных угнаенняў, якія змываюцца сюды з палёў дажджамі і грунтовымі водамі.**

Б. С.— Змагацца з забруджваннем вадаёмаў мінеральнымі ўгнаеннямі амаль немагчыма. Каб атрымаць высокі ўраджай, а па ўраджаях мы не саступаем многім развітым краінам Еўропы, трэба ўносіць у глебу і азотныя, і фосфарныя, і калійныя ўгнаенні. Яны растваpаюцца ў вадзе і, натуральна, дажджамі змываюцца ў вадаёмы.

**М. З.—Існуюць інструкцыі, якія забараняюць весці земляробчыя работы ў непасрэднай блізкасці да вадаёмаў. У нас жа, бывае, разворваюць глебу да самай кромкі вады. А хто з нас, праязджаючы палямі, не бачыў гурбаў мінеральных угнаенняў, якія ляжаць тут не адзін месяц...**

Б. С.— Цяпер, калі цана на мінеральныя ўгнаенні падскочыла ў некалькі разоў, наўрад ці будуць яны ляжаць. Высокія цэны прымусяць кіраўнікоў гаспадарак ашчадна ставіцца да кожнага цэнтнера ўгнаенняў. І потым, існуюць нарматыўныя акты, якія прадугледжваюць строгую адказнасць за дрэннае захаванне мінеральных угнаенняў і асабліва пестыцыдаў.

**М. З.—Мы з вамі, Барыс Парфёнавіч, фігуральна кажучы, выйшлі з горада на свежае паветра, агледзелі «бяскрайнія калгасныя палеткі», а цяпер давайце паглыбімся ў нашу славутую Белавежскую пушчу. Інтарэс гэты ў мяне невыпадковы. У адным з апошніх нумароў «ЛіМа» быў надрукаваны артыкул супрацоўніка часопіса «Родная прырода» пісьменніка Алеся Дзятлава, у якім ён аспрэчвае рашэнне «кампетэнтных» органаў рэспублікі пераутварыць Белавежскі запаведнік у нацыянальны парк, мяркуючы, што гэта нанясе непапраўную шкоду унікальнаму кутку беларускай прыроды.**

Б. С.— Па-першае, Белавежская пушча мела годнасць запаведніка толькі з 1939 па 1941 год і з 1945 па 1953 гады. Да гэтага яна была «царскім паляваннем» аж з XIV стагоддзя. Такія месцы — рэзідэнцыі высокапастаўленых асоб ёсць ва ўсім свеце. Цяпер, калі Беларусь стала суверэннай дзяржавай, пушча стала яе ўласнасцю. Доўга дыскутавалася пытанне, якую годнасць ёй прыдаць—запаведнапаляўнічай гаспадаркі, як раней, ці нацыянальнага парку. На маю думку, і тое, і другое нам не падыходзіць. Чаму нельга зрабіць з пушчы запаведніка? Таму што ў выніку шматгадовай дзейнасці чалавека там адбыліся незваротныя змены — і флора і фаўна без чалавека тут існаваць сёння не змогуць. Праўда, палякі частку сваёй пушчы зрабілі запаведнікам, адгарадзіўшы калючым дротам 4,5 тысячы гектараў. Туды страшна ўвайсці. Дрэвы ж жывуць, падаюць, паміраюць. Ніхто іх тут не ўбірае. Змрочная карціна, якая нагадала мне дэкарацыі да балета «Князь-возера». Вядома, для навуковых доследаў гэты кавалак пушчы прыдатны. Там, дарэчы, часам працуюць і нашы вучоныя. Але, паўтараю, гэта толькі невялікі кавалак пушчы.Ператварыць усю яе ў такі стан — нельга.

**М. З.—Аўтар артыкула абураецца тым, што ў Белавежскую пушчу пачалі запрашаць паляўнічых з-за мяжы, прадаючы ім за валюту ліцэнзіі на паляванне...**

Б. С.— А што тут благога? Лепш прадаваць ліцэнзіі за «драўляныя» розным начальнікам з Мінска і вобласці? Справа ў тым, што дзічыны ў пушчы развялося ў 3—4 разы больш, чым яна можа пракарміць. Звяры тут прывыклі карміцца ледзь не з рук чалавека. Гэта ўжо не звяры, калі яны не адбягаюць ад кармушак, нават калі па іх страляюць.

Вось чаму паўстала задача скараціць пагалоўе пушчанскіх насельнікаў да нормы.

**М. З.—А ці не здарыцца так, што нацыянальны парк «Белавежская пушча» стане, як у нас любілі пісаць, «любімым месцам адпачынку працоўных»? Ці не пралягуць па ім «турысцкія сцежкі»?**

Б. С.— Не. Аўтатранспарту туды ўезд забаронены даўно. А экскурсіі пройдуць па намечаным невялікім маршруце — дэндрарый, вальеры, рэстаран — вось асноўныя аб'екты для азнаямлення.

**М. З.—Дзякуй, Барыс Парфёнавіч, за гутарку.**

Б. С.— І вам таксама дзякуй.

КУЛЬТУРА

## Уручэнне ўзнагарод



У час уручэння ўзнагарод.

Ганаровыя граматы, граматы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і пасведчанні аб прысваенні званняў уручыў вядомым пісьменнікам, дзеячам мастацтва і навукі, рабочым Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч.



Станіслаў Шушкевіч уручае пасведчанне аб прысваенні звання «Народны паэт Беларусі» Нілу Гілевічу.

Фота А. НІКАЛАЕВА (БЕЛТА).

МУЗЫКА

## ...І аднаўленне хатняга грання

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя па стварэнні Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў ды мандалiністаў пры Саюзе музычных дзеячаў рэспублікі. Асноўнымі мэтамі яе дзейнасці абвешчаны абарона традыцый шматвяковага бытавання домрава-мандалiннага выканальніцтва на землях Беларусі; арганізацыя конкурсаў, фестываляў, канферэнцый, курсаў, творчых сустрэч членаў асацыяцыі са слухачамі; наладжванне й пашырэнне культурных сувязяў з музычнымі ўстановамі ды творчымі калектывамі іншых краін; адраджэнне традыцый хатняга грання, развіццё музычнай самадзейнасці. Старшынёй асацыяцыі абрана заслужаная артыстка Беларусі Галіна Асмалоўская.

Н. ВІТЧАНКА.

## Саюзу — год

29 мая — роўна год, як створаны Саюз музычных дзеячаў Беларусі. Сёння ён налічвае ўжо 355 членаў. У Гомельскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай абласцях ды ў горадзе Мінску створаны і працуюць аддзяленні СМД. Распачаўшы выкананне адной са сваіх статутных задач, саюз стварыў фонд сацыяльнай дапамогі членам СМД Беларусі, у які будуць залічвацца членскія ўзносы, а таксама дабрачынныя ўзносы староннiх арганізацый і прыватных асоб на падтрымку членаў саюза ды частка адлічэнняў ад даходаў падведамасных прадпрыемстваў.

Н. В.

## Цітовіч — у Новым Пагосце



Ачуньваючы ад нацыянальнага сну, мы па-новаму, больш шырокімі і ўважлівымі вачыма пачынаем глядзець не толькі на сваю даўнюю мінуўшчыну, але адначасова больш уважліва ставімся і да падзей, што адбываліся параўнальна нядаўна. У гэтай пераацэнцы «здымаем» з п'едэсталаў «дутых» куміраў і яшчэ з большай пашанай ставімся да тых, хто і ў застойныя часы жыў сумленна і годна, не толькі сам памятаў, што ён беларус, а і рабіў усё дзеля таго, каб і іншыя не забываліся — на гэтай зямлі яны не тутэйшыя, а беларусы.

Адзін з такіх дзеячаў-адраджэнцаў — Генадзь Цітовіч. Генадзь Іванавіч... Дзядзька Цітовіч... Народны не толькі згодна афіцыйна прысвоенаму званню. Ён карыстаўся надзвычайнай папулярнасцю, наш вядомы этнограф, музыказнаўца, дзеяч харавога мастацтва, дырыжор, стваральнік і шматгадовы кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору Рэспублікі Беларусь, які цяпер з гонарам і па праву носіць яго імя.

Балазе, нямала робіцца, каб увекавечыць памяць аб гэтым выдатным нацыянальным дзеячы. Яшчэ пазалетась Музычнае таварыства Беларусі выпусціла кнігу ўспамінаў пра Генадзя Іванавіча, у друку з'явіліся шматлікія публікацыі пра яго, былі падрыхтаваны радыё- і тэлеперадачы.

А цяпер вось намаганнямі настаўнікаў і вучняў сярэдняй школы вёскі Новы Пагост Міёрскага раёна, пры падтрымцы мясцовых улад і дзякуючы рупнасці навуковага супрацоўніка Літаратурнага музея Янкі Купалы Святланы Майхровіч у адным з пакояў школы створаны музей Генадзя Цітовіча. Днямі адбылося яго адкрыццё. На ўрачыстасцях прысутнічалі кіраўнікі Міёрскага раёна, жонка Цітовіча Вольга Мацвееўна, яго дачка Святлана Генадзьеўна. І, вядома ж, артысты хору Цітовіча. Гучалі задушэўныя беларускія песні, выконваліся танцы. Панаваў святочны, узнёслы, радасны настрой.

Тэкст і фота Ул. КРУКА.

ЛІТКУР'ЕР

## Вершы, песні, кветкі...

«...Залунай на ўвесь прасцяг, агнявых вякоў прасцяг! Ёсць Дзяржава і Народ: развівайся — і ў палёт сцяг мой вольны, сцяг мой смелы, сцяг мой бел-чырвона-белы», — пела Вольга Чыркун песню свайго бацькі кампазітара Алега Чыркуна на вершы Сяргея Панізніка «Родны сцяг» у Доме літаратара на творчым вечары паэта. Вядучыя вечарыны Рыгор Барадулін і Вячаслаў Рагойша гаварылі аб творчасці С. Панізніка, іх дапаўнялі Таццяна Кабржыцкая, Пятро Сушко, Пятрусь Макаль, Адам Мальдзіс, Алег Лойка, прафесар Ірына Шаблоўская і іншыя.

Кампазітары Ганна Казлова і А. Чыркун, бард Уладзімір Палупанаў, выконвалі свае песні на творы С. Панізніка — як старыя, так і новыя. Вершы чыталі сам аўтар і заслужаная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.

П. ГАРДЗІЕНКА.

## Успомнілі Язэпа Пушчу

Адна з апошніх вечарын у Доме літаратара была прысвечана 90-годдзю з дня нараджэння Язэпа Пушчы. Вёў яе Сяргей Законнікаў. Незабыўны воблік аднаго з самых цікавых нацыянальных паэтаў паўстаў з выступленняў Васіля Хомчанкі, Сяргея Грахоўскага, жонкі творцы Станіславы Эдуардаўны Плашчынскай. Навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі Людміла Мазанік расказала пра двухтомнік выбраных твораў Я. Пушчы, першы том якога неўзабаве пабачыць свет.

Музычна-літаратурную кампазіцыю па творах Я. Пушчы прадставілі студэнты Мінскага педінстытута, артысты народнага тэатра чытальнікаў «Жывое слова». Вершы Я. Пушчы гучалі таксама ў выкананні Мікалая Чырыка і Маргарыты Захарыя. У канцэртнай праграме прыняла ўдзел спявачка Надзея Мікуліч.

П. ПЯТРОЎ.

ПРЭМ'ЕРЫ

## Знак Перуна і Крыжа



20 мая ў Доме літаратара прайшла прэм'ера дакументальнага фільма рэжысёра Уладзіміра Арлова пра мастака Аляксея Марачкіна. Фільм называецца «Мара» (так мастак часам падпісвае свае карціны). З нагоды прэм'еры ў фае перад глядзельнай залай была наладжана выстава жывапісных твораў мастака паводле беларускіх легенд і паданняў. У экспазіцыю гэтай незвычайнай выставы, што працавала ўсяго некалькі гадзін, уваходзіла інсталяцыя «Знак Перуна і Крыжа». Яна ўвасабляла адзінства паганскага і хрысціянскага пачаткаў у беларускай культуры. Аўтары інсталяцыі — А. Марачкін, Л. Талбузін, Я. Шунейка.

На вечарыне са словамі пра Марачкіна, мастака і чалавека, выступілі ягоныя сябры, землякі і калегі — В. Шаранговіч, У. Някляеў, А. Разанаў і іншыя. Гучалі песні ў выкананні Касі Камоцкай.

В. БОГУШ.

Фота У. ПАНАДЫ.

ТЭАТР

## Тэатр з зоны: хроніка мастацкіх падзей

Напрыканцы 1991 года Краснапольскі народны тэатр спектаклем паводле А. Дударава «Узлёт» прадстаўляў Беларусь на Дэкадзе аматарскіх тэатраў у Курску (Расія).

З новым спектаклем «Стогн душы» паводле М. Гарэцкага краснапольцы былі запрошаны Саюзам пісьменнікаў Беларусі на вечарыну, прысвечаную сустрэчы з братамі Ермаловічамі. Нядаўна з гэтым самым спектаклем тэатр пабываў на радзіме М. Гарацкага ў Мсціславе; артысты наведалі вёску Малая Багацькаўка і дом, дзе з'явіўся на свет пісьменнік.

Са спектаклем «Вечар камедый» тэатр сістэматычна раз'язджае па вёсках раёна, мяркуючы не прапусціць ніводнае, бо ён карыстаецца вялікім поспехам у гледачоў.

Рыхтуюцца спектаклі па п'есах Янкі Купалы «Прымакі» ды А. Петрашкевіча «Дагарэла свечка на палічцы». Кіраўніку тэатра заслужанаму работніку культуры Беларусі В. Ермаловічу рупяць акцёрскія кадры для краснапольскай сцэны, — з удзельнікамі маладзёжнай студыі ён працуе над п'есай А. Гаруна «Хлопчык у лесе».

Я. КАПЛУНОВА.

г. п. Краснаполле.

ВЫСТАВЫ

## Кнігі нашага замежжа

Кнігі і перыядычныя выданні, выпушчаныя ў замежных краінах прадстаўнікамі беларускага замежжа, экспануюцца на выставе ў Дзяржаўнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь імя У. І. Леніна. Сярод іх кнігі М. Сяднёва, А. Салаўя, К. Акулы і іншых аўтараў, «Англійска-беларускі» і «Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак фразеалагічны і прыказкаў» Я. Станкевіча, даследаванні Л. Гарошкі «Паходжанне чалавека ў святле сучасных знаходкаў», «Навука і рэлігія», альбом У. Шнэка «Беларуская краёвая абарона: уніформа і адзнакі», фальклорна-этнаграфічныя выданні «Чатыры ўрачыстасці» А. Варлыгі, яго ж «Забабоны»...

## Не маўчыць даўніна

Дзве экспазіцыі прываблiваюць увагу наведвальнікаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Адна з іх пад назвай «З калекцыі князя Паскевіча» прапанавана са збору Гомельскага абласнога краязнаўчага музея. Другую — «Старажытнабеларускі іканапіс і рэдкая кніга на Беларусі» — падрыхтавалі гаспадары сумесна з Дзяржаўнай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь імя У. І. Леніна. Яшчэ адна магчымасць далучыцца да нашай багатай гісторыі, у многім зразумець, як жылі мы раней.

## 20-я... 60-я... 80-я...



А. ТЫЧЫНА. «Брэст. У порце».

Палац мастацтваў. Тут зараз экспануюцца тры выставы. Выстава памяці Анатоля Мікалаевіча Тычыны (1897—1986). З імем мастака звязаны даволі плённы перыяд у нашым мастацтве — 20-я гады. Менавіта тады былі зроблены найбольш цікавыя і змястоўныя творы Анатоля Мікалаевіча. У пасляваенныя гады мастак ствараe своеасаблівы графічны летапіс сталіцы БССР. На ягоных аркушах відаць, як будавалася галоўная магістраль горада (тады Сталінскі праспект), як мяняўся архітэктурны сілуэт Мінска.



А. МАЛІШЭЎСКІ. «Партрэт жонкі».

Альгерт Адамавіч Малішэўскі (1922—1989) болей чым хто іншы з яго калег аддаваў увагу фармальнай выразнасці жывапіснага твора. Яго па праву лічаць адным з лепшых каларыстаў у сучасным беларускім мастацтве. І творы, што зараз экспануюцца ў Палацы, у гэтым яшчэ раз пераконваюць.

Калісьці, недзе ў 1987 годзе, у Палацы мастацтваў экспанавалася выстаўка «З калекцыі Плясанава». Шчыра кажучы, калекцыя была слабая і творы хоць і цікавых мастакоў, але відавочна выпадковыя і другасныя. Але гэта быў першы выпадак, калі «авангард» заняў самую прэстыжную залу Мінска. Ды і гледачам гэта было ў навіну... Цяпер, мяркуючы па экспазіцыі, калекцыя значна пашырылася, але засталася такой жа.



А. СЦЕПІН. «Акуляры».

КОНКУРСЫ

## Ведай нашых...

У чарговы дваццаць чацвёрты раз прайшоў традыцыйны конкурс «Мастацтва кнігі» Беларусі і краін Балтыі. Сёлета — у Таліне. Па ўмовах яго кожная дзяржава прадстаўляла 15 назваў кніжнай прадукцыі і тры назвы выяўленчых ці мініяцюрных выданняў. Прысуджалася 25 дыпломаў за кнігі і 5 — за лепшыя ўзоры выяўленчай прадукцыі.

Беларусь атрымала 8 дыпломаў. Лаўрэатамі конкурсу сталі зборнік беларускіх народных казак «Хітрэй свету не будзеш» (мастак Т. Беразенская) і аповесць Д. Фінемара «Сказ пра Робін Гуда» (мастак А. Шэвераў), выпушчаныя выдавецтвам «Юнацтва»; кніга К. Тарасава «Памяць пра легенды». Постаці беларускай мінуўшчыны» (мастакі А. Александровіч, І. Дзямкоўскі, П. Семчанка, выдавецтва «Полымя»); драматычная паэма М. Арочкі «Судны дзень Скарыны» (мастак М. Купава) — яна пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура»; даследаванне І. Юхо «Крыніцы беларуска-літоўскага права» (мастак В. Латышаў), «Супрематическая азбука» А. Кітаевай (мастак А. Кітаева), насценны каляндар «Беларускія абразы» (укладальнік Н. Высоцкая, мастак А. Свірыдава) — усе выпушчаны выдавецтвам «Беларусь» і мініяцюрнае выданне М. Багдановіча «Мае песні» (укладальнік Л. Смолій, мастак Г. Грак, Беларускае таварыства «Кніга»).

# ВАРЫЯНТ ВОСТРЫХ ВУГЛОЎ

ІМЯ МАСТАКА Міколы Пашкевіча першы раз я пачуў ад свайго настаўніка Натана Воранава. Гэта было недзе ў канцы 60-х гадоў, калі я быў студэнтам Беларускага дзяржаўнага тэатральна - мастацкага інстытута, і Воранаў разам з Ахрэмчыкам былі ў нас кіраўнікамі апошняга дыпломнага курса.

Нам, студэнтам, быў даспадобы валёрны тонкі жывапіс Натана Майсеевіча. Мы адчувалі ў ім каларыста, апантана ўлюбёнага ў жывапіс. Неяк восенню мяне запрасілі ў ягоную майстэрню, старую мансарду са шкляным дахам-ліхтаром, праз які свяціліся рудыя шматгадовыя падцёкі ад дажджу і снегу. Падчас размовы нечакана ўсплыло імя Міколы Пашкевіча, невядомага мне мастака-жывапісца. «Некалі, у 30-я гады, у гэтай майстэрні працаваў Пашкевіч, таленавіты арыгінальны мастак,— зазначыў Воранаў.— Зараз ён жыве недзе ў Амерыцы. Што і як ён там — нікому не вядома».

Я, натуральна, зацікавіўся. З таго, што пачуў ад майго настаўніка, зразумеў адно — у даваенныя гады Пашкевіч на небасхіле выяўленчага мастацтва быў, бадай што, зоркай першай велічыні. Яму прарочылі вялікую будучыню. Гэта раўніва адчувалі тады яшчэ маладыя мастакі Іван Ахрэмчык, Яўген Зайцаў і шмат хто іншы. Не ведаў я, што праз гады мне давядзецца па драбніцах збіраць звесткі пра Пашкевіча, не думаў, што буду весці з ім перапіску, рыхтаваць гэтую публікацыю, каб адкрыць яго для сябе і іншых, вярнуць гэтага творцу нашай грамадскасці, давесці да сённяшняга чытача.

Калі пісаць пра Міколу Пашкевіча, аніяк нельга не прыгадаць і ягоную сям'ю: жонку, мастачку Галіну Дакальскую, і іхнюю адзіную дачку Алію Клеч, галоўнага мастака «Disney Land».

Гартаю прысланыя з Амерыкі каталогі, каляровыя рэпрадукцыі твораў сям'і Пашкевіча. З хваляваннем углядаюся ў твары людзей, якіх лёс надоўга разлучыў са сваёй Бацькаўшчынай. Перад гэтым вёў перамовы, каб спраўдзіць задуманае, арганізаваць выставу сям'і Пашкевіча ў Менску. Размаўляў па тэлефоне з горадам Санта-Моніка, дзе жыве мастак. Шукаў тых, хто ведаў Міколу Пашкевіча і Галіну Дакальскую.

І вось, нарэшце, чытаю ліст самога мастака, які адгукнуўся на маю прапанову:

**«Паважаны Аляксей Антонавіч! Высылаю Вам для азнаямлення 23 рэпрадукцыі з маіх работ рознага перыяду. Калі Вы і Вашы сябры праявіце зацікаўленасць да іх, то гэта ўжо будзе мне найвялікшай узнагародай, мне, які згубіў усялякую сувязь з Вамі, з Радзімай, болей чым 50 гадоў. Гэта адбылося не па маёй віне, а ў выніку нечалавечага дзікага палітычнага часу. Што да Вашага жадання арганізаваць маю выставу ў Менску, то гэта наўрад ці магчыма, не толькі па прычыне майго сталага веку, але і таму, што мастакоў майго пакалення, бадай што, няма, а маладое таленавітае пакаленне мае сваё новае патрабаванне да мастацтва, і я думаю, што мая творчасць ужо мінулы перыяд і не зацікавіць іх.**

**Калі ж Вы і Саюз мастакоў знойдзеце для мяне месца сярод маіх сяброў юнацтва, як І. В. Ахрэмчыка, В. В. Волкава, скульптараў З. Азгура, Грубэ, Глебава, я з радасцю ахвярую некалькі маіх твораў Беларускаму музею выяўленчага мастацтва. Шчыра дзякую за памяць. Ваш зямляк М. А. Пашкевіч».**

Дык хто ж ён, Мікола Пашкевіч, якія жыццёвыя сцежкі закінулі яго ў далёкі свет?

Нарадзіўся мастак у 1907 годзе ў Рызе. Бацька, Аляксандр Восіпавіч, родам з Баранавіч, доўгі час працаваў на чыгунцы Рыга — Арол. Маці, Вікторыя Антонаўна Іваноўская, з Навасвянцян, што непадалёк ад Вільні. Падчас першай сусветнай вайны сям'я Пашкевічаў пераязджае ў Віцебск, горад, які ўвайшоў у гісторыю сусветнага мастацтва знакамітымі імёнамі — Казіміра Малевіча, Марка Шагала, Эль Лісіцкага. Можна толькі ўяўляць, які быў Віцебск тых часоў. Нам жа са шкадаваннем даводзіцца зазначыць, што сённяшні Віцебск, які на сваім вяку спазнаў разбуральныя войны ды доўгае панаванне бальшавіцкага рэжыму, дайшоў да нас у скажоным, дэфармаваным выглядзе, амаль цалкам знішчаны. Але ў тыя гады гэта быў непаўторны каларытны горад з вострымі шпілямі касцёлаў, старадаўнімі мураванымі цэрквамі, драўлянымі сінагогамі і крывымі вулачкамі, па якіх імчаўся вясёлы трамвай.

Мікола Пашкевіч у Віцебску атрымаў сярэднюю адукацыю, а ў 1924 годзе паступіў у мастацкі практычны інстытут. Вучоба ў гэтай навучальнай установе якраз прыпадае на час, калі ішла рэформа інстытута, пераглядаліся навучальныя праграмы (у рэшце рэшт, ён быў рэарганізаваны ў мастацкі тэхнікум). Мастацтва ўжо разглядалася з пазіцый класавага партыйнага падыходу. З пункту гледжання ідэалагічных бальшавіцкіх установак ішла жорсткая барацьба з так званым фармалізмам і дэкадэнцтвам. Ды ўсё ж разбуджанае на пачатку 20-х гадоў мастацкае жыццё не магло адразу заглухнуць пад націскам бальшавіцкіх дырэктыў. Яшчэ жыў дух Малевіча, яго «супрэма» ажыўляла віцебскае паветра і, безумоўна, мела вялікі ўплыў на душу юнага мастака. Яшчэ на памяці былі блакітныя, мала зразумелыя фантасмагорыі Марка Шагала.

Мікола Пашкевіч вучыўся ў тэхнікуме разам з Яўгенам Ціхановічам, Заірам Азгурам, Віталем Цвіркам, Яўгенам Красоўскім. Тады ж, у канцы 20-х гадоў, у тэхнікуме з'явіліся вядомыя мастакі-педагогі В. Волкаў і Г. Эндэ. Паслядоўнік рэалістычнай школы В. Волкаў у сваёй манеры жывапісу быў блізкі да мастакоў-«перасоўнікаў» пазнейшага перыяду. Метад сацрэалізму паслядоўна ўкараняўся ў свядомасць маладых мастакоў. Ад іх патрабавалі мастацтва «понятного» для партыйнай наменклатуры.

Пасля заканчэння тэхнікума Пашкевіч у 1928 годзе паступае ў Ленінградскую акадэмію мастацтва, дзе вучыўся пад кіраўніцтвам Рылова, а потым Пятрова-Водкіна. Нейкі час займаўся на курсах у Бродскага. Закончыўшы вучобу, Пашкевіч з 1933 года жыве ў Менску, дзе ўжо пачалося культурнае будаўніцтва... «нацыянальнае па форме і сацыялістычнае па зместу». Пашкевіч, які прайшоў прафесійную мастацкую падрыхтоўку ў знакамітых мастакоў-педагогаў, валодаючы высокім прафесіяналізмам рэалістычнага накірунку, як ніхто іншы ўпісваўся ў тагачаснае мастацкае жыццё. Ён лёгка спраўляўся з тымі задачамі, якія ставілі перад мастакамі чыноўнікі ад культуры. На яго палотнах мог з'явіцца і па-майстэрску напісаны з натуры вартаўнік з дубальтоўкай, пасля названы «Партызанам-змагаром з белапалякамі», і юнак-чырвонаармеец. У тыя гады афіцыйныя ўлады асабліва падтрымлівалі і арыентавалі мастакоў на тэму барацьбы беларускіх партызан з белапалякамі. Адгэтуль бярэ пачатак партызанская тэматыка, якая стала на доўгія гады вядучай у беларускім мастацтве. Дайшло да таго, што беларускіх мастакоў на ўсесаюзных мастацкіх выставах пазнавалі па колькасці вінтовак і аўтаматаў, напісаных на палатне.

Мікола Пашкевіч мог лёгка справіцца са шматфігурнай кампазіцыяй: ці гэта будуць жанчыны, якія жлукцяць бялізну чырвонаармейцам, ці Сталін на аглядзе беларускіх партызан, змагароў з белапалякамі.

Бальшавікам заўжды былі патрэбны таленавітыя мастакі, кампазітары, паэты, якія б стваралі прывабнае аблічча таталітарнага рэжыму. І рэжым дзеля такіх мастакоў не скупіўся на пахвалу і ўзнагароды. Не абмінуў ён і Міколу Пашкевіча: ён адным з першых на Беларусі быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Яго ўзнагароджвалі, ад яго і патрабавалі.

Думаю, што Мікола Пашкевіч, на той час прызнаны афіцыйны малады мастак, бачыў рэальнае жыццё сталінскай эпохі. Ажаніўшыся з маладой прыгожай мастачкай Галінай Дакальскай, якая ў свой час таксама скончыла Віцебскі мастацкі тэхнікум, ён быў сведкам арышту і высылкі ў далёкую Сібір маці Галіны, настаўніцы. Ведаў ён і іншыя праявы тэрору супраць шматпакутнай беларускай інтэлігенцыі. Адчуваў, як нялёгка даводзілася Галіне. Гэта быў цяжкі, трагічны час для ўсіх людзей Беларусі, і перш за ўсё для творчай інтэлігенцыі. Потым, праз шмат гадоў, у Злучаных Штатах ён напіша «Варыянт вострых вуглоў» — беларускую Галгофу...

Галіна Дакальская працавала мастаком у газеце «Чырвоная змена», разам з паэтам Сяргеем Грахоўскім. Ён на той час быў загадчыкам аддзела літаратуры і адначасова працягваў вучобу ў педінстытуце. Як успамінае паэт, Галіна сваім прыходам, сваёй прысутнасцю ажывіла наскрозь ідэалагізаваную газету, якая сумна апісвала выкананні і перавыкананні планаў, калгасы ды камуны. На старонках газеты яна ўдала малявала розныя карыкатуры, пісала загалоўкі. І гэта быў адзіны на той час заробак. Сяргей Грахоўскі ўспамінае, як Галіна са сваёй сястрой Бірутай, артысткай беларускага тэатра, атрымлівалі па картках хлеб, эканомілі яго, складвалі разам гэты паёк і былі шчаслівыя, што пражыты яшчэ адзін дзень. Такі быў час. Якраз у гэты перыяд, калі Галіна працавала ў рэдакцыі, Мікола Пашкевіч і пазнаёміўся з маладой мастачкай, з якой было наканавана разам прайсці праз усё жыццё. Бачыў Мікола, што тварылася ў душы Галіны, калі начныя аблавы і чуткі аб чарговым хапуну распаўзаліся па Менску. «Варыянт вострых вуглоў» злавесна акрэсліваў свае контуры.

Пачыналася другая сусветная вайна. У калатнечу былі ўцягнуты мільёны людзей.

**«Вайна,— піша ў сваіх успамінах мастак Яўген Ціхановіч,— застала невялікую групу мастакоў з сем'ямі ля Пухавічаў. Вёска адпавядала месцу адпачынку—яна была не вельмі далёка ад Менску, і ў ёй было ўсё, што трэба пейзажысту. Частка з тых мастакоў спрабавала ісці пешшу на ўсход, але нічога з таго не атрымалася. Людзі вярталіся не ў Менск, а на вёску, бо ведалі, што ў горадзе згарэла кватэра, а па-другое, як пражывеш без харчоў?**

**Савецкія дывізіі адступалі. Трэба было прыстасавацца да новых умоў... Мастакі Алтуф'еў з сям'ёй, Станкевіч, Пашкевіч з жонкай, мастачкай Галінай Дакальскай, з пляменніцай і маці (маці Дакальскай вярнулася з турмы перад самай вайной.— А. М.), Сухаверхаў з жонкай-**



М. ПАШКЕВІЧ. «На крыжы-2».



Г. ДАКАЛЬСКАЯ. «Пасля дажджу»

## Доўгачаканыя лісты

Галіне ДАКАЛЬСКАЙ і Мікалаю ПАШКЕВІЧУ

**З далёкай Каліфорніі лісты**
**Ідуць, нібы з другой планеты,**
**Як граматкі на скрутках берасты,**
**Ці як сняжынкі з лютага да лета.**

**А там сумуюць слаўныя сябры,**
**Запальваюць у памяць родных свечкі,**
**Прыгадваюць палескія бары**
**І смуткам затуманеныя рэчкі.**

**Шуміць па лісці першы цёплы дождж,**
**Плыве за аблачынкай аблачынка,**
**Бягуць з маленства ў сталасць басанож**
**Хлапчук і прамяністая дзяўчынка.**

**Іх напаткаў нелітасцівы лёс**
**І разлучыў з Радзімай нечакана,**
**І засталіся любыя да слёз**
**Бары і рэчкі дзесь за акіянам.**

**У Санта-Моніка вясновыя вятры**
**Шумяць і ціха стукаюцца ў шыбы,**
**Там журацца маёй вясны сябры**
**І ўспамінаюць родныя сялібы.**

**Прахопяцца апоўначы ў цішы,**
**І сэрца ўсхваляванае падкажа:**
**«Мальберт чакае. Помні і пішы**
**Вясновыя палескія пейзажы».**

**Ад сэрца к сэрцу цягнуцца масты**
**Праз Акіян да дзедаўскага краю.**
**З далёкай Каліфорніі лісты**
**Заўсёды, як Вялікадня, чакаю.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**



Алія КЛЕЧ з характарамі фігур для парада ў «Disney Land».

**мастачкай Лі й яе сынам засталіся на вёсцы...»**

Доўга ў вёсцы сядзець не прыйшлося. Недзе ўначы ў хаце з'явіўся ўзброены камандзір партызанскай брыгады і загадаў, каб праз дзень збіраліся ў лес. На роздум шмат часу не давалася. Для мастакоў, якіх вайна застала ў вёсцы, гэта было нечаканым. Некаторым з іх прыйшлося змяніць пэндзаль і аловак на аўтамат, іншыя ратаваліся хто як мог. Дні, праведзеныя ў беларускіх лясах сярод партызан, шмат для каго надоўга засталіся ў памяці і сталі асноўнай тэмай іхніх палотнаў. Зноў жа, ідэолагі бальшавізму пасля перамогі ўсяляк падтрымлівалі гэтую тэматыку, як найбольш важную і значную для мастацтва Беларусі. Вось чаму карціна Сухаверхава «За родную Беларусь» прапагандавалася ва ўсіх школьных падручніках, часопісах і газетах і доўгі час лічылася ўзорам сацрэалізму. А, скажам, палатно Мазалёва «У партызанскім штабе», напісанае праўдзіва і сурова, без ілжывага пафасу, было сустрэта афіцыйнымі коламі насцярожана і стрымана.

Але вернемся да тых ваенных дзён. Мікола Пашкевіч і ягоная сям'я не пайшлі следам за партызанамі ў лес. Можна зразумець няпросты стан мастака, кар'ера якога, каб не ваеннае ліхалецце, узнесла б яго на афіцыйны мастацкі Парнас. Туды трапляў толькі той, хто быў «угоден» і «податлив». Гэта бачыў і адчуваў яшчэ тады, да вайны, Мікола Пашкевіч. Ён у гэтай ваеннай калатнечы апынуўся між молатам і кавадлам. Рукі мастака былі болей прывычныя да алоўка, мяккага і пругкага пэндзля, чым да халоднага металу зброі.

Пашкевічы вырашаюць з'ехаць з некалі абжытых мясцін да сваякоў і знаёмых, спачатку ў Вільню, а потым — у Коўна. Так яны апынуліся ў Летуве. Там у 1944 годзе нарадзілася дачка Алія. Было ўжо відаць, што немцы прайграюць вайну. Чырвоная Армія наступала ўсё бліжэй і бліжэй да Коўна. А нямецкая прапаганда трубіла і ўдзень і ўначы, што з прыходам чырвоных прыйдзе караючая, бязлітасная рука Сталіна. Неабходна было рашаць — ці чакаць прыходу савецкай улады, якая не дужа будзе міласэрнай да тых, хто аказаўся ў акупацыйнай зоне, ці ісці на захад. Маці Галіны, якая зведала пяць гадоў сібірскіх лагераў, не хацела яшчэ раз апынуцца ў ГУЛАГу. Так яны трапілі ў зону саюзнікаў, адкуль і пераехалі ў Нью-Йорк. Галіна ўладкавалася на фабрыку, дзе распісвала посуд і мела сякітакі заробак, якога хапала на пражыццё. Ды яшчэ нешта эканомілі, збіралі на заўтрашні дзень. Нечакана захварэў Мікола. Гэта была пакутлівая невядомая хвароба, з якой не маглі справіцца, і ўсе зберажэнні пайшлі на яго выратаванне. Добрая мілая Галіна рабіла ўсё, каб выжыў яе Мікола. У горадзе Санта-Моніка яна пазнаёмілася з лекарам-хірургам, які знайшоў прычыну нячутай хваробы. Аперацыя прайшла паспяхова, і сям'я Пашкевічаў з таго часу стала жыве ў горадзе Санта-Моніка.

Доўгі час над Міколам Пашкевічам і ягонай жонкай вісела чорная непрабіваемая святлом заслона маўчання. У Савецкай Беларусі гэтыя імёны ніколі не згадваліся ў афіцыйным друку (зразумела, па якой прычыне). КДБ сачыў за сваякамі, якія так ці іначай маглі выйсці на сувязь з Пашкевічам; Бірута Дакальская, сястра Галіны, мела шмат непрыемнасцяў, калі трэба было запаўняць графу «имеются ли родственники за границей». Але ж хто мог папракнуць Міколу Пашкевіча і яго сям'ю за іх права свабодна распараджацца сваім лёсам? Як піша сам Мікола, ён фактычна стаў ахвярай «дзікага палітычнага жыцця». І хто можа сказаць, што ягоны выбар жыць у Вольным Свеце даўся яму лёгка? У сваіх снах і пакутлівых думках Галіна і Мікола заўсёды імкнуліся на сваю Бацькаўшчыну, да родных мясцін. І пра гэта найперш гавораць іх творы, творы беларусаў, што жывуць за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Не відно, каб яны здрадзілі свайму мастакоўскаму сумленню.



М. ПАШКЕВІЧ. «Індзеец атакуе»

На тых рэпрадукцыях, што былі дасланы мне Пашкевічам, я не сустрэў канкрэтных матываў, звязаных з Беларуссю — магчыма, яны ёсць ці яшчэ з'явяцца, аднак перада мною незвычайны, арыгінальны мастак са сваім светаўспрыманнем і светапоглядам.

Калі ў Галіны, ягонай жонкі, светлыя, не без уплыву французскага імпрэсіянізму мажорныя нацюрморты, краявіды і партрэты, то ў Міколы, па сваім настроі і глыбіні,— творы філасофскага роздуму з нейкім асаблівым пачуццём драматызму. Такі яго «Хрыстос», «Аматар птушак», «Трубачыст». Асабліва ўражвае карціна «На крыжы-2». Па кампазіцыі галава Хрыста займае амаль увесь фармат. Глыбока псіхалагічны вобраз пакутніка пададзены буйным планам. Укрыжаваны Хрыстос паказаны зусім не кананізавана. У сваіх пакутах ён, як на беларускіх абразах — З НАМІ, А НЕ НАД НАМІ. Сын Божы паказаны па-мужыцку, перш за ўсё — як Чалавек. Эмацыянальна напружаныя палотны «Страшны сон» і карціна 1971 года «Варыянт вострых вуглоў». Гэтае палатно можа найбольш за ўсе іншыя адкрывае таямнічую драматычна-містычную душу мастака Пашкевіча. Яна — ключ да разумення ўсёй ягонай творчасці.

Праз усё мастакоўскае жыццё праходзіць тэма абарыгенаў Амерыкі — індзейцаў. Можа, у іх мастак шукаў і бачыў роднасць са сваёй душою, нейкую агульнасць лёсаў. У адлюстраванні індзейца, які ў сваёй малітве схіліўся над чашай, мастак не ідзе па шляху знешніх прыкмет, экзотыкі, а падкрэслівае глыбіню пачуцця гэтага чалавека, яго веру. З пункту гледжання прафесіяналізму ягоныя малюнкі энергічныя, экспрэсіўна-эмацыянальныя. Мікола Пашкевіч па-майстэрску валодае лініяй і тонам. У яго малюнках ёсць нешта ад славутага каларыста Фешына. Да таго ж трэба зазначыць, што Фешын да канца свайго жыцця жыў у Санта-Моніка, і Пашкевічу была добра знаёмая творчасць гэтага майстра.

У сям'і Міколы Пашкевіча жыве прыгожая Муза Мастацтва. Гэта відаць па тых дакументальных фотаздымках і агульнай абстаноўцы іхняга дому. Гэта відаць па працах ягонай жонкі і творах дачкі.

Галіна Альфонсаўна сёлета адзначыла сваё 80-годдзе, але выглядае бадзёрай і жыццярадаснай. І творы яе такія ж. Сярод іх ёсць адзін, на мой погляд, асаблівы. Называецца ён «Пасля дажджу» і вельмі нагадвае, як мне здаецца, нашую Беларусь.

Што ж да творчасці Аліі, мастачкі «Disney Land», то гэтая творчасць, хоць і вядомая нам па публікацыях ды тэлевізійных перадачах, з вялікай цікавасцю была б успрынята нашым глядачом у натуры, на выставе, на прадстаўленні. Папулярнасць «Disney Land» у Еўропе агульнавядомая. Дастаткова нагадаць, якім поспехам карыстаецца казачны горад, узведзены амерыканцамі ў Парыжы. Для нас важна тое, што, як піша ў сваім лісце Галіна Дакальская: «Афіцыйны ліст ад Беларускага Міністэрства культуры з просьбай азнаёміць Беларусь з творчасцю «Disney Land» дапамог бы ёй, Аліі, прыслаць увесь багаж яе прац, так як кампанія «Disney Land» зацікаўлена рэкламаваць за мяжой, асабліва ў былым Савецкім Саюзе, сваю творчасць».

Што ж, будзем рабіць усе магчымыя захады і спадзявацца на тое, што творчасць сям'і Пашкевічаў у хуткім часе пабачыць грамадскасць рэспублікі. Ёсць пэўная зацікаўленасць Карціннай галерэі Саюза мастакоў Беларусі наладзіць у Менску такую выставу.

**Аляксей МАРАЧКІН,**
**мастак.**

# Памёр Мікола ГАХОВІЧ



На пачатку траўня (3.05.92) у Лондане на 68 годзе жыцця памёр наш суайчыннік са знакамітага двухсотгадовага беларускага праваслаўнага роду Гаховічаў — Мікола Георгіевіч Гаховіч. Ён нарадзіўся 6 жніўня 1924 года ў Стоўбцах у сям'і протаірэя Георгія Усцінавіча Гаховіча. Скончыўшы гімназію ў Вілейцы, працягваў вучобу ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, адкуль падчас вайны акупанты прымусова вывезлі яго за межы Беларусі. З 1945 г. стала жыў у Англіі. Там жа атрымаў адукацыю інжынера. Але галоўную сваю дзейнасць ён бачыў у выданні беларускага праваслаўнага часопіса «Голас Часу». Да апошніх дзён свайго жыцця ён выконваў абавязкі старасты беларускага праваслаўнага прыходу ў Лондане пры Царкве Святой Ефрасінні Полацкай.

У верасні гэтага года ён збіраўся прыехаць на святкаванне Тысячагоддзя Хросту Беларусі і ўтварэння Полацкай епархіі, але заўчасная смерць адлучыла яго ад доўгачаканай сустрэчы са шматлікімі знаёмымі і сваякамі на роднай зямлі.

Выказваем глыбокае спачуванне родным, сябрам і блізкім нябожчыка. У нашых сэрцах ён назаўсёды застанецца шчырым праваслаўным беларусам, які аддана служыў сваёй веры і светлай ідэі духовага адраджэння Бацькаўшчыны.

Запрашаем усіх, хто ведаў нябожчыка, на памінальную паніхіду, якая будзе спраўлена ў Менскім Св. Петра-Паўлаўскім саборы 12 чэрвеня а 12 гадзіне.

**Беларускае Праваслаўнае Брацтва трох Віленскіх Пакутнікаў.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ЦІ МОЖАШ НАЗВАЦЦА КУЛЬТУРНЫМ?

У пачатку нашага стагоддзя па запрашэнні ўрада на Беларусь прыехалі выкладаць навукі рускія вучоныя. Першы год яны выкладалі па-руску, а ўжо праз год ва універсітэце і іншых адукацыйных установах пачалі чытаць лекцыі на беларускай мове.

Пераход навучання на беларускую мову сёння можа быць паступовым, але адкладваць гэту вялікую справу на пазнейшы час мы не маем права, трэба выконваць Закон аб мовах, прыняты Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

Пакуль што выкладанне ў шмат якіх навучальных установах вядзецца ў асноўным на рускай мове. Больш за ўсё ўпарцяцца закону не студэнты, а выкладчыкі, бо трэба перакладаць навучальны матэрыял. Пачынаць тут трэба з падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі выкладчыкаў.

Без вырашэння пытанняў па развіцці роднай мовы не можа быць адраджэння нацыянальнай культуры і фарміравання нацыянальнага стылю жыцця. Без гэтага не можа быць далейшага развіцця нацыянальнай палітыкі, эканомікі, навукі, асветы, не можа быць пазітыўных зрухаў у справе адраджэння роднай культуры і спадчыны.

Тым людзям, якія не ведаюць роднай мовы, а жывуць у рэспубліцы, патрэбна стварыць спрыяльныя ўмовы для яе вывучэння. І гэтую справу неабходна ўжо сёння ўскласці на адпаведныя ўстановы не толькі адукацыі, але і культуры, асабліва на краязнаўчыя, літаратурныя, народныя, фальклорныя музеі. Актыўны ўдзел у гэтым павінны прыняць адпаведныя творчыя саюзы і царква. Неабходна больш праводзіць мерапрыемстваў, народных свят, гулянняў, вечароў, сустрэч, прысвечаных распаўсюджанню беларускай мовы з удзелам у іх дзеячаў літаратуры і мастацтва, вучоных, мовазнаўцаў, краязнаўцаў, фалькларыстаў.

Можа, я нічога новага і не сказаў, але пакуль што, акрамя дэкларавання, у нас справа далей не ідзе. А між тым, сёння ўжо людзі пачынаюць разумець неабходнасць вывучэння мовы і адчуваюць патрэбу ў яе выкарыстанні на практыцы.

І сапраўды, ці можа чалавек, які не ведае роднай мовы ці мовы краіны, у якой жыве, назвацца культурным?

**А. ДЗЯРАБІН,**
**культуролаг.**

г. Віцебск.

**АБ'ЯВА**

## БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ МАСТАЦТВАЎ

### АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС

**на замяшчэнне вакантных пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто валодае беларускай мовай):**

— загадчыка кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — 1

— загадчыка кафедры графічнага дызайну і рэкламы — 1

— дацэнта кафедры малюнка — 2

— дацэнта кафедры інтэр'ера і абсталявання — 1

— старшага выкладчыка кафедры дызайну — 1

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.

Заявы і дакументы, згодна палажэнню аб конкурсах, падаваць на імя рэктара акадэміі на адрас: 220012, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў; тэл. 32-77-34.

# Акрыленая любоўю

## Адзін дзень з Верай РЫЧ

Першы раз я сустрэўся з Верай Рыч роўна год таму. Яна прыйшла паглядзець наш музей, хаця нам паказваць яшчэ асабліва не было чаго. Мы цягалі нейкія бочкі з фарбаю і пакостам, я моцна ўпэцкаў рукі і таму, калі пры ўваходзе ў музей мяне прадставілі ёй — не было як і парукацца.

Вера Рыч вядомая ў нас на Беларусі як лепшая перакладчыца беларускай паэзіі на англійскую мову. Яе анталогіі «Like water, like fire» (1971) і «The images swarm free» (1982) ці не адзінае сапраўднае, што з'явілася ў свеце па-англійску з нашай паэзіі. Апроч усяго, яна і сама піша вершы па-англійску.

Мы запрашалі спадарыню Веру на сотыя ўгодкі з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Прыехаць яна не здолела.

Напачатку англійская адміністрацыя, апрача афіцыйнага запрашэння на святкаванне, запатрабавала пацвярджэння нашага Міністэрства замежных спраў — англічане не маглі хутка забыць жнівеньскія падзеі, а затым з'явіліся і асабістыя прычыны — у яе вельмі хварэла маці.

І вось спадарыня Вера зноў завітала ў музей Максіма Багдановіча, бо Багдановіч — яе любімы беларускі паэт.

Гэтая сталая ўжо жанчына захоўвае зусім юнацкую цікавасць да жыцця і паэтычнае ўспрыманне свету.

Вера Рыч за каваю распавядае, як святкавалі сотыя ўгодкі ў Лондане.

Святкаванне рабілі інтымным, не імкнуліся за вялікаю колькасцю людзей. Прыйшлі тыя, для каго патрапіць на гэтую вечарынку было зусім немалаважным.

Пытаюся пра фотаздымкі для музея. Яна тлумачыць, што не звярнула ўвагу, ці фатаграфаваў хто, бо была вельмі заклапочаная благім станам маці і з бальніцы адразу паехала на вечарыну, дзе таксама не ў лепшым стане знаходзілася яе сяброўка, англійская журналістка, аматарка паэзіі Максіма Багдановіча, якая мусіла спяваць і дэкламаваць ягоныя вершы. Муж сяброўкі — харват, вядомы англійскі журналіст, пад гэты час пісаў свае рэпартажы з Харватыі, дзе ішла вайна.

Вечарына ў Марыянхаўзе прайшла вельмі добра. Усцешаныя былі старыя беларусы, задаволеныя англійскія прыхільнікі паэзіі Максіма-Кніжніка. Партрэт юбіляра аздабляў Уладзя Селядцоў, малады мастак, які вучыцца ў Лондане на тэалогіі і па водгуках Веры Рыч — зараз адзін з найлепшых студэнтаў.

Калі праз два тыдні ўтварыўся СНД і ўсе англійскія журналісты шукалі на мапах, дзе гэта новая сталіца — Менск, дык той харват хмыкнуў і папракнуў калегаў: «Вы не ведаеце? Як можна! Гэта ж цэнтр Еўропы і мая жонка нядаўна дэкламавала вершы на вечарыне беларускага паэта».

Спадарыня Вера з задавальненнем частуецца канапкамі з журавінамі. Бачна, што беларускія журавіны для яе — сапраўдны далікатэс.

Маці ў спадарыні Веры неўзабаве памерла, і ўвесь пачатак года ў яе забралі клопаты з пахаваннем, афармленнем розных папер, якіх у Англіі таксама хапае, і ўвогуле стан жыцця быў далёка не лепшы. Але зараз усё неяк наладзілася, і яна пры першай магчымасці прыехала на Беларусь. Спынілася была на час і творчая праца, у прыватнасці, падрыхтоўка грунтоўнага выдання перакладаў вершаў і прозы Максіма Багдановіча, але ўсё будзе зроблена сёлета, запэўнівае нас Вера Рыч.

Пасля кавы мы ідзём аглядаць музей. Яна захапляецца разбянай столлю, якая нагадвае ручнік маці паэта, і жырандоляю ў першай зале, якая падобная на балотныя кветкі з вершаў самотнага паэта. Спадарыня Вера адзначае высокі мастацкі ўзровень экспазіцыі музея, якое выканана мастаком Э. Агуновічам у стылі мадэрн. Гэта можна смела паказваць усёй Еўропе, заўважае яна. Але экспанаты ў музеі не губляюцца. Яны падсвечваюцца мастацкай аздобаю. У цэлым экспазіцыя, на яе думку, перагукаецца з вершамі Максіма Багдановіча, дзе каштоўны, выверaны змест быў укладзены ў дасканалую, адшліфаваную форму.

Як станоўчую рысу канцэпцыі экспазіцыі спадарыня Вера адзначае адсутнасць прыземленасці, сялянскасці, якія доўгі час былі абавязковым атрыбутам у паказе беларускай культуры.

Я ў сваю чаргу хвалюся новым набыткам музея — «Вянком» Максіма Багдановіча, які ў свой час належаў Уладзіміру Дубоўку і перададзены нам прафесарам Д. Бугаёвым.

Вера Рыч параўноўвае лёс і творчасць Максіма Багдановіча з англійскім паэтам-рамантыкам Джонам Кітцам, які ў 26 гадоў памёр ад сухотаў. Вершы Джона Кітца падабаюцца ёй болей за байранаўскія. У Лондане ёсць музей Кітца.

Пра чароўнасць паэзіі Джона нам прыходзіцца верыць на слова, бо нашая культура, сціснутая ў смяротных абдымках сацыялізму, яшчэ, мабыць, не хутка здолее займець пераклады хоць бы з самага асноўнага ў англійскай літаратуры.

Мы выходзім з экспазіцыі, і спадарыня Вера выказвае цікавую думку пра адмысловае вывучэнне эпіграфаў з замежных паэтаў, якія выкарыстоўваў Максім. А гэта — Верлен, Дантэ, Фет, Гейнэ. Я пагаджаюся з ёю. На жаль, сур'ёзных даследчыкаў паэзіі Максіма Багдановіча на сённяшні дзень амаль няма.

У гэты час у музей завітвае Фелікс Янушкевіч, мастак і старшыня Беларускай каталіцкай грамады, які зараз працуе над рэстаўрацыяй жывапісу кафедральнага кацёла ў Магілёве. Я знаёмлю іх. Аказваецца, праблемы каталіцкай культуры вельмі блізкія і спадарыні Веры. Яна супрацоўнічае з каталіцкімі англійскімі перыёдыкамі і мае намер напісаць нешта пра ўжыванне беларускай мовы ў рыма-каталіцкіх касцёлах на Беларусі. Яны дамаўляюцца сустрэцца ў касцёле св. Тройцы на Залатой Горцы, дзе існуе беларуская парафія. Вера Рыч распавядае пра рэлігійную сітуацыю Англіі, дзе рыма-каталікі складаюць 8 працэнтаў насельніцтва, але маюць свае універсітэты, каледжы, часопісы, газеты і ўсё астатняе, што дазваляе ім адчуваць сябе паўнапраўнымі членамі англійскага грамадства.

«Мой далёкі продак,— гаворыць спадарыня Вера,— у XIII стагоддзі пацярпеў за ўжыванне англійскай мовы ў касцёле, таму моўную сітуацыю ў рыма-каталіцкім касцёле і праваслаўнай царкве на Беларусі ўспрымаю вельмі блізка да сэрца. Яна ненатуральная».

З музея Максіма Багдановіча мы пераходзім на другі бок Траецкага да музея гісторыі беларускай літаратуры, дзе зараз размешчана неблагая выстава, прысвечаная беларускай літаратуры 20—30-х гадоў. Мы ідзём праз пакаленні няспраўджаных надзей, бо амаль усе пісьменнікі былі выкашаны сталінскім рэжымам. Ідэалагічны ўціск, тым не менш, не затлуміў найлепшыя таленты, паслядоўнікаў Максіма Багдановіча ў нашай літаратуры, паэтаў «чыстае красы» У. Дубоўку, У. Жылку, П. Труса.

Вера Рыч згадвае, як у свой час спрабавала перакласці радок Дубоўкі «Чарнобыллем не зарасцеш» з верша «О Беларусь, мая шыпшына!». Па-англійску гэта гучала чамусьці досыць камічна. Ды вось часы памяняліся, і пасля 86-га года гэты верш набыў таямнічы сімвалічны сэнс.

Спадарыню Веру чакаюць у «Літаратуры і мастацтве», і мы ідзём з Траецкага каля тэатра оперы і балета паўз тумбу з расейскімі тэатральнымі афішамі, паўз помнік Максіму Багдановічу, і яна згадвае, як летась каля помніка паэту чытала свой пераклад «Пагоні», а я ў сваю чаргу згадваю верш Рыгора Барадуліна, які тады слухаў Веру Рыч:

**Ля помніка, што ў стольным Менску,**
**Чытае Вера Рыч «Пагоню»,**
**Ад асалоды па-блазенску**
**Лацвей зажмурыцца сутонню.**

**Нібыта за спіной папаску**
**Трымае ў сумцы маладзіца,**
**І развінаецца па-наску**
**На Тэмзе шытая спадніца...**

Яна пытаецца ў мяне пра лепшага беларускага паэта з тых, якія зараз жывуць. Са старэйшых я называю Рыгора Барадуліна, з крыху маладзейшых — Алеся Разанава і Алега Мінкіна.

Мы ідзём паўз Свіслач, і спадарыня Вера гаворыць, што як добра, калі горад мае раку і што яна не любіць Вену за тое, што ў гэтым горадзе няма ракі. Я недаверліва ківаю галавою.

«Качкі» — заўважае Вера Рыч, і мы з ёю назіраем за качкамі, якія нагадваюць чыстыя вымытыя лялькі на мутназялёным люстры Свіслачы. Яна распавядае пра праблему канадскіх гусей, якіх завезлі ў Англію дзеля прыгажосці. Брунатыя гусі з высокімі крэмавымі шыямі распладзіліся і зараз уяўляюць вялікую экалагічную праблему для англійскіх паркаў, выціскаючы адтуль іншыя віды птушак. Англічане адмовіліся ад фізічнага знішчэння гусей, палічылі гэта негуманным. Знішчэнне яек у кладцы таксама не дало плёну, бо гусі адразу ж рабілі новую кладку. Тады пачалі праводзіць стэрылізацыю яек, пакідаючы іх у гняздзе. Вера распавядае, што калі пра гэта даведаліся масквічы, дык доўга смяяліся, сказаўшы, што ў Маскве гэтую праблему вырашылі б за суткі. Я падумаў, што ў нас бы таксама.

Мы заходзім у «ЛіМ». Пакуль няма рэдактара, Вера Рыч дамаўляецца па тэлефоне на сустрэчу з чалавекам з камітэта па экалогіі. Яе цікавіць інфармацыя па Белавежскай пушчы, пра якую яна таксама хоча напісаць.

Неўзабаве падыходзіць рэдактар, і гаворка ідзе пра накірунак газеты, яе перспектывы, выдавецкія і фінансавыя праблемы, а таксама пра суадносіны літаратурнага і публіцыстычнага матэрыялу ў «ЛіМе».

Спадарыня Вера высока ацаніла значэнне «ЛіМа» ў літаратурным і грамадскім жыцці рэспублікі, крытычна адгукнулася пра «Литературную газету», дзе, на яе думку, зусім не засталося літаратуры. З яе боку была прапанаваная дапамога ў наладжванні журналісцкіх кантактаў і непасрэдным супрацоўніцтве яе як уласнага карэспандэнта «ЛіМа» ў Лондане.

З рэдакцыі мы выбіраемся на вуліцу Рабкораўскую да Беларускай хаткі. Па дарозе размова заходзіць аб палітыцы і спадарыня Вера распавядае, што перад выбарамі ў парламент банкі спынілі выдачу крэдытаў, у прыватнасці, яна атрымаць грошы не магла, і што калі б да ўлады прыйшлі лейбарысты, адразу б узняліся працэнты пазыкаў, бо сацыялістычны ўрад, тлумачыць яна, гэта заўсёды верагодная нестабільнасць. Але выбары прайшлі і ўжо чацвёрты раз запар ва ўладзе засталіся кансерватары.

Мы разважаем з ёй пра майскія святы. У Англіі 1-га мая таксама выхадны дзень, але гэта свята хатняга парадку. Людзі прыбіраюць у хатах, даглядаюць садочкі, якія ёсць амаль каля кожнага англійскага дома.

У свой час, распавядае спадарыня Вера, лейбарысты хацелі перасяліць працоўных у шматпавярховыя дамы, бачачы ў іх пэўную мадэль сацыялістычнага грамадства. Але зараз большасць людзей у Англіі жыве ў невялікіх дамах, што дазваляе чалавеку лепей захоўваць спрадвечную сувязь з зямлёю, а праз гэта і сваю псіхіку.

У Беларускай хатцы нас сустракае яе загадчык Эдуард Акулін.

Спадарыня Вера заварожана разглядае пакой, дзе жыў апошняга паўгода на Радзіме геніяльны беларускі паэт. Менавіта тут ён напісаў сваю «Пагоню» і паэму «Страцім-лебедзь», адны з найлепшых твораў у беларускай літаратуры.

Пасля агляду экспазіцыі для шаноўнай госці наладжваецца паказ батлейкі, якой дасканала валодае Эдуард. Лялькі ў ягоных руках як жывыя, ходзяць і таньчаць, плачуць і смяюцца.

Спадарыня Вера згадвае традыцыі містэрыі ў Англіі, якія моцна перагукаюцца з беларускаю батлейкаю. Адно, там дзеюць не лялькі, а людзі.

З часоў сярэдневяковай контррэфармацыі ў Англіі было забаронена паказваць Езуса Хрыстуса ў тэатры, адпаведна, забаранілі і містэрыі. Гэтую забарону адмянілі толькі ў 1967 годзе. Трэцім рэлігійным спектаклем на англійскіх сцэнах быў знакаміты «Езус Хрыстус — супер-зорка» — рок-опера, якая мела вялізнае значэнне ў сусветнай музычнай і духоўнай культуры.

Вера Рыч размаўляе з Акуліным наконт ужывання класічных форм вершаў у беларускай паэзіі. Высвятляюцца іхнія агульныя зацікаўленні. Абодва любяць у паэзіі адпрацаваныя стагоддзямі формы і стараюцца выкарыстоўваць іх ва ўласнай творчасці.

У кнізе водгукаў спадарыня Вера запісвае трыялет-экспромт, абыгрываючы перакладзеныя ёю радкі Максіма Багдановіча «Чэліні статуй не рабіў...»

На развітанне мы зноў разважаем пра тое, з чаго і пачалася наша сустрэча,— пра неўміручую прыгажосць паэзіі вялікага Максіма, якая звяла нашыя жыццёвыя шляхі і змусіць перасякнуцца яшчэ не адзін чалавечы лёс.

**Алесь БЯЛЯЦКІ.**

29 красавіка 1992 г.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Нумар падпісаны ў друк 28.05.92 у 18.10.**

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12